УДК 821.161.3-3
ББК 84(Беи)
А82

**Аркуш А.**
А82 Спадчына : раман / Алесь Аркуш. — Полацак : Выдавецкая ініцыятыва «Полацкае ляда», 2018. — 148 с.

Мінулае ўвесь час пераўтвараецца, усьлед за зьменамі, якія адбываюцца з чалавекам. Дакладней, у чалавека зьмяняецца ўспрыманьне свайго мінулага. Высьвятляюцца ўсё новыя і новыя акалічнасьці, якія ўплывалі на хаду жыцьця. Па-іншаму вызначаюцца галоўныя й другасныя падзеі.

Новы, пяты па ліку, раман Алеся Аркуша вельмі асабісты для аўтара. У ім ён шукае адказы на пытаньні спадчыннага ўплыву на чалавечыя лёсы, а таксама жыцьцёвага наканаваньня і таямніцаў сувязі зь мінулым.

У рамане ўсе героі — рэальныя асобы, але не ўсе падзеі насамрэч мелі месца. Хаця аўтар не выключае, што так магло быць на самай справе.

*Памяці бацькоў —*
*маёй галоўнай спадчыне*

## ЧАСТКА ПЕРШАЯ

— Табе ніколі не прыходзіла ў галаву думка пра тое, што нашыя дзеці — і ёсьць мы самі, у сэньсе нашым працягам?

Мы з братам ляжалі ў глыбокім імху ў лесе пад Зялёным Борам. Ля самага неба хісталіся вершаліны стромкіх соснаў. Здавалася, яны, як вялізныя пэндзлі, штосьці малявалі ў зыркай сінечы. Нават ня штосьці, а дакладна вядома што — аблокі.

Брат патэлефанаваў і папрасіў прыехаць. Нічога не патлумачыў. У яго голасе не адчувалася ні хваляваньня, ні двухсэнсоўнасьці. Ня ведаю чаму, але я не запытаўся, у чым справа. Ну што ж, прыехаць дык прыехаць...

І ўсё ж нейкая падспудная трывога пасялілася ў душы.

— Ну гэта, па-мойму, банальны паэтычны троп. Дзеці — нашая будучыня. Пакінем дзецям гэты цудоўны сьвет спрадвечна-некранутым. Дзеці — працяг нашага жыцьця.

Я чакаў, што брат пачне важную размову. А тут нейкія плыткія філязофскія развагі. Дзеля гэтага трэба было тэрмінова прыяжджаць?

Пры сустрэчы брат патлумачыў, што хоча зьезьдзіць са мной па грыбы ў тыя ж мясь-

ціны, куды звычайна езьдзілі з бацькамі — у бок Зялёнага Бору.

У сваёй полацкай сядзібе над Дзьвіной гэтымі днямі я пісаў новы раман. Працавалася цяжка. Марудна, пакутліва. Таму паездку ўспрыняў як патрэбны адпачынак і вандроўку па новыя думкі і ўражаньні.

— Не, я зусім пра іншае... Што нашыя дзеці — гэта ў нейкім сэньсе мы і ёсьць.

Нікога з сабой не ўзялі — паехалі ўдвух. Я зь цяжкасьцю пазнаваў родныя мясьціны. Так хутка мяняецца ўсё навокал. Калісьці мне ўяўлялася, што лес расьце вельмі марудна. Вельмі, вельмі. Ледзь не стагодзьдзямі. І калі чуў расповеды пра тое, што дасавецкай парой беларусы на зямлі, якая не адорвала ўраджайнасьцю, садзілі лес, то скептычна ўхмыляўся. Во, думаў я, і калі той лясны ўраджай гаспадар змог бы атрымаць? Ці пры жыцьці пабачыць ён стромкія сосны на сваёй дзялцы? Але на ўласным экспэрымэнце пераканаўся, што наіўна памыляўся. Гадоў дванаццаць таму пасадзіў перад сядзібай дзьве невялічкія елачкі. А цяпер ужо маю дзьве вышэзныя яліны, якія свае лапы раскінулі амаль на ўсю тэрыторыю перад ганкам. Вось так і тут, у гэтых родных мясьцінах: там, дзе рос маладняк, — дарослыя лясы, дзе расьлі дарослыя лясы — расьцярэбы высечак або сьвежыя пасадкі. І толькі лясныя дарогі, іх даўнія зьвіліны й кірункі, засталіся ранейшымі. І тыя дарогі мне падказвалі: ты тут быў ра-

ней, тут, на слупку з нумарам лясной дзялкі, ты бачыў сіваграка, тут з бацькамі спыняўся ля невялічкага балотца і зьбіраў падасінавікі, тут прыйшоў у тваю юначую галаву паэтычны радок: «вершалінамі дрэвы ня з намі, вершаліны — паверх таямніц».

— Ты хочаш сказаць, што нашыя дзеці — гэта мы, таму што ў іх нашыя гены, мы іх выхоўвалі, яны расьлі на нашым прыкладзе?

Лес шумеў, як марскі прыбой. Вельмі люблю гэты гуд — музыку, створаную ў суаўтарстве дрэваў і ветру.

Брата завуць Віктар. Ён маладзейшы за мяне на чатыры гады. Бацька расказваў, што, калі ў яго нарадзіўся другі сын, ён на працы напісаў на паперках розныя мужчынскія імёны, укінуў цыдулкі ў шапку і папрасіў калегу выцягнуць адну зь іх. Падзеі адбываліся ў Манголіі, дзе бацька знаходзіўся ў камандзіроўцы, разам зь ім была і ўся сям'я, улучна са мною. Усё ладзілася сумленна: таварыш па працы быў мангол, таму ня мог змухляваць, бо яму што Іван, што Міхаіл, што Сяргей — ніякай асабістай прыхільнасьці і перавагі. Усё вырашыў лёс. Калега выцягнуў паперку, аддаў яе бацьку, і той прачытаў: «Віктар».

— А табе ніколі не прыходзіла ў галаву, што эмбрыён, зь якога затым вырастае плод, — гэта частка нашага цела? Гэта семя, у якім закадавана ўся інфармацыя пра нас. І таму, у нейкім сэньсе, мае сын і дачка — гэта таксама і я.

Я прыўзьняўся і паглядзеў на брата. Ён ляжаў незварушна, назіраў за гайданьнямі сасновых вершалінаў і пасьміхаўся.

* * *

Цікава, калі б брату выпала іншае імя, ці адбілася б гэта нейкім чынам на яго лёсе?

Здаецца, у пратэстантаў хрост прымаюць у дарослым узросьце, калі чалавек сам можа абраць сабе веру. А калі б так было зь імёнамі? Чалавек дасягае нейкага ўзросту, у якім ужо можа самастойна асэнсоўваць і сябе самога ў сьвеце, і сьвет у сабе, і тады выбірае, адпаведна гэтаму асэнсаваньню, сабе імя.

Спытаеце, як бы звалі малалетніх дзяцей, пакуль бы яны гадаваліся безыменна? А так бы й звалі: Барысаў сын, па імені бацькі, або дачка Ганны, па імені маці.

Праўда, і пры цяперашняй традыцыі бацькоўскага выбару імя ніхто не забараняе зьмяніць яго ў дарослым узросьце. Здараюцца такія выпадкі. Але найчасьцей дзеці шануюць імя, дадзенае ім бацькамі.

Іншая справа — людзі культуры. Пісьменьнікі, музыкі, акторы, мастакі, кампазытары, кінарэжысэры. Вось тут ужо абраньне новага імя — зьява звыклая. Хтосьці гэта робіць з-за немілагучнасьці свайго прозьвішча, хтосьці — з-за трывалай традыцыі ў пэўнай галіне мастацтва, хтосьці — у камэрцыйных

мэтах, каб прывабіць публіку і стварыць адпаведны імідж.

Я ўзяў сабе літаратурны псэўданім хутчэй па традыцыі. Ці не палова маіх любімых беларускіх пісьменьнікаў друкаваліся пад псэўданімамі: Янка Купала, Якуб Колас, Кузьма Чорны, Максім Танк, Язэп Пушча, Янка Маўр, Алесь Дудар. Як бачым, нярэдка яны прыдумвалі досыць экзатычныя імёны. Чаго варты, напрыклад, Танк. Ваяўніча і прэтэнцыёзна. Але любое слова, калі гэтага захоча паэт, з часам можа зьмяніць сваю сэмантыку. І цяпер, калі мы чуем імя Максім Танк, дык у нашым уяўленьні паўстае аблічча аўтара зборніка «Нарачанскія сосны», а не груваcткая жахлівая машына, створаная для зьнішчэньня людзей.

Аднойчы, калі майму малодшаму сыну Данілу было гадоў пяць, ён спытаў у мяне: «Тата, а прызнайся, як тваё сапраўднае імя?» Мы толькі што вярнуліся ў Полацак з бацькоўскіх гасьцінаў, і сыну не цярпелася высьветліць адну дзіўную рэч. «А ты што, ня ведаеш? Мяне завуць Алесь», — не міргнуўшы вокам адказаў я сыну. Пра тое, што мяне завуць Алесем, ён ведаў ад самага нараджэньня. Так мяне называлі ўсе ў Полацку. А вось у Жодыні, горадзе майго дзяцінства, ён пачуў нешта іншае. «Не, ты мяне падманваеш, я ж добра чуў, як бабуля цябе называла Саша», — з выкрывальніцкай жарсьцю ў голасе сказаў Даніла. Імя Саша ён прамовіў

на поўныя дзіцячыя грудзі. І што мне заставалася рабіць? Тлумачыць пра традыцыю літаратурных псэўданімаў? Расказваць пра аўтэнтычныя беларускія формы імёнаў? І ўсё ж была тут, трэба прызнаць, ня дужа складаная сытуацыя. Імя Алесь зьяўляецца вытворным ад імя Аляксандар, якое мне далі бацькі. Таму я так і патлумачыў. «Цябе, Даніла, мы таксама па-featureрознаму называем — і Данікам, і Данем. Вось і Саша, Алесь, Аляксандар — гэта таксама розныя формы аднаго імя. Мне і тваёй маме больш падабаецца Алесь. Бабулі больш падабаецца Саша. Зразумеў?» — спытаў я. «Зразумеў», — расчаравана адказаў сын — не атрымалася ніякага выкрыцьця. Але ніколі пасьля гэтай размовы ён не назваў мяне Сашам.

* * *

Тое, чаму навучыўся ў дзяцінстве, не зьнікае з часам, застаецца з табой назаўсёды. Можаш не адзін дзясятак гадоў не сядаць на ровар, а спатрэбіцца, надарыцца нагода, сядзеш — і паедзеш. Як тады, у сваім далёкім, замглёным часам дзяцінстве. Або паплывеш. Або затанчыш вальс.

Пераконваўся ў гэтым неаднойчы. Але адзін выпадак мяне сапраўды ўразіў. Неяк мы вырашылі адзначыць сям'ёй дзень нараджэньня Тацяны ў гарах, дакладней на гарналыжным курорце. Вырашылі — і зрабілі.

Мушу прызнацца, што на лыжах зьяжджаў з пагоркаў апошні раз, здаецца, у чатырнаццацігадовым узросьце. Былі сярод маіх дзіцяча-юначых дасягненьняў і вельмі стромкія горкі, напрыклад спускі з узвышшаў абапал нашай рачулкі. Колькі разоў ламаў там лыжы і набіваў гузакі. Але ці магчыма тыя ўзвышшы прыпадобніць да сапраўдных гор? Божа, ну гэта непараўнальна! І калі мы прыехалі ў польскую Шклярску Парэмбу, пабачылі горы Судэты, якія атачаюць невялічкі курортны гарадок з усіх бакоў, дык калегіяльна вырашылі: ніякіх лыжаў, толькі шпацыры.

Але я ня вытрымаў. Узяў на пракат патрэбны рыштунак і паехаў, і паехаў, і па-е-е-еха-аў!!! Ногі самі згадалі, як трэба паводзіць сябе ў такой экстрэмальна-спартовай сытуацыі. Яны памяталі.

Таму не губляйце дарэмна дзіцячыя гады — вучыцеся ўсяму, няхай сабе патроху, па-аматарску. Хто ведае, што можа прыдацца ў дарослым жыцьці. Хоць падобныя скарбы й не перадасі ў спадчыну, але яны ой як могуць спатрэбіцца.

* * *

Увечары мы сядзелі за сталом. Віктар частаваў мяне ракіяй, якую прывёз з Баўгарыі. Была яна моцная, як сьпірт. Увогуле моцныя трункі я не люблю, дакладней ня любіць мой

арганізм. Але, каб не пакрыўдзіць брата, ракію хваліў і паціху пацягваў.

Было ў мяне адно пытаньне, якое даўно хвалявала, толькі не ставала дасьведчанага суразмоўцы, зь кім тое абмеркаваць. Пытаньне сямейнае. І цяпер толькі брат, мой адзіны родны брат, а родных сёстраў у мяне ніколі не было, мог быць тут дасьведчаным.

— Віктар, а табе ніколі бацька не расказваў пра нейкую таямнічую групу, якая дзейнічала ў Жодыні па вайне? Была яна вельмі ўплывовай. Яны дакумэнты падраблялі.

Віктар паставіў кілішак на стол і неяк дзіўна паглядзеў на мяне. «Напэўна, ён нешта ведае», — думка-надзея мільганула ў маёй галаве. Віктар сапраўды павінен быў ведаць больш за мяне. Я па сканчэньні наргасу зьехаў у Полацак. А ён пасьля радыётэхнічнага інстытута вярнуўся ў родны Жодынь, то бок і надалей жыў побач з бацькамі. Дарослых размоваў з бацькам у яго ў сотні разоў было больш, чым у мяне. «Ведае, ведае, напэўна, ведае», — пачаў радасна напяваць мой унутраны голас.

— А чаму гэта цябе цікавіць? — спытаў ён так, нібыта я закрануў тэму, якая па вызначэньні не магла выклікаць у мяне інтарэсу.

У розных сем'ях па-рознаму складаюцца адносіны паміж роднымі братамі. Часам крэўнікі так далёка разыходзяцца, што й бачыць адзін другога ня хочуць, а ня тое што дзяліцца сакрэтамі й таямніцамі. Але

ў нас зь Віктарам зь дзяцінства захаваліся надзвычай прыязныя адносіны. Я шанаваў іх. Спадзяюся, і Віктар таксама. Нас злучала ня толькі памяць пра бацькоў, а штосьці яшчэ. Нейкае ўнутранае паразуменьне і шанаваньне. Хоць мы настолькі розныя людзі, што цяжка паверыць, што «з аднаго гнязда». Тэхнар Віктар, які мог да гаечкі разабраць БелАЗ і скласьці зноў. І гуманітарый я, які ня ведаў, які понаж у аўтамабіле адказвае за рух, а які за гамульцы.

— Гэта адна зь сямейных загадак, якая засталася ў мяне неразгаданай, — патлумачыў я брату і глытнуў яшчэ колькі кропляў ракіі.

* * *

Жодыньскі аўтавакзал зь дзяцінства памятаю толькі з адной нагоды. Адсюль мы выяжджалі да бабулі аўтобусам на Бабін Лес. Затым паўтара кілямэтры пешкі — і наш засьценак Арлова. Было гэта ня так часта, бо звычайна на вёску нас, унукаў, завозіў бацька на «Масквічы». Мне было пяць гадоў, калі бацька купіў першае аўто. Таму мая сям'я, яшчэ да ўласнай кватэры на завулку Першамайскім, была матарызаванай. Але здараліся моманты, калі бацька, напрыклад, быў на працы, а нам, бабчыным унукам, трэба было тэрмінова ехаць на вёску адрабляць радоўку, то бок пасьвіць кароў. Летам у вёсцы шмат працы, таму вясковыя крэўныя

прасілі дапамогі. Для нас з братам гэта была цудоўная забава і прыгода. Ясна, што мы з радасьцю пагаджаліся. І вось калі бацька ня меў магчымасьці нас адвезьці ў Арлова, мы дабіраліся аўтобусам. Гэта таксама немалая прыгода, бо той нядошлы невялічкі «пазік», які хадзіў на Бабін Лес, трэба было браць штурмам, як у якім індыйскім кіно. Толькі хіба на даху не дазвалялася ехаць.

Прайшло столькі часу, але жодыньскі аўтавакзал заставаўся такім самым, якім памятаю зь дзяцінства — невялічкім будынačкам, зь білетнай касай у сярэдзіне. За прамінулыя гады горад павялічыўся ў разы. Усё навакол зьмянілася. І толькі вакзальчык пасьпяхова перажыў будаўнічы бум маладога гораду. Сёньня ён выглядае дзіўнавата на тле сучасных жалезабэтонных спарудаў, як драўляная хата сярод шматпавярховікаў найноўшага мікрараёну, які агрэсіўна пашырае свае межы. Яшчэ зусім нядаўна адразу за вакзальчыкам ішла вуліца прыватнай забудовы. На ёй жыў з бацькамі Толік Толкач. Я вучыўся зь ім разам у жодыньскім тэхнікуме. Неаднойчы гасьцяваў у той утульнай, прасторнай хаце. І бацькі ягоныя падабаліся — сардэчныя, па-беларуску адкрытыя. І гумар Толікава бацькі падабаўся. Не зласьлівы, лагодны. Няма ні вуліцы, ні хаты, ні бацькоў Толіка. І дзе тая Толькава спадчына — хіба два грудкі на гарадзкіх могілках.

Горад Жодынь, ад самага свайго заснаваньня як урбаністычнага населенага пунк-

ту, арыентаваўся на чыгунку. Нездарма ён мае два чыгуначныя вакзалы, адзін, праўда, выключна для электрычак. Менавіта на цягніку можна адсюль трапіць практычна ў любы буйны горад Беларусі. А вось з тутэйшага аўтавакзалу аўтобусы ходзяць пераважна да навакольных вёсак (колькасьць гэтых маршрутаў штогод скарачаецца). Актыўна курсуюць тут толькі маршруткі ў бок суседняга Менску — выпраўляюцца ў сталіцу ці ня кожныя пятнаццаць хвілін.

У Жодынь я дабіраўся з трыма перасадкамі. Зь Менску ехаў маршруткай і, натуральна, апынуўся ў сваім даўнім мінулым — на аўтавакзале, які згубіўся ў часе між шматпавярховікаў.

* * *

Адзінае, чаго не магу зразумець, — чаму бацька не распавёў гэтую гісторыю раней. Не лічыў яе вартай увагі? Ці проста забыўся на тыя даўнія падзеі? А можа, не хацеў мяне ўблытваць няхай сабе ў даўнюю, але цьмяную крымінальную справу? Маўляў, лепш не чапаць ліха.

У той год, калі я наведаў бацьку на лецішчы, ён ужо быў зусім кволы. Твар яго пачаў высыхаць, шчокі ўваліліся, вочы згубілі знаёмае мне з маленства зьзяньне. Раней, прынамсі, мне так здавалася, яны ўвесь час пасьміхаліся і нястомна выпраменьвалі

жыцьцярадаснасьць і аптымізм. Я нават і ня памятаю, ці бачыў калі-кольвечы бацьку ў нейкай зацятай, доўгатэрміновай роспачы або нават разгубленасьці.

Цяпер вочы былі ніякія. Нібыта яны перасталі падпарадкоўвацца бацьку. І адчувалася, што ў яго не было ўжо ўнутраных сілаў, каб вярнуць над імі кантроль.

Аднак ён не зьбіраўся сядзець склаўшы рукі, утаропіўшыся ў тэлевізар. Бацька паранейшаму корпаўся ў бульбяных разорах, паліваў грады, зьбіраў каларадзкіх жукоў, абкошваў газон электракасілкай і рабіў шмат чаго іншага. Як і летась. Як і пазалетась. Толькі трэба было бачыць, як цяпер гэта ўсё яму давалася. Здаецца, зусім нядаўна я мог сабе дазволіць лекцыю перад бацькамі на тэму: каму гэта трэба і ці акупаецца эканамічна такая праца? Сёлета ўсё было інакш. Гэта было зацятае змаганьне за жыцьцё. І нават калі я пачаў яму дапамагаць, ён усё адно знаходзіў што рабіць, чым заняцца яшчэ.

Калі на двары стала зусім горача, маці загнала нас у хату і загадала бацьку паляжаць на канапе. Не сказаць каб ён узрадаваўся гэтай камандзе, але падпарадкаваўся, зьняў у калідорчыку абутак і працоўную сьпяцоўку, надзеў спартовыя штаны ды пасунуўся да канапы.

Я ўзьняўся на другі паверх, лёг на ложак і пачаў чытаць новы нумар «Дзеяслова», які прыхапіў з сабой у дарогу. Ад сьпёкі галава

кепска цяміла, і даводзілася асобныя сказы чытаць па некалькі разоў, каб дапяць да сэнсу. Калі б я заснуў, мне быў бы гарантаваны цяжкі галаўны боль да самага вечара.

Праз гадзіну я спусьціўся на першы паверх. Бацька ляжаў на канапе тварам да столі. Яго вочы былі расплюшчаны. «Відаць, ня сьпіць», — падумаў я. Тады я зноў узьняўся на другі паверх і знайшоў у сваім заплечніку дыктафон. Некалькі разоў, ранейшым часам, спрабаваў запісаць бацькавы ўспаміны, але ўсё нешта ў мяне не атрымлівалася. Аднойчы пачаў пісаць, але падвяла батарэйка. «Ужо трэба сьпяшацца, каб не спазьніцца». — І я нэрвова пацепнуў плечукамі ад такой думкі.

Падсунуў крэсла да канапы і сеў насупраць бацькі. Але ён ніяк не рэагаваў на маю прысутнасьць.

— Ня сьпіш? — спытаў я ў яго.

— А... што? — замармытаў ён, нібыта вынырнуў зь нейкіх сваіх думак.

— Кажу, ня сьпіш? — паўтарыў я сваё пытаньне гучней, бо ведаў, што апошнім часам і слых пачаў падводзіць бацьку.

— Ня сьплю, — адказаў ён ужо ўпэўненым голасам.

— Памятаеш, я спрабаваў запісаць твае ўспаміны. Можа, зараз паўторым? — мае словы прагучалі максымальна дыпляматычна, нібыта зварот доктара, які спрабуе штосьці патлумачыць хвораму.

— Што там згадваць. Нават і ня ведаю, пра што табе расказаць, — бацькавы вусны паспрабавалі пасьміхнуцца, але гэта не зусім атрымалася.

— Жыцьцё пражыць — ня мех сшыць, — паспрабаваў пажартаваць я.

— Сапраўды, — пагадзіўся бацька.

Мы пару хвілін памаўчалі.

— Ну што, пачынаем? — парушыў я маўчаньне.

Бацька павярнуў галаву ў мой бок, зноў зрабіў спробу ўсьміхнуцца, прыўзьняўся на локці, і я дапамог яму сесьці.

— І пра што ты хочаш пачуць? — бацькаў голас гучаў стомлена і крыху разгублена.

— Ну, нешта такое, пра што ты мне раней не расказваў. Што-небудзь цікавае, — сказаў я, уключаючы дыктафон.

Мы зноў памаўчалі пару хвілін.

— Ну слухай, — пачаў бацька свой расповед. — Пра гэта сапраўды ніколі табе не расказваў. У нас у Жодыні жыў адзін вельмі разумны, спрытны і адукаваны чалавек. Прозьвішча яго было Шагойка. Ён падчас вайны быў у партызанах. Добра ведаў нямецкую мову і сабраў вакол сябе хлопцаў, якія таксама яе ведалі. Падрабляў дакумэнты і атрымліваў на нямецкіх складах у Смалявічах ня толькі прадукты і вопратку, але і зброю. Вось такі быў сьмелы і ўмелы. Скончылася вайна. Але ён не забыўся на свой промысел. Зноў арганізаваў каманду,

і пачалі яны падрабляць ужо савецкія дакумэнты. І ня толькі складзкія накладныя, але і розныя даведкі, і нават дыплёмы. У яго была процьма грошай. Як у банку. Але хтосьці яго прадаў, Шагойку злавілі, судзілі і пасадзілі. Але гэта ня ўся гісторыя. Як ты ведаеш, спачатку ў Жодыні пабудавалі завод «Торфмаш», затым ён стаў «Дармаш», на якім рабілі дарожныя машыны. І толькі недзе ў 60-х «Дармаш» ператварыўся ў Беларускі аўтамабільны завод. У нас у сям'і было шасьцёра дзяцей. Я старэйшы. У шаснаццаць гадоў кінуў школу і пайшоў вучнем токара на той завод. Трэба было дапамагаць бацькам утрымліваць сям'ю. Маім настаўнікам стаў нехта Сіманчык. Ён якраз уваходзіў у тую славутую банду падробшчыкаў. Падвучыў мяне крыху, а затым увогуле не хадзіў на працу. Атрымае заданьне, а я за яго раблю. Зь мяне някепскі токар атрымаўся. Сіманчыка таксама арыштавалі. І больш яго ў Жодыні ніхто ня бачыў.

Бацька замаўчаў, утаропіўся ў вакно і затым сьцішаным голасам дадаў:

— У саўгасе ёсьць такі цагляны клюб. Напэўна, ён яшчэ захаваўся. Ну той, што за ракой. У іх там схоў быў. Хтосьці з падробшчыкаў у тым клюбе працаваў. Неяк я падслухаў размову Сіманчыка зь невядомым мне чалавекам. Вось такая гісторыя.

Бацька зноў замаўчаў і прылёг. Гэтыя некалькі хвілін размовы, відаць, яго стамілі. Я паправіў падушку і выключыў дыктафон.

Зрабіў некалькі крокаў, каб сысьці, але спыніўся, павярнуўся да бацькі і спытаў:

— Не паверу, што ты не шукаў той схоў.

— Шукаў, але нічога не знайшоў, — адказаў ён з абыякавасьцю ў голасе і не павярнуўшы галавы ў мой бок.

* * *

Дзіцячае лета ў маёй памяці найбольш яскрава засталося згадкамі пра паездкі ў лес па грыбы. На дварэ яшчэ цёмна, толькі бярэцца на золак. Чую, бацькі ўжо падняліся — маці грукае патэльняю на кухні, а бацька тупае па кватэры, пазвоньвае ключамі ад гаража, аб чымсьці перамаўляецца з маці. Зараз пойдзе да машыны. Да гаража якіх пяць хвілін пешкі. Бывае, ён ідзе праз бальнічны двор, а гэта яшчэ бліжэй. Калі маці будзіць нас з братам, ужо сьвятлее. Уставаць неахвота, і мы марудзім з пад'ёмам. Маці зноў заходзіць у пакой і ўжо больш патрабавальна нагадвае: пара сьнедаць. Падымаюся першым, рассоўваю шторы, каб у пакой трапіла ранішняе сьвятло, і пад вакном бачу такі прыгожы і любімы бацькаў «Масквіч». Гэта канчаткова пазбаўляе рэшткаў сну, бо праехацца на «Масквічы» гатовы ў любы час, а раніцай нават цікавей. Сьцягваю з ложка малодшага брата. Па чарзе ўмываемся і сядаем на кухні за стол, дзе ўжо стаяць талеркі з традыцыйнай ранішняй яечняй. Марудна калупаемся

відэльцамі, за што атрымліваем заўвагу ад маці, маўляў, губляем з-за вас каштоўны час. У лес трэба прыехаць першымі.

Ну а затым сама дарога ў лес, якую я так любіў. Звычайна мы езьдзілі ў бок пасёлку Зялёны Бор. Міналі жодыньскую цеплавую станцыю, дзе працавалі бацькі, выяжджалі на зеленаборскую гравійку (асфальт тут зьявіўся значна пазьней), з правага боку заставалася возера Судабаль, мой дзіцячы райскі куток, і праз якія тры-чатыры кілямэтры зварочвалі ў лес.

І колькі ўсяго цікавага можна пабачыць падчас гэтай паездкі! Напрыклад, як на кожным слупе ўздоўж зеленаборскай гравійкі стаіць па буслу. Ну проста на кожным! Або, калі ўжо збочым на лясную дарогу, заяц выскачыць амаль з-пад самых аўтамабільных колаў. Або чароўная птушка сіваграк, неверагодна прыгожая, не па-тутэйшаму каляровая, традыцыйна сядзіць на лясьніцкім слупку. Пхаеш локцем брата: глядзі, глядзі!!!

Кожны грыб меў сваё месца. Белыя расьлі ў прыгожых барах, якія па-багатаму ўсланыя мохам. Або на ўскрайку гэтых бароў сярод верасу. У маладым сасновым лесе чакалі нас лісічкі, рыжыкі, масьлюкі і бабкі. У бок возера Судабаль, дзе лес ужо чаргаваўся з балотцамі, мы мелі свае таемныя мясьціны, шчодрыя на чырвонагаловыя падасінавікі. У кожнага грыба была свая пара. Таму загадзя бацькі ведалі, куды едзем сёньня.

Тата, даставіўшы нас на месца, адразу кудысьці зьнікаў, а мама нас пільнавала. Праўда, у сасновым бары далёкі агляд, таму мы з братам асабліва не трымаліся матчынай спадніцы. Калі-нікалі нам казалі, каб не адыходзілі далёка ад машыны, і тады маці з бацькам разам прападалі з далягляду на гадзіну-другую. Не памятаю, каб мы баяліся заставацца адны.

Часам каля машыны і было самае грыбное месца. Нярэдка бацькі, вярнуўшыся са сваіх далёкіх забегаў, зьдзіўляліся каптурнаму зьмесьціву нашых плястмасавых вядзерцаў.

* * *

Мой дзіцячы сьвет пачаў развальвацца недзе на пачатку нулявых, калі ў бацькоў забралі *наш сад*. Ён месьціўся ў калектыўным садовым таварыстве ля вадасховішча Брызгалаўка. За часамі майго дзяцінства ў гэтае вадасховішча цеплавая станцыя скідвала лішкі гарачай вады, і таму вадаём ніколі не замярзаў, нават у лютую зіму, што рабіла яго для мясцовай дзятвы райскім куточкам.

Мне і сёньня няцяжка згадаць, якія дрэвы і на якім месцы расьлі ў *нашым садзе*. У самым дальнім левым куце стаяла яблыня белага наліву. Мы з братам яе асабліва любілі, бо першыя салодкія яблыкі былі ад яе. Не буйныя, можна сказаць, драбнаватыя, але салодкія надзвычай. Другое месца ў нашым

дзіцячым рэйтынгу займала яблыня пепіна шафрана, якая расла на пярэднім пляне адразу зьлева. Салодкімі гэтыя яблыкі рабіліся толькі прыканцы лета. Затое яны мелі такі прыемны, чароўны водар, які, здаецца, ніколі пазьней не сустракаў. Гэтыя яблыкі ў нас захоўваліся да сярэдзіны зімы. Імі мама заўсёды ўпрыгожвала навагодні стол.

Былі яшчэ ў нашым садзе невялічкая разлапістая пепінка, дзьве антонаўкі, грушагнілушка, дзьве сьлівы, звычайная і жоўтая, некалькі вішань, кусты смуроды, парэчак і агрэсту. Груша вырасла такой велічэзнай, што стала дрэвам-дамінантай ва ўсім садовым таварыстве. Працэс росту стаў неўтаймоўным, і бацька вырашыў сьпілаваць ёй макаўку. Бо ўсё роўна грушы з той верхатуры дастаць было немагчыма.

Ну і нельга забыць сьвята зьбіраньня вішань. Адмысловы сямейны рытуал. Калі ў сад прыносілі лесьвіцу-складанку, звычайна яе пазычалі ў дзядзькі Толі, яго садовы ўчастак быў побач. І цэлы дзень усёй сям'ёй мы лазілі па тых вішнях. Ну і, натуральна, вішні з самага верху здымалі мы з братам. Аднойчы бацька зваліўся зь лесьвіцы. Добра, што абышлося без сур'ёзнай траўмы.

І ўвесь вясеньне-летне-восеньскі сэзон быў зьвязаны з садам: пасадка пад рыдлёўку бульбы, ладжаньне градаў, праполка, паліў, зьбіраньне ўраджаю, выкопваньне бульбы. У гэтым няспынным працэсе, у гэтым ча-

роўным садоўніцкім кругазвароце актыўна ўдзельнічалі і мы з братам. Сад зьяўляўся істотнай часткай нашага дзіцячага сьвету. А калі згадаць, што, пакорпаўшыся ў градах, можна было зрабіць перапынак і зьлётаць на суседнюю Брызгалаўку ды нырцануць у ваду, то сьвет гэты меў вясёлкавую афарбоўку.

Садовае таварыства свойчас, напэўна, на пачатку 60-х гадоў, заснавала мясцовая ДРЭС для сваіх работнікаў. У 90-х высьветлілася, што ніяк юрыдычна тыя садовыя ўчасткі не былі аформлены. І на пачатку нулявых іх проста забралі. Амаль па-бальшавіцку. Ну ладна, зямля не была ў прыватнай уласнасьці. Але ж на ёй расьлі садовыя дрэвы, якія ўжо зьяўляліся прыватнай уласнасьцю. Ніхто нікому ніякай кампэнсацыі ня выплаціў. За кошт былога садовага таварыства пашырылі пляж на Брызгалаўцы і пабудавалі пляцоўку для міні-футболу. А на месцы нашага саду зрабілі аўтастаянку. І калі я праяжджаю побач, стараюся не глядзець у той бок.

* * *

Гэта называлася — ісьці рыбаліць на фантаны. Просіш зь вечару маці, каб пабудзіла на сьвітанку. Лёгкі сьняданак, пару бутэрбродаў у бітончык, і шыбуеш па яшчэ не абуджаным пасёлку ДРЭС на Брызгалаўку. У руках бамбукавая трохкаленка і традыцыйны пластмасавы бітончык. Яшчэ золка,

бо першыя промні сонца толькі дакрануліся да зямлі і не пасьпелі яе, астылую за ноч, нагрэць. Ты пацепваесься ды прыспешваеш крок, каб сагрэцца. Вось і *домохра* засталося ззаду. (Так дрэсаўцы называлі два дамы-інтэрнаты, што стаяць побач з прахадной ДРЭС, у іх жылі некалі ахоўнікі станцыі — «дом охраны».) Выходзіш на бераг вадасховішча. Гул ад струменяў і пырскаў, якія нястомна, дзень і ноч, падаюць-фантануюць у вадасховішча з сотняў соплаў і труб, чутны яшчэ ад дарогі на Судабоўку, асабліва ў такі ціхі раньні час. Ты да яго прывык, як да ціктахканьня насьценнага гадзіньніка ў гасьцёўні тваёй кватэры.

Выходзіш да места, дзе вялікія трубы адрываюцца ад зямлі і на адмысловых бэтонных палях над вадой ідуць па вадасховішчы ў бок плаціны. Звычайна на фантаны абуваесься ў кеды, каб не было сьлізка хадзіць па трубе. На рацэ ўжо няма той золкасці, якая падганяла цябе па дарозе. Брызгалаўка выпраменьвае цяпло, дый самі трубы цёплыя — кладзіся, абдымай рукамі і грэйся. Гэта калі няма чаго рабіць. А мы ідзем на рыбалку. Наперадзе загароджа з мэталічных прутоў і надпіс: «Па трубах не хадзіць». Але на забарону ніхто не зьвяртае ўвагі, нават дзеці. Звыклымі рухамі абмінаеш загароджу і выходзіш на апэратыўны прасьцяг.

У кожнага дрэсаўскага хлопца ёсьць на фантанах сваё ўлюбёнае месца, прыкормле-

нае, да якога прызвычаіўся. Спаўзаеш уніз, на меншую трубу-адгалінаваньне, сядаеш як зручней, прывязваеш вяроўчынай ці алюміневым дротам бітончык да якой жалязячыны, якіх тут вакол хапае, і пачынаеш наладжваць сваю вуду. Абавязкова жуеш скарынку хлеба і разжаваным мякішам падкормліваеш сваё месца.

Паплавок у тваёй снасьці мусіць быць зь пяра з чырвоным навершшам. Якісь іншы тут цяжка заўважыць, а галоўнае — не зразумела, калі бярэцца рыба. Вада вакол кіпіць і пеніцца ад пырскаў. Гул стаіць такі, што размаўляць практычна немагчыма, таму калі ідзеш на фантаны зь кімсьці, дык размаўляеце рухамі рук, як нямкі.

На фантанах ловіцца пераважна плотка, зрэдку трапляе карась. Ловім на хлеб. Лепш, канешне, на матыля, але дзе яго ўзяць? Дзядзькі за матылём езьдзяць на гарадзкую станцыю ачысткі. Не, нам, мальцам, добра і на хлеб.

Вось паплавок зьнік пад рабаціньнем вады. Падсякаеш — і рукі раней за галаву разумеюць: ёсьць! Вось і першая плотачка. Ладненькая. Больш чым з далоньку. Цельца рыбы шчодра пакрыта сьлізьзю, і таму трэба асьцярожна здымаць здабычу з кручка, інакш упусьціш. Бадай, толькі лінь больш сьлізкі за плотку. Рыбу кідаеш у бітончык, рукі выціраеш аб кашулю ці штаны. І ўвесь аддаесься рыбалоўнаму азарту.

А сонца ўсё вышэй і вышэй уздымаецца над галавой. Вось ужо і горача робіцца ад яго дотыку. Рыба перастае брацца раптоўна і канчаткова — як адрэзала. Далей чакаць ня мае сэнсу.

Вяртаесься дадому крыху стомлены. Усё ж сядзець на трубе ня вельмі зручна, цела зацякае — не пабегаеш, не папрысядаеш. У руках бітончык з уловам. Сустрэчныя хлопцы зазіраюць у тваю ёмістасьць. Хваляць. Ля самага пад'езду сустракаеш свайго суседа Паўліка. Ён таксама цікавіцца ўловам. «Нічога такія плотачкі. На фантанах лавіў? Заўтра і мне трэба схадзіць. Мо пойдзем разам?» — «Пойдзем. Дамовіліся».

* * *

— А чаму гэта цябе цікавіць? — брат сказаў так, нібыта я закрануў тэму, якая па вызначэньні не магла выклікаць у мяне інтарэсу.

— Гэта адна зь сямейных загадак, якая засталася ў мяне неразгаданай, — патлумачыў я брату і глытнуў яшчэ колькі кропляў ракіі.

Тая даўняя размова, якая ў мяне адбылася з бацькам, неяк хутка забылася. Нават і ня ведаю, чаму яна адразу мяне не зацікавіла. І чаму я не рабіў новых спробаў даведацца больш. Тая гутарка ўсплыла ў маёй памяці сёлета ўвесну. У інтэрнэце я выпадкова натрапіў на артыкул пра Івана Шагойку. Таго

самага, пра якога мне распавядаў бацька. Аўтар артыкула называў яго Робін Гудам Смалявіччыны. Маўляў, ён сапраўды стварыў падпольную групу, падрабляў дакумэнты, быў у канфлікце з уладамі, хаваўся, яго выкрылі, судзілі і выслалі ў лягер у Казахстан. Але, як піша аўтар, гэта ня быў нейкі крымінальны бандытызм з мэтаю нажывы. Шагойка і ягоныя паплечнікі такім чынам ратавалі людзей ад перасьледу савецкіх карных органаў, якія пачалі лютаваць на вызваленай ад фашыстоўскіх захопнікаў тэрыторыі Беларусі. Часам адна паперчына-даведка, у якой паведамлялася, што такі й такі быў сапраўды сувязным якога-небудзь партызанскага фармаваньня, ратавала чалавеку жыцьцё. Ну а людзей Смалявіччыны і хто чым займаўся на акупаванай тэрыторыі, Шагойка добра ведаў, бо зьяўляўся байцом партызанскай брыгады «Сьмерць фашызму», якая базавалася побач з засьценкам бабулі Насты і дзеда Захара — бацькоў маёй мамы. Усё спляталася ў адзін вялікі вузел. Усё гэта закранала мяне асабіста.

— Дык ведаеш што-небудзь ці не? — нецярпліва, нібыта ад яго адказу залежала нешта істотнае і жыцьцёва важнае, спытаў я брата.

— Ну чуў штосьці... існавала ў Жодыні такая група... падраблялі дакумэнты... але нічога канкрэтнага ня ведаю... ня памятаю, каб бацька пра гэта распавядаў... — Адказ

брата расчараваў нагэтуль, нібыта абарвалася апошняя нітачка, якая магла прывесьці да разгадкі.

І я расказаў брату ўсё, што ведаў па гэтай справе: і пра Шагойку, і пра Сіманчыка, і пра артыкул, і пра клюб у Зарэччы, дзе група нібыта хавала сваё дабро.

— Вельмі праўдападобна, што такое магло быць, — выслухаўшы мяне, сказаў брат. — Заўтра паедзем шукаць той клюб.

У гэты час штосьці дзынкнула на гарышчы дома.

— Ну во і сыгналы нехта падае, — пажартаваў брат.

## ЧАСТКА ДРУГАЯ

Мы не адразу знайшлі клюб саўгасу «Зарэчча». Праехалі па ўсёй цэнтральнай вуліцы пасёлку і не заўважылі нідзе ніякага Дома культуры. Пакінулі машыну каля будынку праўленьня мясцовага конезаводу і вырашылі абысьці навакольле пешшу.

Я ведаў, што недзе тут павінен быць клюб. Маё дзяцінства і юнацтва прайшлі праз раку — у пасёлку ДРЭС. Але бывалі мы з братам на гэтым беразе ракі рэдка, можна нават сказаць, вельмі рэдка. Зарэчча лічылася небясьпечнай для падлеткаў тэрыторыяй. Хапала тут адмарозкаў і ўсялякіх паўкрымінальных элемэнтаў. Праўда, даволі іх і ў нас, на ДРЭСе. Але ў сваім пасёлку мы былі

свае, ніхто нас не чапаў. Дый навошта нам тое Зарэчча — рака ў нас была лепшая, нават не рака, а вадасховішча Брызгалаўка з адкрытым басэйнам і, так бы мовіць, круглагадовым падагрэвам вады; Дом культуры ў нас быў свой, дзе і фільмы круцілі, і танцы ладзілі; крамы ў нас былі свае — ад кнігарні і прамтавараў да «Рыба, мяса» і абутковай. А кінатэатар «Юнацтва» знаходзіўся на нэўтральнай тэрыторыі.

Калі ў дрэсаўскім ДК танцы праходзілі пад адкрытым небам — над ракою на танцпляцоўцы, то ў перапынках была чутна музыка з-за ракі. Там таксама моладзь культурна адпачывала.

Клюб саўгаса «Зарэчча» мы знайшлі за невялічкім сквэрам, пасярод якога ўзвышаўся помнік загінулым у Другую сусьветную вайну — і вайскоўцам, і мясцовым цывільным. На помніку было напісана: «Вечная памяць ахвярам фашызму».

Увогуле я думаў, што гэты храм культуры будзе на ўзор нашага, дрэсаўскага. З псэўдарымскімі калёнамі ля ўваходу. Такія ДК у 60-х будавалі скрозь па ўсёй Беларусі. Але тутэйшы клюб хутчэй нагадваў стайню, або нават кароўнік. Такая, без архітэктурных празьмернасьцяў, прастакутная спаруда. Яе выгляд быў жаласны: спрэс пазьбіваная тынкоўка, дзіркі ў шыфэрным даху, пазабіваныя вокны. Няцяжка было здагадацца, што тут даўно ня ладзіліся танцы.

Мы з братам абышлі збудаваньне вакол некалькі разоў. Дзьверы па-вясковаму былі зачыненыя на вялікі вісячы замок. Амаль як у якой-небудзь суседняй хаце.

— Магу сказаць толькі адно, — пасьля другога абходу сказаў брат, — калі нехта некалі тут нешта хаваў, то, думаю, не засталося нават і той схованкі. На жаль, храм культуры дажывае апошнія дні.

— І ўсё ж хацелася б патрапіць у сярэдзіну, — не здаваўся я.

— Ты хочаш, каб я схадзіў у машыну за манціроўкай і зьбіў гэты лядашчы замок? — запытаўся брат.

— Не, сёньня не хачу. Але неяк трапіць трэба, можа, ня сёньня.

— Ну, можна абысьці тубыльцаў і спытаць, хто зьяўляецца трымальнікам ключа ад гэтага замка. І папрасіць той ключ. Толькі што мы скажам? Навошта нам гэта? Скажам, што ў маладосьці хадзілі сюды на танцы і настальгія нас замучыла, хочам згадаць юначыя гады на месцы былых падзеяў? Але гэта будзе хлусьня. Не хадзілі мы з табой сюды на танцы. — Брат паклаў мне руку па плячо і засьмяяўся.

Па дарозе, вяртаючыся дадому, я разважаў, якія крыніцы інфармацыі яшчэ могуць быць, хаця б тэарэтычна. Успаміны сьведкаў адпадаюць. Дзе я іх знайду? Дый не на гэтым сьвеце яны ўжо, амаль усе. Магчыма, ёсьць нешта ў архівах. Але чуў ад знаёмых, што

пасьляваенная «крыміналка» па-ранейшаму засакрэчаная. Яшчэ, магчыма, нешта ёсьць у мэмуарах партызанскіх камандзіраў. У 60-х гадах былыя лясныя камандзіры кінуліся пісаць мэмуары. Ці гэта была такая разнарадка? Ці проста ў рэчышчы патрыятычна-выхаваўчай працы вэтэранаў? У выніку мэмуарных кніг пра змаганьне лясных помсьнікаў выйшла прыканцы 60-х — пачатку 70-х досыць шмат. Цьмяна мне прыгадвалася, што некалі траплялася ў рукі і кніга пра дзейнасьць партызанскай брыгады «Сьмерць фашызму».

* * *

Мой дзед па мячы Антон таксама быў байцом брыгады «Сьмерць фашызму», дакладней атрада імя Чкалава, які ўваходзіў у брыгаду. Гэтая акалічнасьць заблытвала гісторыю яшчэ больш і рабіла яе надзвычай асабістай.

Штогод 3 ліпеня, на Дзень вызваленьня Беларусі, дзед Антон езьдзіў на сустрэчу былых партызанаў сваёй брыгады. Сустрэча ладзілася ў вёсцы Юрава, побач з брацкай магілай загінулых у Другой сусьветнай вайне. На магіле ўсталявалі помнік: салдат са схіленым у жалобе сьцягам. Звычайна дзеда адвозіў на машыне мой бацька, які за кампанію браў і мяне. Такім чынам, езьдзілі мы ўтрох: я, бацька і дзед.

Прыбыўшы на месца, дзед Антон папярэджваў нас, што доўга не затрымаецца, каб мы яго пачакалі.

З ліпеня ў Юраве было шматлюдна, як у вялікім горадзе. Грала музыка, луналі сьцягі, працаваў выяздны гандаль, праз кожныя дзесяць мэтраў дыміліся паходныя мангалы, адурманьваючы вёску пахам смажанага мяса. Сьвята пачыналася агульным мітынгам ля помніка — урачыстымі прамовамі былых камандзіраў, піянэрскімі салютамі і гукамі горнаў. Пасьля ўрачыстай часткі ўдзельнікі сустрэчы падзяляліся на групы — па колькасьці атрадаў, зь якіх складалася брыгада «Сьмерць фашызму». Кожны атрад адзначаў Дзень вызваленьня асобна. Заканчвалася ўсё тым, што партызанаў шукалі і зьбіралі па ўсім навакольлі. Вясковыя кабеты з Юрава і суседніх вёсак звычайна даручалі гэта сваім дзецям або ўнукам, якія павінны былі пільнаваць пераможцаў.

Былыя народныя помсьнікі любілі выбірацца на гэтае сьвята ня толькі з-за дармовай гарэлкі. Тут нярэдка разьвязваліся прыватныя праблемы, бо рэспублікай на той час працягвалі кіраваць партызанскія камандзіры. У Дзень вызваленьня ў Юраве заўжды было каму паскардзіцца на несправядлівасьць. Начальнікі прыяжджалі нават з Масквы. Кагосьці абдзялілі кватэрай, нехта пазбавіўся пасады, камусьці несправядліва прызначылі мізэрную пэнсію. Баявога таварыша нельга было пакідаць у бядзе.

Антон Іванавіч не затрымліваўся. Куляў чарку-другую — сьвятая справа, але ніколі не вяртаўся ў Жодынь п'яным. Як правіла, ён не заставаўся на атрадныя пагулянкі ў вузкім коле. Падобна, ён ня меў партызанскіх сяброў. Ня помню таксама, каб ён нешта апавядаў па дарозе, калі мы везьлі яго дахаты.

Тыя дзьве-тры гадзіны, якія даводзілася чакаць дзеда, мне даваліся ў знакі, бо не цярпелася адтуль зьехаць. Дарэчы, якраз у тыя гады, у пэрыяд моцнай партызанскай улады ў Беларусі, дзед Антон пазбавіўся сваёй пасады — начальніка жодынскай чыгуначнай станцыі. Узрост ужо быў ня той, дый ня меў адпаведнай адукацыі. Далей ён працаваў сьціплым дзяжурным па станцыі. Ня думаю, што дзед каму-небудзь скардзіўся з тае нагоды.

У Жодыні Антон Іванавіч апынуўся ў 1938-м, перавялі са станцыі Слаўнае, што на Талачыншчыне. У той год амаль увесь склад жодынскіх чыгуначнікаў арыштавалі й асудзілі як шкоднікаў і ворагаў народа. На вызваленыя працоўныя месцы сьцягвалі спэцыялістаў зь іншых мясьцінаў. Антону Іванавічу ішоў 27-ы год, меў сям'ю і дзяцей. Мой бацька ў сям'і быў старэйшы, яго прывезьлі ў Жодынь у двухгадовым узросьце. Антона са Слаўнага прызначылі начальнікам станцыі. Магчыма, усіх астатніх работнікаў проста набралі з навакольных вёсак.

Калі пачалася вайна, у сям'і Антона Іванавіча было ўжо чацьвёра дзяцей: Барыс,

Люба, Тамара і Толя. Вялікая сям'я. Пра эвакуацыю на ўсход не магло быць і размовы: чыгуначнікі павінны заставацца на працоўным месцы да апошняга эшалёну. На восьмы дзень вайны ў Жодынь прыйшлі немцы.

Чыгуначнікі былі патрэбны і новай уладзе — усім было загадана выйсьці на працоўныя месцы. Ясна, што Антон Іванавіч ня мог рызыкаваць сям'ёй. Чыгуначнікі вымушаны былі падпарадкавацца.

Пасьля таго як у ваколіцах Жодыня паўстаў партызанскі рух, а была гэта тэрыторыя дзейнасьці брыгады «Сьмерць фашызму», партызаны хутка наладзілі сувязь з працаўнікамі чыгункі. Відавочна, недзе ў 1943 годзе і мой дзед стаў «агентам» партызанкі.

Антон Іванавіч любіў зьбіраць грыбы. Быў вялікім аматарам гэтай справы, і яму заўжды шчасьціла. Часам браў з сабой старэйшага сына. У лесе, як згадвае мой бацька, ён сустракаўся зь нейкімі невядомымі людзьмі, вёў зь імі працяглыя гутаркі. Трэба меркаваць, гэта і былі сувязныя партызанаў. Увосень 1943 году адзін зь нямецкіх спэцыялістаў, паляк па прозьвішчы Шваб, папярэдзіў Антона Іванавіча пра плянаваныя арышты сярод жодыньскіх чыгуначнікаў. Дзед Антон, не марудзячы, у тую ж самую ноч пасадзіў сям'ю на падводу і накіраваўся ў партызанскую зону. Прытулак знайшлі ў сям'і Невяровічаў зь вёскі Чэмкі — гэта ў некалькіх кілямэтрах ад славутага старажыт-

нага Юрава. Сам Антон Іванавіч падаўся ў партызаны. Аднак узьнікла праблема: у народныя помсьнікі прымалі толькі тых, хто меў зброю, яе трэба было раздабыць самастойна. У Чэмках чыгуначніку падказалі, што вінтоўку можна знайсьці на дне рачулкі Цна, якая працякала побач зь вёскай. Іх туды паўкідалі ў 41-м савецкія акружэнцы. Антон Іванавіч тыдзень шукаў зброю, ныраў і абмацваў дно рачулкі. Вяскоўцы не падманулі — вінтоўка знайшлася. Чыгуначніка прынялі ў атрад імя Чкалава.

А недзе поруч ваяваў і Іван Шагойка. І ня мог дзед Антон яго ня ведаць. Але ўжо не спытаеш. На жаль.

Цікава, што ў гэтым жа атрадзе быў і жодыньскі пісьменьнік Іван Сіняўскі. Яго прынялі ў чкалаўцы таксама ў 1943 годзе. Не маглі яны ня быць знаёмымі, а можа, нават і хадзілі разам на заданьні. Неяк тут адразу згадваюцца творы Васіля Быкава. З тым Сіняўскім здарылася абсалютна быкаўская гісторыя. На адным з заданьняў будучы пісьменьнік з таварышамі патрапіў у засаду. Пачаўся бой. Сілы былі няроўныя. Партызаны пачалі адыходзіць ад дарогі, на якой меркавалі закласьці міны. Адзін з падрыўнікоў, Сяргей Кавалеўскі, заваждаўся. Меў яшчэ магчымасьць адысьці пад прыкрыцьцём байцоў групы, але ня стаў гэтага рабіць. Калі немцы атачылі «ляснога бандыта», навакольле скалануў выбух — разам з

партызанам загінула й некалькі ворагаў. Усё гэта адбылося на вачах у Сіняўскага. Пасьля вайны пісьменьнік хадайнічаў у розныя інстанцыі, каб подзьвіг таварыша быў пасьмяротна адзначаны, але так і не дамогся справядлівасьці. Адзінае, што зрабіў у памяць аб ім — напісаў нарыс і распавёў гэтую гісторыю ў адным з інтэрвію для жодыньскай гарадзкой газэты.

Цікава, ці хадзіў Сіняўскі на заданьні з маім дзедам Антонам? Ці выпіваў разам на вызваленчых сустрэчах у Юраве? А дарма не таварышаваў, бо атрымаў бы цудоўныя сюжэты для твораў. Я пачуў гэтыя гісторыі ад майго бацькі. Найбольш мне падабаецца «вэстэрнская» сага ўратаваньня.

Надарылася гэта ў жніўні 1944 году, падчас самай моцнай блякады партызанскай зоны. Немцы кінулі на барацьбу зь «лясьнымі бандытамі» вялікія армейскія сілы. Некалькі партызанскіх атрадаў, ня толькі з брыгады «Сьмерць фашызму», трапілі ў кацёл у раёне возера Палік. Партызаны й мірнае насельніцтва, якое жыло ў лесе пад аховай лясных змагароў, былі загнаныя ў багністыя балоты. Народныя помсьнікі пайшлі на штурм аднаго з участкаў нямецкага ачапленьня, прарваліся і расьсеяліся па лесе, каб затым сабрацца ў прызначаным месцы. Немцы пачалі шчыльна прачэсваць навакольле. Адзін з такіх нямецкіх ланцугоў прыціснуў дзеда Антона да берагу вадаёму.

Кемлівы партызан прыняў вынаходлівае рашэньне: ён выразаў чарацінку, ырцануў у ваду і закамуфляваўся водарасьцямі ды тваньню. У хуткім часе немцы выйшлі на той самы бераг. У вадзе хтосьці зь іх заўважыў шапку дзеда. Яны пачалі торкаць штыхамі, дасталі шапку, пастаялі, пачакалі, і адзін зь іх справіў малую патрэбу ў ваду побач з дзедам. Неўзабаве немцы сышлі. Уяўляю тую радасьць і шал адрэналіну, калі дзед вынырнуў з вады з чарацінкай у зубах, пабачыўшы, што немцаў няма. Як у якім вэстэрне. Жыцьцё бывае круцейшым за любое кіно.

У той самы час у балоце сядзела і мая бабуля Ганна з чатырма малымі дзецьмі. Нямецкія карныя ланцугі праходзілі таксама зусім побач. Былі чутны воклічы, кляцаньне зброі, стрэлы. Самага малодшага, Толю, які бесьперапынна плакаў і прасіў есьці, даводзілася тварам прыціскаць да моху.

Да 3 ліпеня было зусім недалёка. Два-тры тыдні. Але трэба было ўратавацца, выжыць, дачакацца вызваленьня.

* * *

Самым простым сталася расшукаць аўтара артыкула пра Івана Шагойку. Ім аказаўся краязнаўца з Барысава Андрэй Цісецкі, які дасьледуе антысавецкі супраціў. Краязнаўца мае ўласную старонку ў Фэйсбуку. Вельмі хутка адгукнуўся. Я спытаў у яго, ці мог бы

ён падзяліцца са мной усёй інфармацыяй, якая ў яго ёсьць пра Робін Гуда Смалявіцкага раёну. Краязнаўца не праігнараваў маю просьбу, але паведаміў, што інфармацыі няшмат і ў ягоных плянах працягваць росшукі, каб напісаць пра Шагойку разгорнуты артыкул. І гэтым мяне вельмі-вельмі ўзрадаваў. О Божа, хтосьці ідзе са мной побач па тым самым сьледзе. Але я ведаю штосьці такое, пра што ня ведае ніхто. І гэта мая з бацькам таямніца.

Я папрасіў барысаўскага краязнаўцу даслаць усё, што мае пра Шагойку. Матэрыялу сапраўды было няшмат.

*Шагойка Іван Еўдакімавіч*

*Год нараджэньня — 1925.*

*Месца нараджэньня: Беларуская ССР, Мінская вобл., Смалявіцкі р-н, вёска Зялёны Бор.*

*З кнігі «Памяць. Смалявіцкі раён»:*

*«Дастойны ўклад у перамогу ўнёс і партызан брыгады «Смерць фашызму» Іван Еўдакімавіч Шагойка. Ужо ў кастрычніку — лістападзе 1942 года група ў складзе Чуянава, Вышнікава, Сілковіча, Рагожкіна, Шыянка і Шагойкі ўчыніла чатыры дыверсіі на чыгунцы паміж Жодынем і Барысавам. Двойчы зрабіла дыверсію на чыгунцы ў раёне Козыраўкі група з 3 чалавек (і зноў жа ў яе складзе Іван Шагойка).*

*Іван Шагойка быў не толькі добрым дыверсантам, але і выдатным разведчыкам. Ад людзей з вёскі Перамежнае ён даведаўся, што да дзяўчыны Гені Гарадзецкай заляцаецца немец Юзаф. Ён знаходзіўся ў ахове падземнага кабелю, па якім Гітлер гаварыў з фронтам. Калі Геня расказала пра немца падрабязна, Іван далажыў Тарунову, і камбрыг даў згоду злавіць гэтага немца. І вось Іван Шагойка, Юзаф Міклашэўскі і Алег Даўнаровіч прыехалі да Гені. Хутка заявіўся і Юзаф. Яго ўзялі ў палон і адвезлі ў партызаны. Ён даў каштоўныя звесткі, бо, седзячы ў будцы, немец слухаў размовы стаўкі Гітлера з фронтам.*

*Шагойка быў майстар на ўсе рукі. Да вайны ён закончыў мастацкае вучылішча ў Мінску. Добра маляваў, у брыгадзе ён рыхтаваў для сувязных, падпольшчыкаў і партызан пропускі, пашпарты, розныя аўсвайсы. Аднойчы па падробленых ім дакументах партызаны на торфазаводзе імя Арджанікідзе атрымалі на маслабойні ў немцаў 100 кг масла».*

*З гісторыка-крыміналагічнага даследавання «За парогам перамогі / Франтавікі і партызаны па-за законам / 1944—1955»*

*Падчас гутаркі, якая адбылася 07.05.2014 года з жыхаром горада Жодынь Небышынцам*

*Мікалаем, 1942 года нараджэння, які распавёў наступнае:*

*«У дзяцінстве ў бацькоўскім доме ў вёсцы Упірэвічы Перасадскага сельсавета Барысаўскага раёна ў бацькі, Небышынца Аляксея Пятровіча, былога камандзіра агентурнай выведкі партызанскай брыгады «Разгром» Мінска-Чэрвеньскай партызанскай зоны, па святах збіраліся былыя партызаны брыгады і франтавікі, сярод якіх былі і інваліды. Выпіўшы, лаялі савецкую ўладу і асабіста Юзіка, як яны называлі Сталіна, за ўсю рабаўнічую палітыку першых пасляваенных гадоў, і той факт, што пашыраемые ў гады ваеннага ліхалецьця надзеі на тое, што пасля вайны не будзе калгасаў, аказаліся пшыкам. Зноў-такі нейкія ільготы з'явіліся ў іх толькі праз некалькі дзесяцігоддзяў, калі большая частка з іх ужо памерла.*

*Сам бацька, Аляксей Пятровіч, у 1948 годзе хаваў у падвале ад міліцыі вядомага ў акрузе Робін Гуда — фальшываманетчыка Івана Шагойку, былога ліхога партызанскага разведчыка партызанскай брыгады «Сьмерць фашызму», які дапамагаў землякам, каму патрэбны дакумент «справіць», а гарамычным шматдзетным удовам і падробленымі чырвонцамі ўласнага вырабу.*

*Людзі на вёсцы больш за каго іншага баяліся фінагентаў, ад якіх хавалі хатнюю жывёлу, каб не адабралі і не абклалі падаткам. Мне самому, тады яшчэ дзіцёнку, маці,*

*як толькі заўважала здалёку фінагента, загадвала гнаць і хаваць у лесе парсючкоў. Фінагенты ж былі сытыя, чырванатварыя бугаі, якія любілі на халяву выпіць і залезці ў ложак да вясковых удоваў. Ненавідзелі іх, як адпетых паліцаяў».*

О! Дык гэты Шагойка быў яшчэ й фальшываманэтчыкам!!! Ну проста нейкі дэтэктыў.

* * *

Пры словазлучэньні «падробленыя грошы» ў маёй памяці ўсплывае гісторыя з дзяцінства. Мне гадоў шэсьць, а можа, і ўсе сем, калі я пайшоў у першую клясу. Нашая асноўная дваровая дзіцячая валюта — розныя фанцікі ад цукерак. Чым прыгажэйшы фанцік, тым большы ягоны намінал. Зь іх дапамогай можна набываць розныя цікавыя патрэбныя рэчы, напрыклад сьвісток, зроблены зь ліпавай галінкі.

І раптам у нашым двары пачала хадзіць сапраўдная валюта — уласная, дваровая. І не якія-небудзь там фанцікі або выразаныя малюнкі з часопісаў. А праўдзівыя банкноты. Іх пачалі маляваць два браты Андруковічы — Косьця і Коля, якія жылі ў суседнім пад'езьдзе. І дызайн той валюты самі прыдумалі. Вось толькі ня памятаю, як яна называлася. Я ўжо ў тэхнікум пайшоў, а некалькі гэтых банкнотаў ляжалі ў шуфлядзе майго пісьмовага стала.

Маляваліся яны чорным стрыжнем. І так аднолькава, што нібыта адціскаліся з аднаго клішэ.

Абодва браты Андруковічы сталі мастакамі. І ня проста там нейкімі самавукамі-аматарамі, а прафэсіяналамі — скончылі тэатральна-мастацкі інстытут, сёньня гэта Акадэмія мастацтваў.

Ізноў з галавы не выходзіць той Робін Гуд Смалявіччыны. З такой партызанскай біяграфіяй, з такімі сувязямі ў чыноўніцкіх кабінэтах для ўласнага ўладкаваньня ў жыцьці не патрэбны былі яму ніякія падробкі, нават савецкіх чырвонцаў.

Чаму ён пачаў тыя даведкі, дыплёмы і чырвонцы падрабляць? Імкнуўся дапамагчы людзям? Адчуваў тую страшэнную несправядлівасьць і гвалт, якія пачалі, як нейкая зараза, як нейкая атрутная зарына-заманавая хмара, накрываць родны край?

Не спытаеш у яго сёньня. Але можна вярнуць яго добрае імя.

* * *

І гэтае страшнае пачуцьцё адзіноты.

І людзі навокал робяцца чужымі-чужымі, як з плянэты Марс. І нічога з гэтым не паробіш. І ты нібыта застаўся зусім адзін, на ўвесь бязьмежны сусьвет — сярод голага поля, сярод дзікага лесу, сярод чужога-чужога гораду. АДЗІН.

І гэтыя вочы, якія бачаць цябе ў апошні раз. О, Божа!

І як бы ты ні рыхтаваўся да гэтага моманту... І ці магчыма падрыхтавацца?

Мая бабуля Наста прасіла ў Госпада сьмерці. Яна стамілася жыць. Ёй было за дзевяноста. Для яе папросту зьнік сэнс далейшага існаваньня. Дзеці сталі на ногі і вырасьлі. Унукаў і праўнукаў ёсьць каму гадаваць. Ніхто не галадае і ня церпіць нястачу. Вясковую гаспадарку пераняла сям'я малодшага сына. Жыцьцёвых сілаў засталося мізэр. Зрок зьнікае. Які сэнс далей жыць? Ствараць камусьці дадатковы клопат. Жыцьцёвая місія выкананая. Якую там адзнаку паставіць Госпад — гэта іншая справа. Але ўжо нічога ня зьменіш, нічога ня выправіш. Як ёсьць — так ёсьць. Таму пара падвесьці рысу. Прыкладна так, напэўна, разважала мая бабуля Наста, з засьценка Арлова, які знаходзіўся ў зоне партызанскай брыгады «Сьмерць фашызму». Тады, у гады вайны, трэба было выжыць, перадусім дзеля дзяцей. І дзеля малодшай Анюты, якой ішоў толькі трэці год. І сьмерці ніхто не прасіў. Прынамсі ў засьценку Арлова.

Але мая мама ня выканала сваю місію да канца. Гэта я выдатна ведаў. У яе былі пляны, яна не любіла пра іх гаварыць, але яны былі — гэта ведалі ўсе, хто знаходзіўся зь ёю побач у апошнія гады жыцьця.

І толькі не было ў яе вачах роспачы, калі мы разьвітваліся зь ёю ля бальнічнага лож-

ка. Яна ўжо не магла нічога сказаць, але ў вачах роспачы не было. Яна глядзела ўважліва, нібыта спрабавала запомніць кожную рысачку майго твару, кожную зморшчынку, кожную асаблівасьць.

Старэйшы мой сын Антон выйшаў з бальнічнай палаты і ў холе ўпаў на калені, паклаўшы голаў на падваконьнік. Мой дарослы сын, які мае сваю сям'ю. Малодшага мы не ўзялі з сабой.

Якімі моцнымі бываюць маці, да канца разумееш, калі страчваеш іх. Маленькая мая мама была маім надзейным тылам. І я заўсёды ведаў, што заўжды-заўжды, што б ні здарылася, магу разьлічваць на яе дапамогу. І гэтае пачуцьцё наяўнасьці такога тылу надавала мне ўпэўненасьць і сілы.

— Ён забірае яе, — ледзь улоўным шэптам сказала мне Тацяна.

— Хто? — няўцямна перапытаў я.

— Твой бацька.

Крыху больш за год таму мы разьвіталіся з бацькам. Магчыма, у апошнія дні яму трызьнілася, як ён сядзеў у балоце ў партызанскую блякаду пад возерам Палік. Вакол брахалі нямецкія аўчаркі, але яны ўжо не рэагавалі на людзей, бо ўсё навакольле было ўсланае забітымі і параненымі. І толькі малодшы брат Толя, груднoе дзіцё, мог выдаць іх. Таму маці занурвала сына тварам у мох. А сабакі брахалі зусім побач. І кулі аўтаматных чэргаў паласавалі па лесе амаль над

самым вухам. І яшчэ было чутна, як недзе з боку возера Палік ішоў бой. Рэшткі брыгады «Сьмерць фашызму» пайшлі на прарыў блякады. І там павінен быць бацька.

* * *

Хтосьці патэлефанаваў. Але на ўсе мае «алё-алё», «я слухаю», «хто тэлефануе?» — ніхто не адказаў. Хоць я выразна чуў дыханьне ў слухаўцы.

Калі б гэта быў Іван Шагойка, я б ніколечкі не зьдзівіўся.

Я пазваніў брату і спытаў, ці ня ён мне толькі што тэлефанаваў. Не, не званіў. Распытаў яго пра справы. Брат якраз гэтымі днямі завяршаў рамонт другога паверху ў сваім доме. Расказаў, дзе купляў паркетную дошку, па колькі й якога колеру. Прадмет размовы быў мне ня вельмі цікавым, і мы, пасьля некалькіх традыцыйных пытаньняў пра здароўе і сям'ю, разьвіталіся.

Тэма Шагойкі мяне не адпускала. Падчас вячэры я спытаў Тацяну, што яна думае пра Шагойку, ці быў ён проста авантурыстам, які ня мог спыніцца і дакаціўся да падрабленьня чырвонцаў, ці насамрэч імкнуўся ў такі спосаб дапамагчы землякам?

Тацяна пацiснула плячыма.

— Тут цяжка штосьці канкрэтнае казаць. Мог быць і авантурыстам. Мог быць і Робін Гудам. Але заўваж іншае. Былыя партызаны

не адхіснуліся ад яго па вайне. І ад міліцыі хавалі. І кантакты зь ім працягвалі падтрымліваць. І нават калі яго злавілі, судзілі і выслалі ў лягер, не адмовіліся ад яго.

— То выглядае, сапраўды быў Робін Гудам.

— Ну штосьці ў гэтай гісторыі ёсьць і таямнічае, і легендарнае, і пазытыўнае. Так мала ў нашым недалёкім мінулым сапраўдных герояў. Хацелася б, каб мы памыляліся, у тым сэньсе, што яны былі, але мы пра іх ня ведаем.

— Маеш рацыю. Штосьці ў гэтай гісторыі ёсьць прывабнае. Хачу больш даведацца пра гэтага чалавека. Але дзе што шукаць? Ягоную крымінальную справу наўрад ці пакажуць. Сведкаў, якія ведалі яго асабіста, ужо няма на гэтым сьвеце.

— Ня можа быць, каб усе сьляды Шагойкі, які так моцна насьлядзіў, зьнікл бясьсьледна. О які калямбур атрымаўся, — Таццяна засьмяялася. — Архівы ёсьць ня толькі ў КДБ і міліцыі. Напрыклад, ёсьць прыватныя. Ліставаньне, дзёньнікі, газэтныя публікацыі. Хто з тых людзей, якія патэнцыйна добра ведалі Шагойку, можа мець такі прыватны архіў?

— Ну, самы лепшы архіў, я думаю, меў былы камісар партызанскай брыгады «Сьмерць фашызму» Іван Дзядзюля. Але... наўрад ці нам яго пакажуць. Па-першае, Дзядзюля жыў у Маскве, дзе і памёр у 2013 годзе. То бок ня наша юрысдыкцыя.

Па-другое, Дзядзюля даслужыўся да палкоўніка дзяржбясьпекі, быў савецкім выведчыкам, сапраўдным Шцірліцам. У Вікіпэдыі напісана, што спачатку працаваў рэзыдэнтам у савецкай амбасадзе ў Аўстрыі, а з 1962 года — рэзыдэнт у Ізраілі, дзе працаваў пад выглядам першага сакратара пасольства СССР. З 1967-га — ужо памочнік старшыні КДБ СССР па выведцы. Такі вось служака. Так што ніхто нам не пакажа архіў былога памочніка старшыні КДБ СССР па выведцы. Той архіў даўно ўжо на Лубянцы, — цяпер ужо засьмяяўся я.

— Добра, — не здавалася Таццяна, — але ж ты мне расказваў, што ў партызанскай брыгадзе «Сьмерць фашызму» змагаўся і жодзінскі пісьменьнік Іван Сіняўскі, з бацькам якога сябраваў твой дзед Захар. І я сама бачыла на Бабілескіх могілках, што яны пахаваныя побач. Ні за што не паверу, што Сіняўскі ня ведаў Шагойку. І яшчэ ты сам казаў, што чытаў кнігу мэмуараў Дзядзюлі пра барацьбу партызанскай брыгады «Сьмерць фашызму». Ні за што не паверу, што Дзядзюля ў сваіх мэмуарах, няхай сабе і з улікам савецкай цэнзуры, нічога не напісаў пра Шагойку.

— Так, чытаў, але вельмі даўно. Амаль нічога ня памятаю. Ты думаеш, палкоўнік КДБ, пасьля таго як Шагойку пасадзілі, штосьці пра яго мог напісаць?

— А хто яго ведае. Калі былыя партызаны не адцураліся ад Шагойкі і пасьля ягонай

судзімасьці, то мусіў той палкоўнік быць са сваімі партызанамі салідарным. Мусіў.

— Цікавая вэрсія. Трэба адшукаць тую кнігу і перачытаць.

* * *

Назаўтра я выбраўся наведаць наш полацкі «чырванасьцяжны» ваенкамат. Два дні таму паштальёнка пад росьпіс прынесла мне позву. Нічога тлумачальнага ў той позьве не было, акрамя часу візыту і нумару кабінэту. «Вось пачаў думаць пра вайну, і яна адразу адгукнулася», — зрабіў я выснову. Адзінае непрыемнае, што маглі зрабіць мне па гэтым выкліку, — прызваць на зборы ў «партызаны». Згодна з маёй афіцэрскай кніжкай, я меў званьне лейтэнанта. Яно мне дасталося ў спадчыну па вучобе ў наргасе, дзе была вайсковая катэдра. Набытая вайсковая спэцыяльнасьць прадугледжвала ўдзел у гаспадарчым і харчовым забесьпячэньні вайсковых частак. Таму я асабліва не хваляваўся. Ну буду развозіць на якім-небудзь дапатопным «зілку» тушаніну ў бляшанках па лягерах. Толькі вось часу шкада. Ня маю я вольнага часу на гэты занятак.

Я зазірнуў у патрэбны мне кабінэт. За пісьмовым сталом сядзела жанчынка, абкладзеная шэрымі тэчкамі, і корпалася ў нейкіх паперах. Яна ўзьняла галаву і абыякавым голасам, як у аўтобусе, калі аб'яўляюць пры-

пынкі, папрасіла пачакаць у калідоры. Там ужо быў адзін «пачакальнік». Невысокага росту мужчына гадоў сарака. Але мне ён нагадваў нейкага мульцяшнага пэрсанажа, бо меў такія ўскудлачаныя валасы, што, калі б і захацеў, так не ўскудлаціў бы іх.

— Што, і вас папрасілі пачакаць? — спытаў ён хутчэй для пачатку размовы, бо добра чуў, пра што мяне папрасілі.

— Ну так. Запрашаюць на сустрэчу, а самі не гатовыя сустрэцца.

— Я ўжо хвілінаў 10—15 чакаю, — сказаў ён з такой інтанацыяй, нібыта вось-вось зьбіраўся пасканадаліць.

— У гэтай установе лепш ціха пачакаць, — я вырашыў супакоіць гэтага мужычка «з мульціку». — Аднойчы я паскандаліў, дык мяне, нягледзячы на блізарукасьць, загналі ў мотастралковую вучэбку ў Пячах. Во дзе быў трэш.

— Дык і я быў у Пячах. Толькі ў танкавай вучэбцы. Мэханік я, — мужычок працягнуў мне далонь і прадставіўся: — Анатоль.

— Алесь, — сказаў я, паціснуўшы руку мэханіку танка.

— Ну і што яны ад нас хочуць? — спытаў мужчына і кіўнуў у бок кабінэту.

— На маю думку, ёсьць два варыянты: або «партызаны», або новае мабілізацыйнае прымацаваньне.

— З «партызанамі» якраз не хацелася б зьвязвацца. — Мэханік трывожна ўздыхнуў і дадаў: — Затым тыдзень будзеш адмывацца.

— А мне ўсё роўна. Я пасьля арміі скончыў наргас, цяпер маю афіцэрскія зорачкі і спэцыяльнасьць забесьпячэнца. Буду вам тушаніну ў бляшанках развозіць.

Я вырашыў пакпіць з гэтага сьмешнага мульцяшнага мэханіка. Уявіў яго, мурзатага, у танкавым шлеме, з вытыркнутай галавой зь люка. І ледзь не зарагатаў.

— У мяне маці на мінулым тыдні памерла. Цяпер трэба спадчынай займацца. А якая тут спадчына: хрушчоўка і дача на курыных ножках. — Суразмоўца зноў трывожна ўздыхнуў.

Мой іранічны настрой імгненна зьнік. Адразу стала зразумелай прычына разгубленасьці і нэрвовасьці саракагадовага мужчыны.

— Мы дзеці дзяцей вайны. Якая там па іх магла застацца спадчына. Добра, што яны выжылі і далі нам жыцьцё. Спачуваю. Сам летась перажыў такое гора.

Што яшчэ я мог сказаць гэтаму мэханіку танка, які на мінулым тыдні пахаваў сваю маці, а сёньня прыйшоў па позьве ў ваенкамат? Зусім яму было не да ваенкамату і маіх недарэчных жартаў пра тушаніну ў бляшанках.

І тут прачыніліся дзьверы, у калідор вытыркнулася галава жанчынкі і запрасіла мяне заходзіць.

У кабінэце, у якім я апынуўся, былі яшчэ адныя дзьверы, у іншы пакой. Там сядзеў

сухаваты, як сказаў бы мой сябра Вінцэсь, падхорцісты, капітан. Ён нечым нагадваў капітана Нэлькіна — камандзіра маёй вучэбнай роты ў Пячах. Гаспадар кабінэту трымаў у руках тэчку, відавочна, з маёй асабістай справай. Зірнуўшы на мяне, капітан рухам рукі паказаў на крэсла насупраць стала. Я зрабіў некалькі крокаў у тым кірунку і сеў на прапанаванае месца.

— Штосьці даўно вы ў нас не былі, — загадкавым тонам прамовіў капітан.

— Ведаеце, неяк не ўзьнікае жаданьня, — на поўным сур'ёзе адказаў я.

— Зараз у нас ідзе праверка асабовага складу, што стаіць на ўліку. Таму мы вас і выклікалі. Цяпер мы пераканаліся, што вы жывы-здаровы і па-ранейшаму пражываеце ў Полацку. Ці былі ў вашым жыцьці якія зьмены?

— А якія зьмены вас цікавяць?

— Ну, можа, вы зьмянілі месца працы? Ці ў вас нарадзілася яшчэ дзіця? Ці купілі новую кватэру і зьмянілі прапіску? Усялякае ў жыцьці можа быць, — па-філязофску вывеў капітан, які быў так падобны да капітана Нэлькіна.

Я пасьміхнуўся. Бо капітан Нэлькін быў вялікім жартаўнiком. Асабліва любіў ён апавядаць штосьці сьмешнае перад самым адбоем, калі неверагодна хацелася спаць. Жартаваў і сьмяяўся. Жартаваў і сьмяяўся. Такі армейскі тэатар гумару і сатыры.

— Нічога ў мяне не зьмянілася. Двое сыноў, адна жонка і адна кватэра, у якой я прапісаны.

— Ну і добра, — суха сказаў капітан, адчуўшы мой іранічны настрой.

— Я дык думаў, што вы мне якога палкоўніка прысвоілі за выслугу гадоў. А то хутка 50, а я ўсё яшчэ лейтэнант. — Мой іранічны настрой не зьбіраўся нікуды зьнікаць і нават пайшоў на ўздым.

— Чарговае званьне тым, хто ў запасе, даецца, як правіла, пасьля збораў. Калі ў вас ёсьць жаданьне...

— Не, не... жаданьня няма... згодзен заставацца лейтэнантам. — Я хутка зразумеў хаду думак капітана, які быў так падобны да капітана Нэлькіна.

— Тады ўсяго вам добрага. І калі што ў вас зьменіцца, паведамляйце нам. Да пабачэньня. — Капітан устаў, выйшаў з-за стала і працягнуў мне далонь на разьвітаньне.

Я паціснуў яму руку ў адказ, гукнуў «да пабачэньня» і выйшаў з кабінэту. На калідоры нікога не было. Відаць, мэханіка танка Анатоля запрасілі ў іншы кабінэт.

* * *

Праз тыдзень мы з Тацянай зьехалі ў Палангу. Блукалі па ўзьбярэжжы. Крыху купаліся. Тацяна малявала акварэльлю эцюды.

А Шагойка не выходзіў з галавы.

З надвор'ем пашанцавала — большасьць дзён нашай тут прысутнасьці па-летняму смажыла сонца, і мы да стомы паваляліся на пяску на пляжы. Штодзень па дарозе да мора спыняліся каля дзядзечкі, які ўжо на добрай хуткасьці набліжаўся да ўзросту дзядулі. Яго твар, калісьці аптымістычна круглабокі, пачаў усыхаць, і зморшчыны актыўна малявалі на ім нейкую экзатычную мапу. А калі я даведаўся, што ён былы капітан далёкага плаваньня, то зрабілася зразумелым, што гэта за мапа — ягоных марскіх вандровак. Дзядзечка гандляваў ракавінамі. Якіх тут толькі не было: і вялізныя, разлапістыя, нібыта парцалянавыя, і невялікія, розных формаў і колераў. Ён мог расказаць адмысловую гісторыю пра кожную. Тлумачыў, што распрадае сваю калекцыю, а ракавіны звозіў у Палангу з усяго сьвету. Толькі вось прыйшоў час — і капітана сьпісалі на бераг. А цяпер яшчэ і здароўе пачало падводзіць. Патрэбна апэрацыя, на якую шукае грошы. «А гэтыя ракавіны — уся мая спадчына», — ці то апраўдваючыся, ці то скардзячыся, паведаміў былы капітан. Мы купілі пару ракавін, і гэта нам забясьпечыла штодзённыя яго расповеды пра былыя вандроўкі і дзіўныя прыгоды.

Пагадзіцеся, добры пачатак для кожнай новай сустрэчы з морам.

— Як думаеш, ці праўда тое, што ён расказвае? — спытала ў мяне Таццяна.

— А якое гэта мае значэньне? Ты бачыш, ён сам верыць у тое, што распавядае. Усё жыцьцё — тэатар. А да гэтага спэктаклю мы ўзялі квіткі — купілі ракавіны.

Таццяна расьсьмяялася і пагадзілася са мною.

Спыніліся мы ў прыватным сэктары, зьнялі пакой у двухпавярховым цагляным дамку. Гаспадары здавалі адпачывальнікам увесь другі паверх. Але ніхто нам не замінаў — мы былі адны, а ўваход быў асобны.

Да мора хадзілі амаль праз увесь горад. Некаторыя спальныя раёны Палангі, дзе жылі тубыльцы, выглядалі гнятліва: пашарпаныя фасады прымітыўных цаглянікаў, нячышчаныя ходнікі, як быццам іх зацягнула марскім глеем, разьлеглыя ва ўсе бакі бардзюры, падпітыя пэнсіянэры ў ліnялых саколках, на лаўках. Раней мне здавалася, што савецкая спадчына, прынамсі ў Прыбалтыцы, хутка выпетрыцца. Але дзе там! Гэтая спадчына так уелася ў скуру, што немагчыма яе пазбавіцца.

Раней я ніколі на Балтыцы не адпачываў. За часамі майго дзяцінства і юнацтва мы сям'ёй штолета езьдзілі ў Крым. Грузілі ў свой «масквічок» турыстычнае начыньне, правіянт — і ў дарогу. Спачатку спыняліся ў кемпінгу побач з Феадосіяй, а затым вандравалі па ўсім узьбярэжжы. Не лічу гэтыя вандроўкі маёй савецкай спадчынай, непасрэдна зьвязанай з тым часам і тым ладам

жыцьця. Нічога савецкага ў тых паездках не было. Было мора, скалы, паўднёвая садавіна-гароднiна, лоўля бычкоў на донку, купаньне да пасінененьня, лянотны сон у намёце. Ня ведаю як брата, а мяне дасёньня грэе крымскае сонца тых успамінаў.

Але Шагойка. Што з Шагойкам?

Гэты Робін Гуд, Чынгачгук, Чэ Гевара, Мэер Ланскі, Аль Капонэ і Віктар Баранаў у адной асобе не даваў мне спакою. Больш за ўсё ня мог зразумець, як ён падробляў савецкія банкноты? Проста маляваў ад рукі? Што для мяне было найбольш праўдападобным. Ці меў нейкі прэс і, выкарыстоўваючы клішэ, дапамагаў савецкай уладзе павялічваць грашовую масу? Што падавалася мне малаверагодным.

Я пацікавіўся ў інтэрнэце пра фальшываманэтчыкаў, якія існавалі ў СССР. Самы вядомы зь іх — Віктар Баранаў са Стаўрапалю. Ён сам распрацаваў тэхналёгію падробкі савецкіх купюраў наміналам у 25 і 50 рублёў. І вырабляў іх на друкарскім варштаце. Прычым штампаваў нават вадзяныя знакі. Думка пра тое, што Шагойка мог быць такім Кулібіным, мне падалася фантастычнай.

## ЧАСТКА ТРЭЦЯЯ

Я не памыліўся: кніга Івана Дзядзюлі пра партызанскую брыгаду «Сьмерць фашызму» аказалася ў бацькоўскім кнігазборы. Яна называлася «Лясная гвардыя» і выйшла ў 1968 годзе ў менскім выдавецтве «Беларусь». Відаць, аўтар меў за ўзор фадзееўскую «Маладую гвардыю», якая ў той час лічылася эталённай кнігай пра подзьвіг савецкіх людзей у Вялікай Айчыннай вайне.

І што вы думаеце, знайшоў там згадку пра Шагойку. Праўда, Дзядзюля не называе імя гэтага майстра на ўсе рукі. Але ў кнізе апісваецца легендарная гісторыя пра тое, як байцы брыгады «Сьмерць фашызму» атрымалі па падробленых накладных на нямецкіх складах у Смалявічах харчы.

*«У нас быў партызан-мастак,* — пісаў у кнізе Дзядзюля, — *які настолькі налаўчыўся на падробцы дакумэнтаў, што гітлераўскія патрульныя ні разу не заўважылі фальшу ў паперах, якія ён вырабляў. Але на гэты раз ён быў бясьсільны — у яго не было ўзору для зьняцьця копіі. І раптам наш сувязны прынёс ад дзяўчын* (яны працавалі на харчовым нямецкім складзе ў Смалявічах. — А.А.) *абодва дакумэнты. Блянк накладной быў бездакорна запоўнены і афармлены падробленай пячаткай. Начальнік выведкі для праверкі даў накладную палонным немцам. Тыя ўважліва*

*вывучылі яе, нават паглядзелі на сьвет і заявілі, што накладная сапраўдная».*

І самае цікавае, што кніга выйшла ўжо пасьля арышту і суду над Шагойкам. Відавочна, гэта стала прычынай зьнікненьня з кнігі імя партызана-мастака, але не прымусіла аўтара цалкам выкрасьліць згадку пра яго.

А гэты Дзядзюля па вайне працаваў у савецкай контрвыведцы.

* * *

Мы сядзелі з братам у кабінэце натарыюса. Маладая дзяўчына, якая, можа, тры-чатыры гады як скончыла юрфак, штосьці шукала ў паперах. Затым аднесла сакратарцы тэчку з дакумэнтамі, вярнулася на сваё месца і адшліфаваным працоўнымі буднямі голасам сказала:

— Я слухаю вас.

Віктар пачаў тлумачыць прычыну нашага візыту. Маўляў, летась згубілі бацьку, сёлета пайшла з жыцьця маці. Мусім юрыдычна ўступіць у спадчынныя правы. Якім чынам гэта можна аформіць?

Мне, па-шчырасьці, было б складана неяк тое патлумачыць. Нават вымавіць. Без хваляваньня, лякацічна, бяз блытаных тлумачэньняў. Ніколі ня думаў раней, што будзе так нясьцерпна. Дзякуй брату, ён годна вынес на сваіх плячах увесь цяжар гэтых пакутлівых двух гадоў.

Ня ведаю, наколькі яму самому было цяжка ў душы. Як ён гэта перажываў сам-насам. Але пры мне Віктар трымаўся без залішніх эмоцыяў, зьбянтэжанасьці і страху.

А я, прызнаюся, хоць і старэйшы брат, баяўся назіраць, як сьмерць забірае бацькоў. Як яна нахабна высмоктвае зь іх апошнія кроплі жыцьця. Бачыць гэтую разгубленасьць у вачах маці. Гэтае неразуменьне: што адбываецца, чаму? Не, яна не баялася сьмерці. Мая маці была вельмі мужнай жанчынай. Часам я нават дзівіўся яе вытрымцы. Яна магла быць вельмі рашучай, без залішняй чульлівасьці.

Ёй было ніякавата за сябе, за сваю бездапаможнасьць, за тое, што дае блізкім клопату. Была яна вельмі гордай і не магла трываць прыніжэньня. Нават з боку сьмерці. Не прасіла яна літасьці. Але крыўда ў яе вачах была.

І той яе разьвітальны позірк у лякарні, калі яна была яшчэ пры розуме, але ўжо не магла гаварыць... Ці магчыма яго забыць?

Натарыюс пачала задаваць пытаньні. Віктар талкова і зьмястоўна на іх адказваў. Затым яна ўзялася вывучаць дакумэнты, якія мы прынесьлі. Паглядзела ў сваім кампутары патрэбную інфармацыю.

Нашай галоўнай спадчынай зьяўлялася бацькоўская кватэра, у якой прайшло маё і брата дзяцінства і юнацтва. Летні дом мама прадала яшчэ летась, калі адчула, што ўжо нестае сіл і дому патрэбны новы гаспадар.

А што рабіць з бацькоўскай кватэрай? Прадаваць яе было шкада. Аднак яна не была патрэбная ні мне з братам, ні нашым дзецям.

Натарыюс пачала тлумачыць, якім чынам адбудзецца ўступленьне ў спадчынныя правы. Юрыдычна толькі праз паўгода.

Такім чынам, у нас быў час падумаць, што рабіць з бацькоўскай кватэрай.

* * *

Наш сямейны летні дом бацькі пачалі будаваць у 1988-м. Я ўжо год як жыў у Полацку. Бацька на працы атрымаў дзялку зямлі пад забудову ў дачным каапэратыве кавальскага заводу, на якім працаваў да выхаду на пэнсію. Ён нейкі час нават быў старшынём гэтага дачнага каапэратыву. Дзялка, што яму дасталася, месьцілася на адлегласьці ад самога дачнага масіву, праз балотца, на высьпе. На тым узгорку зьявілася толькі пяць дамоў, і ўсё гэта разам выглядала на невялічкую вёску.

Бацька вырашыў будавацца сур'ёзна. Дакладней, так яму загадала маці. Ніякіх дашчаных будак. Толькі вялікая, трыдцыйная драўляная хата. Бацькі замовілі зруб у лясьніцтве. Паставілі яго на дзялцы, зь вялізных бёрнаў, і пачалася вялікая будоўля.

Але перадусім трэба было пакарчаваць каля сарака дубовых пнёў! На гэтай высьпе раней расьлі адны дубы. Прынамсі на на-

шай дзялцы. Бацька мусіў замаўляць тэхніку, каб даць рады тым спрутам-карэньням. Адным заходам тая тэхніка яшчэ выкапала нам ставок.

Не сказаць каб я часта і падоўгу бываў на гэтай сямейнай сядзібе. А вось бацькі, як выйшлі на пэнсію, жылі тут вясну, лета і восень. Дом атрымаўся на два паверхі. Ладны, дыхтоўны, цёплы. З добрай печчу. З газавай плітой. То бок усе ўмовы для жыцьця на той высьпе бацькамі былі створаны, уключна зь невялікай лазьняй, якая неўзабаве зьявілася каля стаўка. У сажалку запусьцілі карасёў, якія хутка разьвяліся, і мае дзеці з задавальненьнем у кожны прыезд там лавілі іх на вуды. А мой старэйшы сын Антон у дзяцінстве, яшчэ да школы, штолета праводзіў на той сядзібе некалькі тыдняў.

Побач працякала невялічкая рачулка, зусім як ручай, якую некалі мэліяратары выпрасталі ў канаву. Адразу за нашай сядзібай пачынаўся балацяны луг, ён неўзабаве зарос кустоўем, і навакольны багністы абшар наблізіўся ўсутыч да нашай дзялкі. А яшчэ далей ішоў лес. Вось ён тут быў надзвычай прыгожы і нагадваў мне лясы, у якія мы з бацькамі некалі езьдзілі па грыбы. Асабліва прыгожы быў той, што разгортваўся за рачулкай. Стары, маляўнічы, парослы густым імхом бор. Ён ня быў задужа грыбны, але быў нейкі казачны і велічны. Мне страшэнна падабаўся. І ў кожны прыезд сюды я ім-

кнуўся той лес адведаць. Трэба было зрабіць кругаля, абысьці тыя хмызы, якія разрасьліся за нашай дзялкай, і па невялічкай лясной дарозе выйсьці да мастка праз рачулку. Яго зрабілі для таго, каб можна было на кані ці трактары трапіць на той бок. Адразу за мастком зеляneў вялікі луг, які штолета абкошвалі лесьнікі для сваіх хатніх буронак. Зьлева некалькі дзялак засаджвалі бульбай. Ня ведаю, як тую бульбу сьцераглі ад дзікоў. Частку яе дзікі ўсё ж «канфіскоўвалі» на карысьць вольных жыхароў лесу. Мяне дзівіла, чаму ня ўсю. І які сэнс так далёка ад вёскі, сярод лесу садзіць тую бульбу? Была, напэўна, тут нейкая старая традыцыя. Нечая спадчына. Нельга было дапусьціць, каб гэтая зямля зарасла лесам ці хмызамі. Хутчэй за ўсё, некалі, відаць, яшчэ да вайны, тут быў хутар. Бо далей зьлева расла купка старых яблынь, даўно зьдзічэлых, і некалькі дубоў. На адным зь іх хтосьці зьбіў з дошак назіральны пункт — ці не для паляваньня на дзікоў. Але ўжо тады, гадоў дваццаць таму, адчувалася, што людзі тут трымаюцца з апошніх сілаў, што неўзабаве і адсюль яны сыдуць.

Было цікава там паблукаць, уявіць, як тут жылі людзі даўней. Сярод лесу і балота. Разам з ваўкамі, дзікамі, ласямі, лесавікамі і балацянікамі. Без электрычнасьці, газавых плітаў, мабільнікаў, радыё і тэлебачаньня. Сюды нават пошту не вазілі.

Вяртаючыся, я сядаў на мастку і назіраў за плыньню вады. За віхляньнем водарасьцяў. За рухамі жукоў-плывунцоў і нейкіх маленькіх рыбак. Тут было сваё жыцьцё. Са сваімі таямніцамі, суладнасьцю з наваколльлем і нейкім векавечным спакоем. Тыя людзі, якія тут жылі, адпрацаваліся і зараз адпачываюць. І мне нясьцерпна хацелася зазірнуць у іхняе тое даўняе жыцьцё. А яшчэ лепш — пагутарыць зь імі, распытаць, даведацца гісторыю гэтай мясьціны. Бо ўсё тут мела свае назвы. І навакольныя лясы, і балоты, і лугі, і нават гэты масток, які за сваё жыцьцё спазнаў сотні інкарнацыяў. І кожны чалавек, які тут жыў, меў сваю гісторыю, свой рэалізаваны лёс, і так было шкада, што пра яго ніхто больш не даведаецца. І ўжо немагчыма даведацца.

* * *

Дзяцінства. Еду дахадзягам-«пазікам» у Арлова. Бакавым зрокам заўважаю, што ў мяне ўглядаецца маленькі сухі дзядок. Такія вясковыя выкапні зацята трымаліся самакрутак, насілі вайсковыя фрэнчы і падпярэзвалі порткі салдацкімі папругамі.

— А ты куды едзеш? — нарэшце дзядок не вытрымаў і зьвярнуўся да мяне з клясычным пытаньнем, якое нярэдка задаюць у грамадзкім транспарце.

«Пазік» добра трэсла і гайдала на грунтовай дарозе. Аўтобусік набіты людзьмі пад завязку. Пасажыры ледзь не вісяць на парэнчах.

Дзядок стаяў побач. Я сядзеў ля вакна на перадапошнім сядзеньні. Мне пашанцавала. Калі «пазік» пад'ехаў да пасадачнай пляцоўкі жодынЬскага аўтавакзала, невялікага вагончыка пад паветкай, мой стрыечны брат Сяргей апынуўся якраз ля дзьвярэй і заскочыў у салён сярод першых, заняўшы нам усім месцы. Мы ехалі ўчатырох да бабулі на радоўку. Для нас, гарадзкіх унукаў, пасьвіць каровы — сапраўдная прыгода. Для вяскоўцаў летні час вельмі дарагі. Як правіла, дзеля такой працы выклікалі нас. Касіць мы ня ўмелі, секчы дровы гарадзкім дзецям ніхто б не даручыў, палоць буракі мы самі не жадалі катэгарычна. А вось пасьвіць кароў — тое што трэба. Асабліва такой кампаніяй.

Я зразумеў гэтае пытаньне дзядка як адмысловую просьбу саступіць месца.

— У Арлова еду. А вы сядайце, — я пачаў прыўставаць, каб неяк памяняцца зь дзядком дыслякацыяй.

— Не, не, сядзі, мне хутка выходзіць. У Расошным. А ты, выпадкова, не Захарчын унук?

— Захарчын.

Мяне ўпершыню так назвалі, і было гэта неяк нязвыкла. Бо мой дзед Захар памёр яшчэ ў 1944 годзе. Падчас вайны. Я й ня

бачыў яго ніколі. А тут, аказваецца, сустракаю чалавека, які гаворыць пра дзеда як пра жывога, прынамсі, у яго памяці Захар працягваў існаваць.

— А я бачу, што нешта падобнае. Так і падумаў: відаць, Захарчын унук, — дзядок гэта сказаў нібыта ўсяму аўтобусу. Праўда, ніхто асабліва на яго словы не адрэагаваў. Усе тут былі нечыя ўнукі, дзеці або сваякі.

І вось я вырас. І бачу, што абсалютна не падобны да дзеда Захара. Хаця...

* * *

Мой дзед па кудзелі Захар Андрэевіч Пятровіч быў знакаміты на ўсю ваколіцу тым, што ў маладосьці езьдзіў у Амэрыку на заробкі. Выправіўся ў далёкі сьвет ён разам са стрыечным братам. Дабраліся да Новага Сьвету. Працавалі старанна. Зарабілі грошай. Па адной з вэрсіяў, якую пачуў ад сваякоў, дзед Захар удзельнічаў у нейкіх хваляваньнях-пратэстах эмігрантаў. Бунтароў пахапалі, пасадзілі на карабель і адправілі назад у Стары Сьвет.

Вярнуўся дзед Захар у родныя мясьціны ў няпростым 1917 годзе, у лютым. Пасьпеў дакупіць да свайго спадчыннага бацькоўскага надзелу яшчэ кавалак зямлі. Заробленыя грошы ён прывёз з сабой ня ўсе. Частку сваіх зьберажэньняў пакінуў у адным з амэрыканскіх банкаў. Ці то на чорны дзень, ці то

не пасьпеў забраць. Ужо пасьля Другой сусьветнай вайны бабуля Наста зьвярталася ў банк як спадчыньніца тых грошай. Прыйшоў лякацічны адказ: падчас вайны банк збанкрутаваў, грошы згарэлі. На Захадзе, аказваецца, банкі таксама падманваюць укладчыкаў.

Маю фотаздымак дзеда Захара, які ён зрабіў яшчэ ў Амэрыцы. Сфатаграфаваўся разам са стрыечным братам. Абодва ў шыкоўных гарнітурах, у белых кашулях. У Захара клясычны гальштук, ланцужок ад кішэннага гадзіньніка. У брата — франтаўскі матылёк і капялюш. Цяжка ў іх пазнаць сялянаў Юраўскай воласьці Барысаўскага павету.

У 27-гадовым узросьце Захар ажаніўся з Настасьсяй Зарэмбай, з суседняга Юрава (мясцовыя людзі ніколі не называлі гэтае мястэчка Юр'евам, як яно пазначана на сёньняшніх мапах), і пачаў будаваць уласную сям'ю. Бацькам Настасьсі быў юраўскі царкоўны староста Антон Фёдараў Зарэмба. Шлюб бралі 7 чэрвеня 1921 года ў юраўскай Сьвята-Георгіеўскай царкве. Нявесьце было 23 гады.

Цяжка было дзеду Захару прызвычаіцца да новай улады. Пасьля Амэрыкі, пасьля тых мараў і плянаў, якія выношваў за акіянам у Новым Сьвеце. Восеньню 1938 года Захара арыштаваў НКУС. Два селяніны з суседня-

га Тачылішча напісалі данос, маўляў, хутаранін-аднаасобнік вядзе агітацыю супраць калектыўнага гаспадараньня. Упарты «амэрыканец», які не ўступаў у калгас, а сваёй ударнай «кулацкай» працай падрываў дысцыпліну новага парадку, шмат каму замінаў жыць. У турмах правёў амаль год. Сядзеў у Смалявічах, Менску, Барысаве. Суд, які адбыўся ў Барысаве, яго апраўдаў — сьведкі блыталіся і нічога толкам не маглі давесьці. На суд прыехалі і вяскоўцы-землякі, якія сьведчылі, што ўсё гэта хлусьня — прыватныя крыўды і помста. Некалькі месяцаў Захар ачуньваў пасля турмаў. Паводле ўспамінаў маіх дзядзькоў і цётак, ляжаў на печцы і доўга ня мог ані працаваць у полі, ані рабіць па гаспадарцы. Увесь сядзібны клопат лёг на плечы жонкі Насты, якая да таго ж мела ўжо 8 дзяцей. Мая маці, малодшая ў сям'і, якраз нарадзілася ў 38-м.

Летам 1941 году Захар атрымаў апошняе папярэджаньне: перацягвай хату ў Бабін Лес і ўступай у калгас. Ліквідуй свой хутар, інакш будзеш мець вельмі сур'ёзныя праблемы. Кампраміс тут не прадбачыўся. Рэаліі новага жыцьця, якія на ўласныя вочы пабачыў у савецкіх турмах, даводзілі: гэтая ўлада не жартуе. Дом разабраў. Перавёз. І тут вайна. Захар, які яшчэ не пасьпеў адбудавацца на новым месцы, вяртаецца назад — на свой хутар.

* * *

У Арлова мы прыяжджалі звычайна пад вечар, каб заначаваць і ў дзень радоўкі прачнуцца на самым золку, бо недзе а пятай трэба пачаць працоўны дзень. Як правіла, з раніцы зьбіраць кароў ад гаспадароў нам дапамагаў дзядзька Міша. (Усе мае крэўныя па матчынай лініі ў адзін голас сьведчаць, што менавіта дзядзька Міша найбольш падобны з твару да дзеда Захара.) Гэта самы цяжкі час радоўкі. Спаць хочацца страшна. Да таго ж паўсюль па траве раса і кеды намакаюць імгненна. Нагам робіцца золка. Вяскоўцы такім ранкам звычайна ходзяць у кірзачах або гумовіках, а дзе іх набрацца на ўсю нашую ватагу. Церпім у кедах. Балазе, як толькі загонім статак у Краснае — на вузкую паласу лугу паміж балотам, што атачае возера Вялікае, і разараным калгасным полем, якое цягнецца да самага Бабіна Леса, адразу распальваем вогнішча. Грэемся і сушымся. Смажым на агні скрылі сала і кавалкі хлеба, узьдзетыя на пруткі. І гэта ўжо цікава, і гэта тое, дзеля чаго прыяжджаем на радоўку.

Самае галоўнае — не дазволіць каровам убіцца ў калгаснае поле і ня даць пашыцца ў балота. У тым балоце, мы ведалі з расповедаў старэйшых, ужо загінула некалькі кароў вяскоўцаў, таму з боку возера мусім пільнаваць асабліва. Але нас цэлая брыгада: да чацьверкі гарадчукоў далучыліся два сыны

дзядзькі Мішы — Сяргей і Саша. Такой камандай нам няцяжка сачыць за статкам і не даваць каровам разбрыдацца. Вольнага часу багата. Чытаем кнігі. Гуляем у гульні. Распавядаем ля вогнішча розныя гісторыі.

У час абеду ходзім дахаты па двух. Корміць нас бабуля Наста. Такія стравы, якія яна гатавала, я больш нідзе не сустракаў. Напрыклад, смажаны на патэльні клінковы сыр. Або засмажаная ў скварках кіслая капуста. Смаката. Я і зараз час ад часу гатую сабе такую страву, праўда, акрамя мяне, ніхто ў маёй сям'і яе ня есьць. На арлоўскім стале абавязкова было пер'е зялёнай цыбулі ў кіслым малацэ. Ну а самы вялікі бабулін кулінарны хіт — жур. Бабуля гатавала яго ў мэталічных місах, і быў ён густы, як джэм. Елі яго лыжкамі. «Еш, еш, — казала бабуля, — жывот ня будзе балець».

Бабуля Наста казала чысьцюткай літаратурнай беларускай мовай. Рускай яна ня ведала ўвогуле. Мясцовых сучасных тапанімічных назваў таксама не прызнавала. Ня Жодзіна, а Жодынь, ня Юр'ева, а Юрава. Гэтак казалі яе дзяды і прадзеды.

Жур звычайна гатаваўся са сьвежых ягад. Асабліва шанаваліся чарніцы. Калі чарніцы яшчэ не сасьпелі ці ўжо адышлі, тады ў нейкія іншыя сьвежыя ягады дадаваліся сушаныя чарніцы. Або жур проста гатаваўся з сушаных ягад. А каб запасы чарніц увесь час папаўняліся, бабуля пэрыядычна прасі-

ла нас зьлётаць у бліжэйшы лес па ягады. Мы ніколі гэтыя просьбы не ігнаравалі і накіроўвалі некалькі чалавек на промысел. Вярталіся ягаднікі з чорнымі губамі і поўнымі бітончыкамі ягад, ды яшчэ з грыбамі ў кашулях, зьнятых з плечукоў. Вялікія баравікі, бабкі ды падасінавікі таксама патраплялі на печ — у сушку, астатнія смажыліся на вячэру на вялізнай патэльні. Грыбы, засмажаныя ў печы, — неверагодная смаката. Ня памятаю, каб нехта адмаўляўся ці каб на патэльні штосьці заставалася.

Начавалі звычайна на сене. Усім гуртам. З рогатам і баруканьнямі. Доўга не ўгамоньваліся, пакуль не прыходзіў хтосьці са старэйшых, каб супакоіць вісусаў.

* * *

Калі немцы пачалі ўсталёўваць свой дойчпарадак, дык на сходзе вяскоўцаў у Бабіным Лесе Захара Андрэевіча абралі старастам вёскі. Людзі паважалі яго. Памяталі і пра яго бацьку, Андрэя Пятровіча, які пабудаваў на Бабілескіх могілках капліцу. Захар разумеў, што гэта небясьпечна, што немцы тут часова, але ня мог пайсьці супраць волі землякоў.

У 2007 годзе я напісаў ліст да старэйшай дачкі Захара, цёткі Алены (нар. у 1922 г.), каб яна згадала гэтую гісторыю.

*«Другую сусьветную вайну ён сустрэў з трывогай. Ён так і сказаў, гэта я добра по-*

*мню: вайна ня так хутка завершыцца, і мае дзеці пасьпеюць нацярпецца. А чаго было радавацца? Вайна несла разарэньне. Чаму прызначылі старастам? У 1941 годзе ўсе працягвалі працаваць разам у калгасе. Дзялілі зерне па 200 г на аднаго члена сям'і, гэта спачатку, пасьля і таго не было. У 1942 годзе зямлю раздалі: на вялікую сям'ю па 7 га, на сям'ю з 2—3 чалавек — 3,5 га. Каб сумленна падзяліць зямлю і сачыць за парадкам на агульным сходзе, тату і абралі старастам. Да вайны ён быў членам сельсавета, гэта была выбарная пасада, вяскоўцы абіралі тых, каму давяралі. Вось і пры немцах землякі зноў даверылі Андрэеваму Захару свае лёсы. Намесьнікам старасты абралі маладога вяскоўца з Тачылішча Фёдара Філіповіча. На тым сходзе ў Бабім Лесе я таксама была і добра ўсё помню».*

А калі ў ваколіцах зьявіліся першыя партызаны, дык неўзабаве наведалі і хату Захара. Але прыбеглі з суседніх хутароў жанчыны з чапёламі і адстаялі свайго старасту. «Калі Захарку зробіце крыўду, дык будзеце мець справу з намі!» — грозна папярэдзілі яны народных помсьнікаў. Тыя рэціраваліся. Праўда, празь нейкі час аб'явіліся камандзіры і завэрбавалі Захара ў свае агенты. Ясна, што адмовіцца было немагчыма. Маючы нямецкі «аўсвайс», Захар пачаў выконваць партызанскія заданьні — езьдзіў у Смалявічы з рознымі даручэньнямі, прывозіў партызанам

харчы, цыгарэты, зброю. У сакавіку 1943-га паліцаі затрымалі яго зь вялікай партыяй цыгарэтаў. Адвезьлі ў камэндатуру, пачалі дапытваць. Зьбілі на горкі яблык. Нікога стараста ня выдаў. Маўляў, купіў цыгарэты ў чыгуначнікаў, каб абменьваць на хлеб. Конь сам прывёз дзеда дахаты ледзь жывога. Падазраю, што тут не абышлося бяз выкупу. Ведалі паліцаі, што ў арлоўскага «амэрыканца» недзе схаваныя залатыя чырвонцы. Хутчэй за ўсё, бабуля была вымушана заплаціць. А паліцаі не здалі дзеда немцам. Але гэтага зьбіцьця Захар ужо ня вытрымаў. 18 сакавіка 1944 года памёр, пакінуўшы жонку з васьмю дзецьмі.

Зь ліста цёткі Алены:

*«Зь верасьня 1942 года мы з бацькам сталі сувязнымі і забесьпячэнцамі партызанскай брыгады «Сьмерць фашызму». Усе даручэньні партызан ён выконваў спраўна. Ён і я ведалі, да каго і зь якой нагоды зьвяртацца. У сакавіку 1943 года тата падчас адной з паездак у Смалявічы быў затрыманы. Усё ўжо выканаў — атрымаў цыгарэты з крамы, дзе працаваў Суша, і вяртаўся дахаты. Яго затрымаў і арыштаваў паліцэйскі Лашук. У паліцэйскім пастарунку яго дапытвалі, білі, але тата ўпарта паўтараў, што купіў цыгарэты ў чыгуначнікаў, каб абмяняць на хлеб, бо трэба карміць дзяцей, і што з партызанамі ня мае нічога супольнага. Яго адпусьцілі.*

*Цыгарэты забралі. Памёр ён у сакавіку 1944 года, праз год».*

Пачаліся вельмі цяжкія дні. Цяпер не было каму ня толькі карміць сям'ю, але і ахоўваць. Немцы і паліцаі, асабліва падчас блякадаў партызанскай зоны вакол Юрава, забіралі апошняе. Летам 44-га ў хату ўваліліся ўкраінскія паліцыянты. Пачалі абшукваць хату. Скінулі з ложка нямоглую бабулю — маці Захара, якая ўжо не ўставала. Пад матрасам знайшлі яе рэчы, якія бабця падрыхтавала сабе на пахаваньне. У падпеччы знайшлі баян Захара. Забралі. Абчысьцілі ўсю кладоўку. Абшукалі ўсё, што толькі можна. Нібыта партызаны маглі схавацца пад гноем у хляве або закладзеныя ў кастры дроў.

На шчасьце, хата перажыла вайну. Як толькі пачыналіся ў ваколіцах вайсковыя дзеяньні або бамбёжка, артабстрэл, жанчыны выходзілі з хаты з абразамі і хадзілі па двары. Дапамагло. Ніводная бомба, ніводзін снарад у хату ня трапілі.

І колькі памятаю, у хаце заўжды віселі па кутах абразы. У 70-х у тэлевізійную антэну шуганула маланка, удар прыняў на сябе абраз, які быў у куце над тэлевізарам, і разьляцеўся на кавалкі. А хата засталася цэлай, не загарэлася. Рэшткі гэтага абраза пазьней знайшоў на гарышчы дома мой стрыечны брат Сяргей, склеіў і рэстаўраваў як рэліквію.

* * *

Хата дзеда Захара стаяла на ўзгорку над возерам Вялікім. Возера атачала тарфяное балота, якое зарасло кустоўем і асінамі. На Вялікае ходзім рэдка, бо купацца там можна толькі з лодкі і рыбу зь берагу асабліва не паловіш — паўсюдна шчыльныя сьцены аеру, асакі і чароту. Дый камароў у тым балоце нямерана, ядуць жыўцом. Я лавіў рыбу там усяго пару разоў. Джгіры толькі трапляліся. Хаця добрая рыба ў возеры ёсьць — тутэйшыя жыхары ловяць ладных шчупакоў, плотак, карасёў, лінёў.

Амаль на супрацьлеглым баку возера — Юрава. Зімой туды мясцовыя ходзяць па лёдзе. Летам — у абход, лясной дарогай, кілямэтраў 8—10. Мая мама па вайне хадзіла ў Юраўскую школу пешкі. І зімой таксама. І ваўкоў сустракала, і ў завіруху трапляла. Хапіла розных прыгодаў.

Усе мае тамтэйшыя сваякі зьвязаныя каранямі з Юравам. Паходзілі адтуль. Пазьней набылі ў навакольлі зямлю і разьехаліся па сваіх надзелах. За царскім часам засьценак Арлова, як і суседні Бабін Лес, належаў да прыходу юраўскай Сьвята-Георгіеўскай царквы. Таму ў Юраве і шлюб бралі, і дзяцей хрысьцілі. Усё мясцовае жыцьцё было арыентавана на гэтае ці то мястэчка, ці то вялікую вёску, якая ляжала на старажытным шляху з Барысава ў Лагойск.

У 1894 годзе на Бабілескіх могілках, што знаходзяцца паміж Арловам і Бабіным Лесам, была пабудавана капліца. Згодна з прыходзкімі дакумэнтамі, будавалі яе «сяляне засьценка Арлова і вёскі Бабін Лес», гэта значыць, і пры ўдзеле майго прадзеда Андрэя Пятровіча, бацькі Захара, гаспадара засьценка Арлова.

Калі за савецкім часам паўстаў калгас зь сядзібаю ў Бабіным Лесе, «цэнтрабежныя сілы» Юрава пачалі зьнікаць. А калі ля чыгункі Менск — Масква паўстаў Беларускі аўтамабільны завод і нарадзіўся горад Жодынь, дык і ўвогуле ўсё мясцовае жыцьцё пераарыентавалася на новы рэгіянальны цэнтар. Паціху жыхары навакольных вёсак пачалі перабірацца ў гарадзкія кватэры, ператвараючы бацькоўскія сядзібы ў дачы.

А старажытнае Юрава зацішылася ў сваім правінцыйным жыцьці. Сьніць сны пра часы Ўсяслава Чарадзея і лагойскага княжыцкага намесьніцтва. А яшчэ штолета юраўцы на некалькі дзён сыходзяць са сваіх хатаў касіць уласныя надзелы ў маляўнічым рэчышчы Гайны. Як сто, як дзьвесьце, як трыста гадоў таму.

* * *

Найбольш цяжка сям'і Пятровічаў без гаспадара было перажыць 1944—1946 галодныя гады. Старэйшых дачок Захара, Алену

і Марыю, у 44-м немцы вывезьлі на працу ў Нямеччыну. На шчасьце, яны перажылі гэтае выпрабаваньне і вярнуліся на радзіму.

Дзякуй Богу, не ўсё разрабавалі акупанты, асноўныя сямейныя «скарбы» закапалі ў зямлю на гародзе, перахавалі. Цэлай засталася і швейная машынка «Зінгер», якая адслужыла вялікую службу: рэчы перашывалі па некалькі разоў, ад старэйшых — малодшым. Пазьней гэтая машынка ў спадчыну дасталася маёй маці — тое-сёе было пашыта на ёй і для мяне. Удалося ўратаваць і асобныя каштоўныя рэчы Захара. Менавіта дзякуючы ім сям'я не памерла з голаду зімой 44-га. Гэтымі рэчамі, у свой час набытымі за амэрыканскія даляры, было заплачана за жыцьцё наймалодшых дзяцей. У самы крытычны момант залаты гадзіньнік Захара абмянялі на кош бульбы. Прыйшлося разьвітацца і са шматлікімі іншымі напамінамі пра гаспадара. Але выканалі запавет Захара Андрэевіча: захавалі ягоны залаты пярсьцёнак з выгравіраванай манаграмай зь літараў З і А. Яго зараз носіць адзін з Захарчыных сыноў — Андрэй, мой хросны бацька.

Старэйшая дачка Захара Алена вучылася ў Менскім пэдтэхнікуме, але не пасьпела з-за пачатку вайны атрымаць дыплём. Па вайне ўдалося даказаць сваю вучобу, адшукаўшы трох выкладчыкаў, і ўсё ж атрымаць дакумэнт аб адукацыі. Прыканцы 40-х Алена

Захараўна выкладала ў Бабілескай пачатковай школе.

*«Мой тата так і не ўступіў у калгас, пражыў цяжкае жыцьцё. Адусюль быў ціск. Непасільныя падаткі, але трымаўся. Мы не былі голымі і галоднымі. Жылі ня горш калгасьнікаў. Мы, дзеці, дапамагалі бацькам чым маглі. Пра сваю паездку за акіян ён нам няшмат апавядаў. Казаў, кепска, што не хапала ведаў, адукацыі. Працаваў. Заўсёды тата казаў, што дзяцей трэба добра вучыць».*

* * *

Гісторыя пра Шагойку мяне не адпускала. Яшчэ некалькі разоў кантактаваў праз інтэрнэт з Андрэем Цісецкім. Цікавіла перадусім, як склаўся лёс смалявіцкага Робін Гуда пасьля вайны.

Атрыманая інфармацыя дадала толькі пытаньняў і зусім заблытала гісторыю. Паводле Цісецкага, Шагойка быў накіраваны на службу... у Смалявіцкае раённае аддзяленьне НКУС, але вельмі хутка стаў на шлях адмаўленьня закону дзеючай улады. І з 1944 да 1952 году знаходзіўся на нелегальным становішчы. Пакуль яго ня вылавілі і ня выправілі «астыць» у Казахстан.

Але чаму яго накіравалі менавіта ў НКУС? Правераны, надзейны. Рэкамэндацыі партызанскіх камандзіраў. Актыўны ўдзел у пар-

тызанскіх дывэрсійных апэрацыях. Відаць, неяк так.

А вось чаму пасьля некалькіх тыдняў службы ў савецкіх карных органах ён хутка пазбыўся ілюзіяў адносна справядлівага ўладкаваньня жыцьця ў мірнай Беларусі — тут усё зразумела. Тую справядлівасьць ён пабачыў на ўласныя вочы. І больш за тое. Мусіў яе несьці ў свой народ.

Магчыма, яго хацелі выкарыстаць і як знаўцу партызанскіх явак, сьцежак і лягераў, дзе яшчэ амаль да пачатку 50-х гадоў хаваліся рознага роду нелегалы — як былыя паліцаі, так і змагары са «справядлівасьцю» новай улады. Тут ужо трэба было выбіраць. Або здаваць былых сваіх лясных братоў. Або далучацца да іх.

І ён далучыўся.

Але... Паўстае яшчэ адно цікавае пытаньне. Чаму гэтага «ляснога бандыта», які з 1944 па 1952 год знаходзіўся на нелегальным становішчы, які быў злоўлены, пакараны савецкім справядлівым судом і накіраваны на выпраўленьне ў Казахстан, у 1986 годзе... узнагароджваюць ордэнам Айчыннай вайны І ступені? Тут ужо ў мяне няма ніякай вэрсіі й ніякіх тлумачэньняў.

* * *

Апошнім часам стала папулярна гуляць вясельлі ў аграсядзібах, далей ад гарадзкой мітусьні і чужых вачэй. Тут ня толькі вальней дыхаецца, але лепш згадваюцца народныя вясельныя традыцыі.

Гэтым разам быў на чарговым такім вясельлі. Шлюб браў мой пляменьнік. Вялікі драўляны дом перарабілі ў банкетную залю. На даўжыню ўсёй бакавой сьцяны да яго прымыкала прасторная крытая вэранда з маляўнічым відам на невялікі ставок. У другой палове дня перапынкі паміж застольлямі пачыналі рабіць усё больш працяглымі. І калі чарговы раз абвесьцілі пярэрву на паўгадзіны, я вырашыў пашпацыраваць па тутэйшым лесе, які пачынаўся адразу праз вясковую грунтавую дарогу.

Вось дзе нашае вялікае багацьце! Лясы. Дзіўна, але беларускія лясы не паўтараюцца. Кожны мае нейкую асаблівасьць — у падборы дрэваў, у форме і колеры соснаў або елак, у расьліннасьці пад дрэвамі. Верас, мох, розныя травы, плантацыі чарніц, буякоў або суніц, папараці, якая цьвіце ўноч на Купальле, дурманлівы багун. Так усё разнастайна і прыгожа. Гэты беларускі ляндшафтны дызайнер сапраўдны геній.

Спачатку я трымаўся лясной дарогі. Але гэта выглядала на назіраньне з вакна аўтамабіля. Тады я пайшоў проста па лесе. Мінаў сосны і елкі. Рэдкія бярозы й асіны. Адчуваў

сваімі чаравікамі далікатнасьць імху. Кранаў рукамі калючую прыгажосьць ядлоўцаў. Лес мяне зачароўваў. І я кіраваў невядома куды, і, здавалася, ужо згубіў арыентыр. Я хацеў дасягнуць таямнічай глыбіні гэтага лесу — далей ад дарог і чалавечай мітусьні.

І тут я заўважыў нешта сярод дрэваў. Штосьці незвычайнае. Пайшоў у той бок, а калі наблізіўся, майму зьдзіўленьню не было межаў. Сярод лесу стаяла магіла. І ня проста грудок і крыж. Магілу з чатырох бакоў атачала мэталёвая агароджа, як гэта за савецкім часам рабілі на звычайных могілках. За агароджай узвышаўся бэтонны помнік, на якім выразна чыталася: «М.И.М. Убит в 1919 году». Пад помнікам ляжаў выцьвілы букет з плястмасавых кветак. Ні імя, ні якіх-небудзь яшчэ зьвестак. У 1919 годзе магло здарыцца што заўгодна. Неспакойны быў час. Але чаму гвалтоўна забітага не пахавалі на вясковых могілках, да якіх адсюль два-тры кілямэтры? Чаму на помніку не пазначана імя? Хто зрабіў гэтую агароджу і помнік, і хто даглядае магілу? І што замінала напісаць імя пахаванага ў наш час?

«А ўяўляеш, колькі такіх таямніц хціва праглынуў час», — у думках сказаў я сам сабе.

І тут зазваніў тэлефон ва ўнутранай кішэні пінжака. Ад нечаканасьці я схамянуўся, дастаў тэлефон і прыклаў да вуха. Звaніла Таццяна і пыталася, куды я зьнік.

* * *

Згадалася, як брат расказаў мне адну сямейную гісторыю пра спадчыну. На лужку перад яго домам мы гатавалі плоў. Дакладней, гатаваў Віктар, а я яму дапамагаў — падаваў што трэба і сачыў за агнём у буржуйцы. І тут раптам Віктар спытаў у мяне:

— А ты ведаеш гісторыю пра спадчыну, якая дасталася бацьку ад яго бацькоў?

— А што гэта за гісторыя? — пытаньнем на пытаньне адказаў я.

Я ведаў, што ніякай спадчыны ён не атрымаў. У прынцыпе не было чаго атрымліваць. Стары бацькоўскі дом на сямейнай нарадзе было вырашана аддаць адной з пляменьніц, дзе яна й жыве зараз з сям'ёй. Больш не было чаго дзяліць.

— Гісторыя называецца «Рыдлёўка», — з усьмешкай на ўвесь твар працягваў свой расповед Віктар. — Затым ён пайшоў у гараж і прынёс капач.

— Ты памятаеш гэтую рыдлёўку? — запытаўся ён.

Прылада была сапраўды адмысловая, не падобная да тых, да якіх мы прызвычаіліся. Стандартныя выраблялісся з цэльнага ліста сталі. А гэтая была іншая. Частка, да якой мацаваліся драўляныя тронкі, злучалася з лязом з дапамогаю моцных клёпак. Я добра памятаў гэтую рыдлёўку, ёй працаваў бацька на сваіх сотках.

— Памятаю, канешне, гэта бацькоўская рыдлёўка, — я адразу апазнаў адметны рабочы інструмэнт.

— Дык вось, калі памерла маці і бацькоўскі дом апусьцеў зусім, ён забраў рыдлёўку — адзінае, што стала ягонай спадчынай. Дарэчы, гэта яшчэ ваенны трафей нашага дзеда.

— Выдатная гісторыя, — пахваліў я брата.

— А калі мы сёлета ўвесну прадавалі наш летні дом, я забраў гэтую рыдлёўку з сабой. І цяпер яна ў мяне. Разумееш? Бацькаўшчына зноў знайшла свайго спадчыньніка.

— І я, старэйшы спадчыньнік гэтай рыдлёўкі, пагаджаюся з такім рашэньнем, — пажартаваў я.

Мы з братам абняліся. Я ня бачыў, але адчуў, што ў яго зьявіліся сьлёзы на вачах. Як і ў мяне.

* * *

Гэтым разам наша вандроўка па выспах на азёрах Беларусі праходзіла на Вушаччыне. Возера называлася Атолава, прынамсі так яно значылася на сучасных беларускіх мапах. Але мясцовыя жыхары, у чым мы хутка пераканаліся, сваё возера называлі інакш, прычым у розных прыбярэжных вёсках, і людзі рознага веку казалі па-рознаму. Так, жыхары сярэдняга веку і нават маладзейшыя ў назьве возера ставілі націск на першым

складзе — Оталава. А людзі сталага веку, якія ўпарта трымаліся мясцовага вушацкага дыялекту беларускай мовы, вымаўлялі Воталава. На маю думку, апошняя назва аўтэнтычная. Хутчэй за ўсё, балцкая, як і большасьць гідронімаў на поўначы Беларусі. Але й гэтая назва таксама з часам была славянізаваная.

У возера незвычайная канфігурацыя — яно выцягнутае з усходу на захад. Даўжыня складае амаль дзесяць кілямэтраў. Мае яно сем выспаў. На адной зь іх, амаль на самым заходнім канцы Воталава, нашая каманда разьбіла лягер.

Традыцыйна ў першы дзень экспэдыцыі мы з Тацянай праплылі вакол выспы на лодцы. Увогуле я люблю гэты наш рытуал. Адна справа — пажыць на астраўку некалькі дзён, а другая — агледзець яго з усіх бакоў з лодкі. Звычайна выспа выглядае як адмысловая фартэцыя. Нездарма многія зь іх на беларускіх азёрах называюцца Замкавымі. Як, напрыклад, на Дрысьвяцкім возеры.

З усіх бакоў берагі выспы моцна зарослыя чаротам, мячэўнікам, аерам і трысьнягом. Сама яна ўкрытая вершалінамі вербаў, алешын, бяроз і дубоў. Самае цікавае, што старых дубоў няшмат, можна нават сказаць, што ўвогуле няма такіх, каб было 100—200 гадоў. Тут у асноўным растуць маладыя дубкі. І нават дзіўна, як гэта яны так адначасова пачалі расьці па ўсім цэнтры астраўка.

Дарэчы, выспу мясцовыя жыхары так і называюць — Дубовая.

— Ведаеш, — кажа Тацяна, — калі б прадавалі ў Беларусі зямлю, я б купіла сабе выспу на якім-небудзь глухім маляўнічым беларускім возеры. Пабудавала б на ім невялічкую хатку і жыла б тут тыднямі.

— Я таксама не адмовіўся б ад такой інвэстыцыі, — з усьмешкай дадаў я. — Можна было б нават абвесьціць аўтаномію. Прыдумаць сьцяг і герб. Напісаць гісторыю выспы. Закласьці на яе тэрыторыі помнікі й ляндшафтныя заказьнікі.

І мы разам расьсьмяяліся.

Кіраваць лодкай я навучыўся ў дзяцінстве, і мне гэта прыносіла вялікае задавальненьне. Мякка сьвяціла жнівеньскае сонца, адбіваючыся тысячамі бліскавак у невялічкіх азёрных хвалях. Недзе над галовамі лёталі кірлі, як жывыя дроны, якія павінны сачыць за парадкам на даручанай тэрыторыі. Час ад часу паміж плаваючага на паверхні вады авальнага лісьця гарлачыкаў плёскалася дробная рыба.

Праплыўшы вакол выспы, мы вырашылі наведаць суседні бераг — там з-за дрэваў сіратліва выглядваў дах вясковай хаты.

Высадзіўшыся на бераг, адразу натрапілі на крынічку. Відавочна, зь яе мясцовыя жыхары бралі ваду для сваіх патрэбаў. Крынічка бруіла ў цэнтры бэтоннага кальца, якое назапашвала ваду і дазваляла набіраць яе ў

ёмістасьці. Спатолілі смагу. Вада прыемна асьвяжала сваёй крыштальнай прахалодай.

Па сьцежцы, якая вяла да крынічкі, мы пачалі падымацца на пагорак, дзе стаяла хата. Паабапал сьцежкі расьлі старыя яблыні, якія даўно зьдзічэлі і пладаносілі невялічкімі востра-кіслымі яблычкамі. Узьняўшыся на ўзвышак, пабачылі гаспадарчыя пабудовы і саму хату. Вакол панавала занядбаньне й лёгкі вэрхал. Але ў той самы час нешта нагадвала, што людзі не пакінулі назусім гэтую сядзібу.

— Ці ёсьць тут хто жывы? — бадзёра гукнула Тацяна.

— Ёсьць, ёсьць. — Пачулі мы зь сенцаў голас, і на двор выйшла жанчына. Не сказаць, што гэта была слабенькая бабуля, якіх нярэдка сустрэнеш у зьнікаючых вёсках, хутчэй жанчына пэнсійнага ўзросту. Яна пасьміхалася і, здавалася, была рада нязваным гасьцям.

— Мы сёньня пасяліліся на вашай высьпе, вось вырашылі наведаць суседзяў, — патлумачыў я жанчыне наш раптоўны візыт.

— А я ўжо заўважыла, што нейкі там рух стаіць. — Жанчына з-пад далоні, бо мы сталі ў цені вялікай яблыні, пачала нас разглядаць.

— Штосьці ваша вёска зусім занепадае. Такое ў вас тут прыгожае месца. Сапраўдны рай.

— Ня тое слова, занепадае. Памірае, ужо памерла. Раней тут была і школа, і дзіцячы

садок, сядзіба калгасу. Сама ў той школе вучылася. Сёньня толькі ў двух хатах жывуць дачнікі, такія як мы. — І ўсьмешка ў жанчынкі выйшла нейкай вінаватай.

— І як вы тут адна? — зьдзіўлена запытаўся я.

— Ды не адна. З мужам і ўнучкай. Яны ў краму паехалі. Дакланей, паплылі на лодцы на той бераг. З гэтага берагу да нас нават і дарогі ўжо няма. Сьцежка толькі. Матацыкал хіба што праедзе, і тое без вазка, — патлумачыла жанчына і засьмяялася.

Адчуваўся дурманлівы, моцны, салодкі яблычны водар. Уся зямля пад яблынямі была шчыльна ўсыпаная вялікімі чырванабокімі яблыкамі. Жанчына пабачыла, што я разглядаю гэтую безгаспадарлівасьць, і пачала апраўдвацца:

— Сёлета ўрадзіла як ніколі. Няма куды дзяваць. Каб была дарога, то, можа, пазьбіралі б у мяхі і завезьлі ў горад. А так лодкай шмат не перавязеш. То й прападаюць. А вы набярыце, колькі вам трэба. Будзе вам на высьпе ладны ласунак. Салодкія вельмі.

І жанчына сама пачала зьбіраць яблыкі ў поліэтыленавую вялікую торбу, якую ўзяла з драўлянай лаўкі. Мы сталі ёй дапамагаць. Сабралі паўнюткую, але яблыкаў пад яблынямі практычна не паменшала.

Падзячылі жанчыне і разьвіталіся. Нас на высьпе ўжо, відаць, зачакаліся.

— Уяўляеш, гэта апошнія людзі, якія тут жывуць, — па дарозе назад уголас разважала

Тацяна. — Яшчэ якіх дзесяць гадоў, і ўся гэтая вёска зарасьце лесам і кустоўем. Наўрад ці ўнучка будзе сюды езьдзіць самастойна ці нават са сваёй будучай сям'ёй. А тут людзі жылі сотнямі гадоў. Тут была іх бацькоўская спадчына. Недзе тут іх магілы.

— Што ты гэтым хочаш сказаць? Што няма пераемнасьці?

— Хачу сказаць, што калі б была ў нас прыватная ўласнасьць на зямлю, дык усё было б інакш. І мы купілі б гэтую выспу. — І Тацяна гучна засьмяялася. Затым устала ў лодцы на поўны рост і закрычала ў бок выспы:

— Гэй, на высьпе! Усім пад'ём! Праз дваццаць хвілін пачынаем сьвята.

— І што гэта за сьвята? — спытаў я Тацяну, калі яна зноў села і лодка перастала небясьпечна гайдацца.

— Сьвята першага дня беларускага жыцьця на высьпе, — патлумачыла Тацяна.

* * *

Некалькі дзён я быў пад уражаньнем ад братавай гісторыі пра спадчынную рыдлёўку. Выдатна яе памятаў. Ня раз пад яе садзіў бульбу на бацькоўскім лецішчы. Але ніколі не прыходзіла ў галаву распытаць, адкуль і што за яна? Ну рыдлёўка і рыдлёўка. А часам за самай банальнай рэччу стаіць выдатная гісторыя, годная для ўвекавечаньня ў карцінах, вершах, раманах і кінафільмах.

У мяне ёсьць свая гісторыя.

Недзе ў другой палове 60-х, калі ў нашай сям'і зьявіўся першы аўтамабіль — «Масквіч-408», узьнікла патрэба ў гаражы. Бацька атрымаў дазвол на будаўніцтва, і праз які месяц наш «Масквіч» адзначаў улазіны. Гэта той самы гараж, што месьціцца па суседзтве з тэрыторыяй бальніцы. Вельмі зручна і, галоўнае, блізка ад дому. І з таго часу пад дахам гаража назьбіралася процьма ўсялякага скарбу: болцікі, гаечкі, нейкія жалезныя дэталькі, інструмэнт і шмат чаго іншага. Гаражныя шафкі і шафы, шуфляды і скрыні вельмі хутка ўкамплектаваліся. Бацька ў вольны час і па выходных прападаў у сваім гаражы — яго любімай жыцьцёвай прасторы. Нават і не ўяўляю, што можна было рабіць там штодзень.

У дзяцінстве мне было вельмі цікава корпацца ў ягоных скрынях і вышукваць дзіўныя жалязячкі. Некаторыя зь іх перакачоўвалі ў мой пісьмовы стол, бо падаваліся настолькі незвычайнымі, што разьвітацца зь імі ніяк не хацелася.

Адзіная праблема гаража, якая засмучала і бацьку, і ўсю сям'ю, — яго знаходжаньне ў лагчыне. Увесну гаражная яма заўсёды была поўная вады. А гэта азначала, што машына ў вільгаці, ад якой і павінен ратаваць гараж, хутчэй каразіравала. Таму ў 90-х, ужо для нашага «жыгулёнка» найноўшай мадэлі, бацька пабудаваў новы гараж, і машыну ставіў

у ім. Але ўсё адно любіў стары, і менавіта там бавіў свой вольны час, і менавіта там засталіся ўсе асноўныя скарбы. Чытач можа падумаць, што бацька меў там вясёлую кампанію, у якой можна было і выпіць, і пачуць што карыснае, і самому распавесьці. Але ў тым і справа, што ня меў ніякай кампаніі, а алькаголь ужываў толькі падчас сямейных сьвятаў.

Калі бацька стаў зусім ужо слабы, ён усе адно цягаўся ў гараж. І цэлымі днямі штосьці там майстраваў, вынаходзіў і рамантаваў.

За год да бацькавай сьмерці я наведаў наш першы, мне такі знаёмы і памятны гараж. Мяне паслала маці паклікаць бацьку на абед, бо сям'я сабралася вялікім складам, і мусілі мы той абед наладзіць сьвяточным.

Сёньня выразна згадваю, як там было ўсё ўладкавана. Адразу ля дзьвярэй стаяў мэталёвы варштат, на якім зьлева замацаваныя вялікія ціскі. Над варштатам — паліцы са скарбамі. Далей невялікая тумбачка. Яшчэ далей — вялікая старая шафа, якая некалі стаяла ў кагосьці ў кватэры, магчыма, нават і нашая. Яна таксама была поўная скарбаў.

Я па звычцы пачаў корпацца ў скрынях. Найбольш мяне зацікавіў складны мэталічны мэтар. Памятаю яго зь дзяцінства. Але чамусьці гэтым разам зьвярнуў на яго ўвагу.

— Адкуль ён у цябе? — спытаў я ў бацькі.

— О, гэта мой марфлёцкі трафэй. Прывёз на памяць пра службу, — патлумачыў бацька

і, відаць, штосьці згадаў зь мінулага, бо неяк задумаўся і сьцішыўся.

Бацька служыў на Балтыйскім флёце машыністам турбіны. То бок даглядаў і рамантаваў рухавікі караблёў. З гэтага і пачалася ўся яго далейшая працоўная кар'ера. Пасьля службы ён стаў працаваць машыністам турбіны на цеплавой станцыі.

— Можна я яго вазьму сабе? — спытаў я.

— Бяры, няхай паслужыць і табе, — зь нейкай непрыхаванай радасьцю ён пагадзіўся разьвітацца са сваім любімым інструмэнтам.

І цяпер гэты мэталічны складны мэтар заўсёды ў мяне з сабой, куды б я ні ехаў. Ён ляжыць у маім заплечніку.

Праз некалькі месяцаў пазваніла мама і сказала, што бацька сабраў усе свае жалязякі з гаража і здаў у мэталалом.

Калі бацька паміраў, ён трызьніў і ўсё парываўся выправіцца ў гараж, таму што трэба, як ён казаў, тэрмінова адрамантаваць машыну, бо маме ня будзе як езьдзіць на лецішча, або, калі не атрымаецца адрамантаваць, трэба купіць новы аўтамабіль.

Праз паўгода як памёр бацька, работнікі Гаргазу пры аглядзе газавай гаспадаркі дома паведамілі маме, што сышоў тэрмін эксплюатацыі яе пліты — трэба замяніць на новую. Мама купіла новую, самую сучасную. Калі работнікі Гаргазу яе падключалі, мама ім і расказала, што шукае, каму патрэбны гараж.

І патлумачыла дзе. Хлопцы паабяцалі распытаць знаёмых.

Праз нейкі час мне патэлефанавала мама і сказала, што прадала стары гараж, каб я прыяжджаў за сваёй доляй спадчыны.

## ЧАСТКА ЧАЦЬВЕРТАЯ

«Прыяжджай, завяду цябе на тое месца, куды ты хацеў патрапіць». Гэтага званка брата мне было дастаткова, каб у той самы вечар выправіцца ў дарогу.

Ехаў начным цягніком да Менску, а там маршруткай.

Па дарозе ўзьнікалі ў галаве розныя вэрсіі адносна таямнічага запрашэньня. Самая простая — брат раздабыў ключ ад зарэчанскага клюбу, і цяпер мы можам у яго трапіць.

Самая фантастычная — брат сам усё абсьледаваў і нешта істотнае знайшоў. Але ў гэта ня вельмі верылася. Зрэшты, якіх толькі цудаў не бывае на сьвеце.

Трэба прызнаць, што вэрсія, якая супала б з рэальнасьцю, у маёй галаве дакладна не ўзьнікала.

Насамрэч клюб перадалі мясцовай пратэстанцкай абшчыне, якая пачала рамонт будынка, каб пераабсталяваць яго ў малельню.

Калі мы прыехалі, у клюбе поўнай хадою йшлі падрыхтоўчыя працы. На ягонай сьцяне зьявілася дошка «Пашпарт аб'екта», з чаго вынікала, што тут адбываецца мадэрнізацыя

будынка па вуліцы Зялёная, 5 і што будоўля вядзецца гаспадарчым чынам.

Вакол былога клюбу некалькі мужчынаў зьбівалі з дошак рыштаваньні. Частку шыфэру з даху ўжо пасьпелі зьняць. Уваходныя дзьверы былі адчыненыя.

Віктар падышоў да мужчынаў, якія завіхаліся каля рыштаваньняў, і спытаў дазволу ўвайсьці ў клюб. Будаўнікі ня мелі нічога супраць.

У сярэдзіне нас сустрэлі бязладзьдзе, запусьценьне і будаўнічы вэрхал. У адным з кутоў галоўнай залі рабочыя трымалі свой рыштунак, а таксама дошкі й нейкія мэталічныя трубы. Усё было пакрыта вялікім слоем пылу, як быццам бы тут ён зьбіраўся стагодзьдзямі. Калі мы выйшлі ў цэнтар залі, то за намі засталіся сьляды, як на сьнезе. Пра былое прызначэньне будынка нагадвалі некалькі зламаных крэслаў, якія за савецкім часам выкарыстоўваліся ў кіназалях, рэшкі нейкіх плякатаў і афішаў на падлозе, скасабочаны партрэт даўно забытага актора з падмаляванымі вусамі, які невядома як, з апошніх сілаў, трымаўся на сьцяне.

— Культура гэты будынак пакінула ўжо даўно, — аглядаючыся па баках, прамовіў брат.

— Але актор трымаецца з астатніх высілкаў, — пажартаваў я, кіўнуўшы на выяву.

Брат падышоў да партрэта і паправіў яго.

І што ў гэтым вэрхале можна было адшукаць, і што тут магло захавацца? Мы за-

зірнулі ў некаторыя іншыя пакоі і, акрамя сьмецьця зь мінулага стагодзьдзя, а таксама засохлых экскрэмэнтаў, відавочна ўжо з нашага стагодзьдзя, нічога не пабачылі.

— Ты думаў, што тут стаіць нейкая шафа, а ў ёй тое, што схавалі шагойкаўцы? — У брата зьявілася добрая нагода зь мяне жартаваць і пацьвельвацца.

— Не, проста мусіў сюды патрапіць, — пачаў я апраўдвацца перад ім. — Бо гэтая гісторыя павінна набыць нейкі лягічны канец, адчуваю, яна зьвязаная зь лёсам нашай сям'і. Часам легенда пра скарб больш істотная за сам скарб. Скарб знайшлі, скарысталі — і ўсё. А легенда жыве стагодзьдзямі. Нават пра той скарб, які не знайшлі. Разумееш?

— Разумею. Скарб мы не знайшлі й легенду таксама. — Брат не зьбіраўся так лёгка адмовіцца ад крытыкі марнага візыту.

— Легенду ствараюць людзі. Спачатку тыя, пра каго гэтая легенда. А затым тыя, каму яна цікавая й патрэбная.

— А нам яна цікавая ці патрэбная?

— Нам яна важная, каб зразумець свой уласны лёс і каб быць удзячнымі тым людзям, якія не дазволілі нашаму сямейнаму лёсу абарвацца, каб мы з табой увогуле зьявіліся на сьвет.

— Штосьці я цябе не зусім разумею, — пацісную плячыма брат.

— Увечары патлумачу.

Брат выйшаў на вуліцу, а я пачаў яшчэ раз уважліва аглядаць пакой за пакоем.

Нічога істотнага не заўважыў. Я шукаў любое прыдатнае месца, зь якога можна было б зрабіць схованку. Але ў пакоях былі толькі голыя сьцены, дзе-нідзе з адбітай тынкоўкай. Нарэшце ўвайшоў у невялічкае памяшканьне, адкуль некалі кінамэханік пускаў фільмы. У ім было цёмна, і толькі дзьве палоскі сьвятла пранікалі ў пакойчык праз адтуліны для кінапраектараў. У гэтым цьмяным сьвятле, як штосьці халоднае, мёртвае, касьмічнае, клубіўся пыл.

Я прамацаў сьцены рукамі. Звычайныя сьцены. На гарышча ўзьнімацца не было ніякага сэнсу. З даху прыбралі шыфэр, і гарышча ўжо практычна не існавала.

* * *

Увечары на пляцыку перад уласным домам брат гатаваў свой фірмовы плоў у сваім фірмовым казане.

Мы сядзелі за сталом на вэрандзе, глядзелі на тое, як вечаровае сонца залаціла вершаліны хвояў. Лес пачынаўся практычна за плотам братавай сядзібы.

— І што ты мне зьбіраўся патлумачыць? — першым парушыў маўчаньне брат.

Мне хацелася гэта распавесьці з пэўнай прэамбулай, неяк цікава, каб брату тое запомнілася надоўга. Але без усялякага ўступу выпаліў:

— Думаю, што Шагойка моцна дапамог сям'і нашай мамы. Прыктычна выратаваў яе ад галадухі.

— У сэньсе? З чаго ты гэта ўзяў?

— А ты калі-небудзь гартаў кнігу «Памяць» Смалявіцкага раёна? Там усё падрабязна напісана пра мінулую вайну. Сьпісы тых, хто быў у партызанах, хто быў на фронце, хто загінуў на вайне, хто зь мірных жыхароў быў закатаваны фашыстамі. Прычым сьпісы складзеныя па вёсках. Дык вось, у тых сьпісах зусім няма нашага дзеда Захара. Зусім. Ні ў партызанах, ні на фронце, ні забіты на вайне, ні закатаваны фашыстамі як мірны жыхар. Яго зусім няма. І можна лёгка здагадацца, у якіх ён апынуўся сьпісах.

— У якіх?

— У сьпісах ворагаў народа. Як стараста вёскі Бабін Лес.

На некалькі хвілін усталявалася цішыня. Было нават чутна, як выкіпала апошняя вада з плову. Я перапыніў маўчаньне і пачаў тлумачыць свае здагадкі, якія не давалі мне супакою апошніх некалькі тыдняў.

— Ты, відаць, ня раз чуў ад мамы гісторыю пра тое, як пасьля вызваленьня Беларусі, калі нашая бабуля Наста засталася адна з васьмю дзецьмі, надышлі жахліва галодныя часіны, горшыя, чымсьці пад акупацыяй. Мама любіла тут абавязкова прыгадаць, што яна ўдосталь ня ела хлеба да пачатку 50-х гадоў. І тут пачынаецца самае цікавае месца гэтай

важнай для нас з табой гісторыі. Паводле мамінага расповеду, нейкія былыя партызанскія камандзіры выпісалі бабулі даведку на дзеда як на партызана-змагара, які быў закатаваны немцамі. З гэтай даведкай бабуля едзе ў Менск і атрымлівае некалькі мяхоў гуманітарнай дапамогі — харчы і адзеньне. А потым гэтая выратавальная даведка дзіўным чынам некуды зьнікае. І неўзабаве дзед перастае быць партызанам-змагаром, а яго дзеці губляюць усе належныя ім прывілеі. Як ты лічыш, хто мог выпісаць гэтую даведку нашай бабулі?

— Ты думаеш, сам Шагойка?! — уражана ўсклікнуў Віктар.

— Ня думаю, а ўпэўнены. Больш ніхто гэтага ня мог зрабіць. Сапраўдныя партызанскія камандзіры былі ўжо або далёка на франтах, або самі знаходзіліся пад пільным разборам палётаў, які ладзілі ім нкусаўцы. Пісаць даведку былому старасьце, хоць ён насамрэч працаваў на партызанаў, ніхто б не насьмеліўся. За камандзірамі было шмат іншых грахоў. Навошта рызыкаваць. Толькі Шагойка. Хто-хто, а ён добра ведаў, якія заданьні насамрэч выконваў дзед, прычым няцяжка здагадацца, што гэта былі супэрсакрэтныя заданьні, пра якія ведалі лічаныя людзі ў брыгадзе. Напрыклад, менавіта наш дзед прывозіў са Смалявічаў партызанам чыстыя бланкі і накладныя. І Шагойка павінен быў гэта ведаць.

— Сапраўды, досыць лягічна атрымліваецца. Асабліва калі ўлічыць, што ў кнізе «Памяць» дзеда няма.

— Во-во. І пра тую даведку ведалі толькі сам Шагойка і бабуля. Зьнікла тая паперка на дзіва хутка і затым нідзе не фігуравала. Бо калі б яна выпісвалася ў афіцыйных структурах, дык яе можна было б аднавіць. Але бабуля не рабіла ніякіх спробаў па аднаўленьні, хоць тая даведка ой як яшчэ спатрэбілася б.

Хвоі за плотам ужо гарэлі ў апошніх промнях знікаючага за далягглядам сонца. Кіляметраў за дзесяць адсюль пачыналася партызанская зона брыгады «Сьмерць фашызму». Недзе па гэтых лясах блукалі нашыя дзяды. У пошуках сваёй долі. І нашай таксама. Кніга «Памяць» — гэта толькі кніга. Нашая памяць — гэта нашая памяць. Гэта тое, што мы павінны аднавіць і захаваць.

Неяк так мне тады падумалася.

— Напэўна, твой плоў ужо гатовы, — сказаў я брату, які таксама сядзеў у задуменьні.

— Напэўна.

Брат устаў і пасунуўся ў бок свайго фірмовага казана. Зрабіўшы колькі крокаў, спыніўся, павярнуўся да мяне і сказаў:

— Шкада, што Шагойка ўжо не жыве.

— Ну так, — пагадзіўся я. — Інакш бы мы яго пачаставалі пловам.

І мы з братам разам засьмяяліся, здымаючы напружаньне, радуючыся і за бабулю

Насту, і за дзядоў, і за Шагойку, і за саміх сябе.

* * *

Апошнія дзесяць гадоў заўсёды, калі позна ўвечары некуды ішоў па сьцішаных вуліцах любога гораду, мне здавалася, што вяртаюся з вучобы, іду дамоў з электрычкі — шэсьць гадоў (бо быў яшчэ год падрыхтоўчага аддзяленьня) езьдзіў з Жодыня ў Менск, у наргас, і назад. Сьпяшаўся, бо хацелася хутчэй дахаты. І думка, што ёсьць тое месца, якое называецца родным домам, надае табе нейкага душэўнага спакою і раўнавагі.

Гэта як падмурак усяго твайго існаваньня.

І калі гэтым разам, вяртаючыся з Жодыня, я ішоў па вечаровых полацкіх вуліцах, зноў вярэдліва адчуў гэтае пачуцьцё — іду дахаты з электрычкі. І пякучая думка, што ўжо няма ні мамы, ні таты, проста ўвяла мяне ў ступар. Дык куды я тады іду? Куды? Бо ў гэтым вялікім сьвеце, дзе тысячы і тысячы гарадоў, ня маю ўжо дарогі да роднага дому...

* * *

Гэта была, бадай, самая легендарная, дзёрзкая, нахабная апэрацыя, якая адбылася дзякуючы падробленым Шагойкам дакумэнтам. Вось як яе апісаў у сваёй кнізе «Лясная гвардыя» партызанскі камісар Іван Дзядзюля.

*«Пачаўся падбор складу групы для правядзеньня апэрацыі.*

*Лепшага камандзіра групы, чымсьці Чуянаў, мы не шукалі. Яўген Міхайлавіч да вайны добра авалодаў нямецкай мовай у школе, а затым у мэдыцынскім інстытуце. З пачаткам вайны ён удасканаліў свае веды.*

*Вельмі старанна Чуянаў працаваў і ў лягеры над шліфоўкай вымаўленьня. Ён сам вёў допыты палонных. Гадзінамі размаўляў на нямецкай мове з немцамі, якія перайшлі на наш бок і сталі добрымі партызанамі.*

*Наколькі добра ён авалодаў нямецкай мовай, нам стала вядома з пытаньня аднаго фашысцкага афіцэра:*

*— Як даўно вы, немец, перайшлі да партызанаў?*

*Наогул мы спадзяваліся, што мова Чуянава не падвядзе.*

*Яму ў дапамогу мы вылучылі начальнікаў штабоў атрадаў імя Чкалава і Будзённага — лейтэнантаў Васілія Саляніка і Цімафея Ерафеева. Яны былі сьмелымі, вынаходлівымі і, што асабліва важна, даволі добра разумелі нямецкую гутарковую мову. Гаварылі яны ня чыста і зь вялікім акцэнтам. Таму было вырашана, каб яны прадстаўляліся, калі да гэтага іх прымусяць фашысты, палякамі.*

*Чуянаў без ваганьняў папрасіў уключыць у групу немцаў Курта і Эрнста, якія перайшлі на наш бок і ўжо добра зарэкамэндавалі сябе ў баях. А таксама бэльгійцаў Віла і яго брата,*

*а таксама француза Жака. Мы спадзяваліся, што яны могуць аказаць вялікую дапамогу.*

*Больш партызан, якія ведалі нямецкую мову, не было. Таму для поўнага ўкамплектаваньня групы пайшлі па прынцыпу — браць адважных і кемлівых. Узялі такіх сьмельчакоў, як Вышнікаў, камсамолец Вігура, і яшчэ двух байцоў. Гэтыя таварышы выступалі ў ролі паліцаяў.*

*Падрыхтоўка да апэрацыі, каб пазьбегнуць даносу якога-небудзь правакатара, адбывалася ў строгай таямніцы. На працягу некалькіх дзён уся група наводдаль ад лягеру пад кіраўніцтвам Чуянава праводзіла адмысловую трэніроўку. Усе трэніраваліся ў падачы і выкананьні розных камандаў на нямецкай мове.*

*Падрыхтоўка ішла да канца, але дзяўчыны ўсё ніяк не прысылалі ўзор накладной і чыстага блянка. У нас быў партызан-мастак, які настолькі налаўчыўся на падробцы дакумэнтаў, што гітлераўскія патрульныя ні разу не заўважылі фальшу ў дакумэнтах, якія ён вырабляў. Але на гэты раз ён быў бясьсільны — у яго не было ўзору для зьняцьця копіі. І раптам наш сувязны прынёс ад дзяўчат абодва дакумэнты. Блянк накладной быў тэрмінова і бездакорна запоўнены і аформлены падробнай пячаткай. Начальнік выведкі для праверкі даў накладную палонным немцам. Тыя ўважліва праверылі, нават*

*паглядзелі на сьвятло, і заявілі, што накладная сапраўдная».*

Гэтая частка тэксту патрабуе камэнтару. Па-першае, аўтар кнігі не назваў прозьвішча партызанскага мастака, бо той, калі яна пісалася, адбываў тэрмін зьняволеньня. Аднак пазначыў ягоны важны ўдзел у гэтай фэерычнай апэрацыі, якая, відавочна, ня мае аналягаў ва ўсёй беларускай вайсковай гісторыі. Па-другое, аўтар не напісаў, хто даставіў са Смалявічаў узор накладной і чысты блянк. Цалкам магчыма, што гэта быў дзед Захар, стараста вёскі Бабін Лес, які меў адпаведны аўсвайс і часта выконваў падобныя даручэньні. Запрагаў свайго коніка ў сані ці калёсы і ехаў у райцэнтар нібыта па справах акупацыйнага рэжыму, а назад вяртаўся з падарункамі для партызанаў з брыгады «Сьмерць фашызму».

Але працягнем аповед пра апэрацыю.

*«І ўсё ж мы не маглі суняць хваляваньня. Але тут нам на дзіва пашанцавала.*

*Баявая група зь першага атраду зьнішчыла на шашы цэлую каманду немцаў на чале з капітанам. У ягонай сумцы была знойдзена накладная, па якой ён ехаў атрымаць у Смалявічах тыднёвы сухі паёк на 35 чалавек.*

*— Ня трэба галаву ламаць, падрабляць і рызыкаваць — бяры гатовую і атрымай па ёй, — пасьміхаючыся, сказаў Дзёмін, перадаючы накладную Чуянаву. Але тут ён выцягнуў з трафэйнай сумкі пачак папер і ўжо*

*сур'ёзна дадаў: — Не, лішні раз рызыкаваць ня трэба.*

*У запасьлівага гаўптмана аказаліся і чыстыя бланкі накладных зь пячаткамі.*

*— Вось іх нам якраз і не хапала! — заявіў Чуянаў. Празь дзьве гадзіны наш спэцыяліст зрабіў накладныя на паёк для 350 чалавек.*

*Нарэшце падрыхтоўка была завершана, і перад штабной зямлянкай вышыхталіся ўсе таварышы, якія накіроўваліся ў Смалявічы. Раней, калі групы выходзілі на баявыя заданьні, іх, па даручэньню штаба брыгады, звычайна праводзіў хто-небудзь адзін з нас — камбрыг, я, начальнік штаба або Чуянаў. Цяпер тут знаходзіліся ўсе чацьвёра; толькі начальнік выведкі быў на гэты раз у ліку тых, каго праводзілі.*

*Яўген, ведаючы, што мы ня зь лёгкім сэрцам адпускаем іх у варожы стан, адкуль можна было і не вярнуцца, паспрабаваў крыху супакоіць нас. Стоячы ў форме гітлераўскага капітана, ён зухавата расхінуў левы борт шыняля так, што на грудзях сталі заўважнымі тры фашыстоўскія жалезныя крыжы. Важна адставіў нагу, і, зірнуўшы на нас пагардлівым позіркам, ён хутка, гучна і зласьліва загаварыў па-нямецку, пырскаючы сьлінай. Чуянаў бэсьціў нас па-нямецку на чым сьвет стаяў, а ў куточках яго воч бегалі задзірлівыя сьмяшынкі: «Што, бачылі? А вы яшчэ сумняваецеся».*

*Побач зь ім стаяў майстар спорту, плывец, менчук Леанід Мамат, лейтэнанты*

*Ерафееў і Салянік, партызаны Вышнікаў, Вігура і, нарэшце, нашы нямецкія баявыя таварышы — Курт і Эрнст, бэльгійцы Вілі з братам і француз Жак. Партызаны, якія ня ведалі нямецкай мовы, былі ў форме паліцаяў, а астатнія — у нямецкай.*

*Усе расьселіся па санях і неўзабаве зьніклі ў маладым сасоньніку.*

*Выехаўшы зь лягеру, група перад сьвітаньнем мінавала апошнюю вёску Шпакоўшчыну, якая кантралявалася партызанамі. Падняўшы карычневыя каўняры эсэсаўскай формы, хлопцы моўчкі сядзелі ў санях, якія цягнулі нямецкія ламавікі. Чуянаў больш за ўсё баяўся натыкнуцца не на немцаў, а на якую-небудзь партызанскую засаду з суседніх брыгад і атрадаў. Таму ён чуйна ўслухоўваўся і напружана ўглядаўся ў бялёсую імглу марознай ночы.*

*...На сьвітанку дарога празь пералескі скончылася, і санны абоз зь пяці параконных упрэжак выбраўся на шашу Менск — Масква. На пярэдняй ехаў «гаўптман» Чуянаў, Вігура і француз Жак. На астатніх парамі разьмясьціліся савецкі партызан і замежнік. Неўзабаве скрозь пушыстую заслону завеі сталі паказвацца першыя сустрэчныя грузавікі, Яўген Міхайлавіч паправіў фуражку з высокім верхам і падабраўся. Ён пэрыядычна аглядаўся і пасьміхаўся, падбадзёрваючы сваіх байцоў. Яны ў адказ таксама пасьміхаліся і паказвалі, што ўсё ў парадку.*

*Перад Смалявічамі ім сустрэўся другі санны абоз, які выехаў на шашу з прасёлкавай дарогі. Чуянаў адразу ўступіў з гітлераўцамі ў размову.*

*— Здорава ён чэша па-іхнему! — шэптам захапляліся партызаны.*

*На ўскраіне гораду Чуянаў заўважыў паліцэйскі пост і даў знак Вігуру, каб той прытрымаў коней і прапусьціў наперад абоз спадарожных немцаў. Паставы паліцыянт праверыў у іх дакумэнты, прапусьціў абоз і падышоў да саней «гаўптмана». Той, не дачакаўшыся пытаньня, з пагардай падаў падробнае пасьведчаньне. Наступіў самы крытычны момант: пазнае паліцыянт, што дакумэнты фальшывыя, ці не? Паглядзеўшы на іх раз, другі і вяртаючы «гаўптману», ён раптам спытаў:*

*— Пароле, гер афіцэр?*

*— Вас вільст ду?* — пытаньнем на пытаньне грэбліва адказаў Чуянаў, а ў самога сэрца так і ёкнула: «Здаецца, уліп. І як я не здагадаўся спытаць пароль у спадарожнікаў? Прызнаўшы за свайго, яны паведамілі б не вагаючыся. А цяпер, чорт яго ведае, ці не сапсуе ўсю справу гэты ёлупень».*

*— Пароле? — паўтарыў сваё пытаньне паліцыянт.*

*— Цум тойфель пароле. Форвертс — даст іст майне пароле! Хаст ду фериштандэн, іды-*

---

* Чаго ты хочаш?

*ёт*[*], *— зло крыкнуў абураны «гаўптман» і замахнуўся на паліцая.*

*Усе партызаны так і падаліся наперад. Затрымаўшы дыханьне, яны моцна сьціскалі аўтаматы. Іх вочы трывожна пераскоквалі з паліцая на Чуянава і на магістраль, па якой праносіліся варожыя аўтакалёны.*

*Але паліцай здрыгануўся, выцягнуўся ў струнку і спалохана залыпаў вачыма. «Акрамя слова «ідыёт», ён нічога не зразумеў, але пагрозьлівы выгляд нямецкага капітана нічога добрага яму не абяцаў. Каб хутчэй ад яго пазбавіцца, ён пасьпяшаўся адкрыць шлягбаўм.*

*— Едзьце, гер афіцэр, — пралапатаў ён нясьмела.*

*Як толькі шлягбаўм быў адкрыты і першыя сані крануліся, напружаньне спала, і ўсе супакоіліся.*

*Неўзабаве група наблізілася да харчовага складу, які месьціўся ў вялікіх драўляных бараках пасярод вялікага двара, абнесенага агароджай з калючага дроту. Унутры двара і на вуліцы стаяла шмат саней, фургонаў і аўтамашын. Паўсюль было шмат нямецкіх салдат, якія чакалі сваёй чаргі.*

*— Нам, відаць, доўга прыйдзецца тут сядзець, як на парахавой бочцы, — са скрухай сказаў Салянік.*

---

[*] Да д'ябла з тваім паролем. Уперад — вось мой пароль! Зразумеў, ідыёт?

*— Не за тым ехалі, — упэўнена заявіў Чуянаў.*

*— Праз паўгадзіны усе стане парадак, калі быстра будзем таскаць на санка, — супакоіў іх Жак.*

*Яўген Міхайлавіч адразу зьвярнуў увагу, што ў двары непадалёку ад складу ў сьнезе буксуе нямецкі легкавы аўтамабіль «Мэрсэдэс». Як толькі шафёр уключаў матор, колы, адкідваючы камякі сьнегу, усё глыбей зарываліся. Неўзабаве машына канчаткова засела. За ўсім гэтым моўчкі і абыякава назіралі гітлераўскія салдаты, якія чакалі атрыманьня харчоў у чарзе ля складу. Ніхто зь іх нават не падумаў дапамагчы выцягнуць машыну, хаця бачылі, што побач зь ёй стаіць сталага веку палкоўнік.*

*Хутка ацаніўшы сытуацыю, Чуянаў гучна, каб усе навокал пачулі, крыкнуў у бок сваёй «каманды»:*

*— Хельфен херен оберст. Абер шнель!**

*Курт і Вілі імкліва пераклалі яго словы нашым партызанам, і тыя імгненна кінуліся выконваць каманду. Яны дружна налеглі і выцягнулі машыну на дарогу.*

*Палкоўнік, захоплены ўвагаю капітана да яго асобы, дысцыплінаванасьцю салдат і хуткасьцю, зь якой была выцягнутая машына, яўна расчуліўся. Ён падзякаваў «гаўптману» і сунуў яму ў рукі пачак дарагіх цыгарэт.*

---

* Дапамажыце пану палкоўніку. Хутчэй!

*Яўген узяў іх з годнасьцю, затым раскланяўся, павярнуўся і пайшоў да складу. Ён ужо бачыў, што тут няма нікога старэйшага за яго па званьні, і гэтым трэба было тэрмінова скарыстацца. Не сьпяшаючыся ён падышоў да немалога гурта нямецкіх лейтэнантаў, унтэр-афіцэраў і салдат і гучна крыкнуў:*

*— Што тут за зборышча, а ну прапусьціце!*

*Натоўп, пабачыўшы ў капітане рашучага чалавека, сьціх і расступіўся. Тады Чуянаў у суправаджэньні Жака і Вілі накіраваўся да доўгага стала, які перакрываў праход у сярэдзіну складу. За сталом у кажуху сядзеў начальнік складу — італьянскі афіцэр, які бачыў эпізод з аўтамашынай палкоўніка. Не даючы апамятацца італьянцу і добра разумеючы, што яму ўжо знаёма яго энэргічнасьць і рашучасьць, Чуянаў акінуў яго пагардлівым позіркам, не спяшаючыся выцягнуў з навюткай палявой сумкі накладную, працягнуў яе і сказаў па-нямецку:*

*— Я выконваю тэрміновы баявы загад, і мне няма калі губляць час у чэргах. Прашу хутка адпусьціць мне прадукты па-за ўсякай чаргі.*

*Шэф складу няўпэўнена разьвёў рукамі. Па яго неспакойных вочках адчувалася, што ён раздумвае: ці варта яму зьвязвацца з гэтым нахабным гаўптманам, прапанаваўшы яму не парушаць чаргі, ці не?*

*Успрыняўшы замяшальніцтва італьянца як зручны момант для выказваньня сваіх пачуцьцяў, у чарзе пачалі абурацца:*

*— Гэта абуральна! Гэта няправільна!*

*— Мы калеем тут з паўночы, а яны хочуць атрымаць па-за чаргой. Дзе справядлівасьць?*

*— Сьвінства! — раптам асьмеліўся сказаць адзін з гітлераўскіх малодшых афіцэраў.*

*Чуянаў чуў усё гэта. Ён нясьпешна павярнуўся да таго, хто сказаў слова «сьвінства», дэманстратыўна паклаў руку на кабуру з пісталетам і скрозь зубы абразьліва працадзіў:*

*— Яшчэ адно такое слова, і ты, тылавы пацук, больш не пабачыш божага сьвету! Ну, расступіся, жыва! — яшчэ больш ваяўніча ён крыкнуў тым, хто быў наперадзе.*

*Жак і Вілі, дэманструючы сваю гатовасьць, схапіліся за аўтаматы. Бліжэйшыя гітлераўцы спужана падаліся назад.*

*Не жадаючы абвастраць адносіны з эсэсаўскім капітанам, начальнік складу тут жа ўзяў накладную, хутка прачытаў яе і схапіўся за галаву.*

*— На 350 чалавек і на тры тыдні?! Але ёсьць загад адпускаць усім без выключэньня ня больш чым на тыдзень...*

*«Што рабіць? Як сябе паводзіць пры такім павароце справы? Эх, чаму я не даведаўся пра нормы водпуску прадуктаў у Марыі* (гэтая дзяўчына працавала на складзе і была агентам партызан. — А.А.)*? І ці тут яна зараз? — пранеслася ў галаве Чуянава. — Выхад*

*адзін — трэба рызыкаваць! Пайду з галоўнага козыру!» — вырашыў ён.*

*— Мяне гэта не цікавіць. Я дзейнічаю па асабістаму загаду імпэрскага камісара Беларусі гаўляйтара пана фон Готбэрга. Зразумела?*

*Гэта падзейнічала надзвычай эфэктыўна. Італьянец ускочыў як уджалены і замітусіўся.*

*— Я... зараз, хвіліначку... Высьветлю, колькі ў мяне шпіка і масла, — і схаваўся ў складзе за штабэлем скрыняў.*

*«Як бы не нашкодзіў гэты макароньнік. І куды ён пабег? Ці не патэлефануе ён камэнданту?» — занепакоіўся Яўген.*

*У гэты час са складу паказалася ўстрывожаная Марыя. Зрабіўшы выгляд, што папраўляе на галаве хустку, яна шматзначна паказала вачыма ў той бок, куды схаваўся італьянец. Чуянаў зразумеў, што яму нельга губляць зь віду начальніка складу. Жак без прамаруджаньня рушыў за ім, узяўшы аўтамат напагатове. Вілі застаўся ля ўваходу, гатовы да рашучых дзеяньняў. Астатнія партызаны, бачучы нейкія ўскладненьні, таксама былі напагатове.*

*— Дарэмна ён пайшоў у склад, схопяць яго там, і мы ня ўбачым, — захваляваўся Вігура.*

*— Ладна, ня каркай, і так моташна, — прашаптаў Ерафееў.*

*— Цішэй, сябры, хопіць спрачацца. Увага! — пpыструніў іх Салянік.*

*Затаіўшы дыханьне, байцы ня зводзілі вачэй зь дзьвярэй складу. Кожная сэкунда здавалася ім вечнасьцю. Надышоў самы крытычны момант, і можна было чакаць чаго заўгодна. Многім ужо падалося, што вось-вось са складу выскачыць які-небудзь гітлеравец, падасьць каманду, і ўсе немцы, якія знаходзяцца ў двары, накінуцца на іх, адкрыюць агонь...*

*А чарга расла. Усё новыя гітлераўцы, якія ўзначальвалі каманды, што прыбылі за прадуктамі, займалі чаргу ззаду чуянаўцаў. Вось паўзь іх да складу прайшлі чатыры эсэсаўскія малодшыя афіцэры ў новых шынялях. Гэта былі бязвусыя навічкі, якія нядаўна скончылі вучылішча. Яны мелі зухаваты і задзірлівы выгляд.*

*— Абстаноўка напаляецца, і гэта мне ўжо не падабаецца, — ціха прамовіў Салянік Ерафееву, прыкметна хвалюючыся.*

*Унутры большага складзкога памяшканьня разыграўся вельмі востры эпізод, які вырашыў лёс апэрацыі. Калі Чуянаў увайшоў, шэф складу ўжо стаяў у глыбіні будынка ля пісьмовага стала сьпінаю да выхаду. Прыкрываючы далоньню слухаўку тэлефона і нахіліўшыся, ён напаўголас штосьці таропка гаварыў.*

*Яўген хутка азірнуўся назад, на Жака, і ў ягонай галаве прамільгнула думка: «А як гэты, ці вытрымае? Ці не збаіцца, ці ня выдасьць? Бо яшчэ нядаўна ён у струнку вы-*

*цягваўся перад гітлераўцамі... Можа, зноў перакінецца да іх у гэтую небясьпечную хвіліну, а за наш правал яму ўсё прабачаць, ды яшчэ добра аддзячаць?..» Але рашучы выгляд Жака супакоіў яго. Марудзіць было небясьпечна, і ён кінуўся наперад — да стала.*

*Калі Чуянаў наблізіўся, то пачуў, як італьянец ціха гаварыў у слухаўку:*

*— Дакумэнты, гер обэр-лейтэнант, у парадку... Але ж, гер камэндант, ён просіць на тры тыдні, разумееце, на тры... Вось менавіта, такога яшчэ не было... Што загадаеце рабіць?*

*«Гаўптман» рыўком выхапіў тэлефонную слухаўку, а Жак — упэўнена адціснуў разгубленага начальніка складу ад стала.*

*— У апарата гаўптман Ганс Мілер! Хайль! — сьмела крыкнуў Яўген у слухаўку. Назваўшы найбольш пашыранае ў Нямеччыне прозьвішча, якое выбраў пры запаўненьні дакумэнтаў.*

*У слухаўцы хрыпла прагучаў адказ на фашыстоўскае вітаньне.*

*Чуянаў зразумеў, што загадчык складам гаварыў з камэндантам Смалявічаў, прозьвішча якога ён добра ведаў.*

*— Гер обэр-лейтэнант Шранке, пераканаўча прашу загадаць гэтаму няўклюднаму складзкому інтэнданту хутчэй выдаць мне патрабаваны запас прадуктаў. Пан камэндант, мой спэцыяльны батальён, аб якім, як мне загадзя паведамілі пры адпраўцы зь*

*Менску, вас ужо праінфармавалі, выконвае тэрміновы загад аб вельмі важнай апэрацыі супраць партызанаў... Так, так, без усялякай чаргі і на тры тыдні! — адмыслова гучна выгукнуў Чуянаў, а сам падумаў: «Хлусіш, і ты ня станеш правяраць! Пораху ня хопіць зьвяртацца ў канцылярыю гітлераўскага камісара ў Беларусі».*

*У адказ баязьлівы камэндант заявіў, што прадукты для батальёна выдадуць без затрымкі, але тут жа выліў цэбар вады:*

*— І ўсё ж такі, гаўптман, вазьміце прадуктаў толькі на тыдзень. Думаю, што такі зухаваты афіцэр, як вы, цалкам пасьпее даць рады з бандытамі за тыднёвы тэрмін. А калі затрымаецеся, то ў любы час дашлеце людзей за новым пайком, — упэўнена закончыў нямецкі камэндант на другім канцы тэлефоннага дроту.*

*Зразумеўшы, што пераконваць камэнданта бессэнсоўна, а італьянец яго словаў ня чуў, Чуянаў пайшоў на крайнюю авантуру.*

*— Гут, гер обэр-лейтэнант! — закончыў ён размову з робленай радасьцю. Узьняўшы слухаўку і тыцнуўшы ў яе пальцам, «гаўптман» сказаў шэфу:*

*— Пан Шранке не такі бюракрат, як вы. Адразу бачна, што разумее службу і не спрабуе браць пад сумневы загады вышэйшага начальства. Добра, што мне няма калі, інакш вам дорага абышоўся б недавер, які вы праявілі да загаду гаўляйтара фон Готбэрга.*

*Але, ладна... Дык вось, гер обэр-лейтэнант загадаў вам выдаць на тры тыдні і тэрмінова, халера ясная! Але, жыва! — Яўген Міхайлавіч неахайна кінуў слухаўку на рычаг апарата і крыху фамільярна ляпнуў італьянца па плячы. Бачучы, што шэф складу канчаткова зломлены і ва ўсё паверыў, ён тэатральна расхінуў борт шыняля і палез у кішэню за цыгарэтамі. Вышэйшыя гітлераўскія ўзнагароды на яго грудзях канчаткова зьбянтэжылі італьянца.*

*Жак, успрыняўшы ўсю сцэну па-свойму, паддаў было на радасьцях вялікімі пальцамі пад бок шэфу.*

*— Адставіць! — адразу ж крыкнуў Чуянаў. — Што дазволена заслужанаму нямецкаму афіцэру, тое салдату не дазволена. Зараз жа прасі прабачэньня!*

*Расчулены італьянец, удзячна паглядзеўшы на «гаўптмана», кінуўся афармляць выдачу прадуктаў.*

*І толькі цяпер начальнік брыгаднай выведкі свабодна ўздыхнуў. Ведаючы, як моцна хвалююцца ўсе яго сябры, ён выйшаў на ганак складу з такім разьлікам, каб яго бачылі ўсе. Закурыў цыгарэту і ўпэўнена крыкнуў сваім:*

*— Ну чаго стаіцё, разявіўшы раты? Падавайце сюды хутчэй коней!*

*Партызанскія сані, яшчэ раней пакінуўшыя агульную чаргу, імгненна пад'ехалі. Салдаты зь іншых камандаў зноў загулі, а некаторыя абурана пачалі штосьці гаварыць*

*афіцэрам-навічкам. Тыя ўсхадзіліся і сталі адпускаць на адрас «гаўптмана» не зусім ласкавыя выразы.*

*— Заткніце раты, дзеткі. Калі пабываеце там, — Чуянаў шматзначным рухам рукі паказаў на ўсход, — тады яшчэ, магчыма, стану з вамі размаўляць. Зразумела?! — І як бы паміж справы, адхінуўшы шынель, прайшоўся рукой па трох жалезных крыжах. Затым рэзка павярнуўся да салдат, якія стаялі побач, і строга загадаў: — А ну вы, тылавыя пацукі, хутчэй на пагрузку! Няма чаго мерзнуць, да і чарга хутчэй пасунецца. Наперад, — паказаў ён на групу чалавек зь пятнаццаці.*

*Немцы безь пярэчаньняў падпарадкаваліся.*

*На складзе, напэўна, ніколі й ніхто яшчэ так хутка не грузіўся. Сьметанковае масла ў бачурках, мука, цукар і соль у мяхах, вялізныя бутэлькі са сьпіртам, скрыні з кансэрвамі, макаронай, цыгарэтамі, печывам і ўсімі іншымі прадуктамі пачалі імгненна ўкладвацца на пяць вялікіх саней».*

Апэрацыя скончылася ўдала, і, што зусім неверагодна, партызаны яшчэ раз, на пачатку вясны, нахабна атаварыліся на нямецкім складзе па падробленых Шагойкам накладных.

* * *

Гэтую шпакоўню мой брат зрабіў уласнымі рукамі. Ужо ня памятаю, ці то ў школе на ўроках працы змайстраваў, ці ўжо

пазьней, пасьля школы, з агульнагуманных памкненьняў. У садзе проста павінна быць шпакоўня. А ў нас доўгі час не было. Магла зьявіцца значна раней, калі б маці дала каманду бацьку. Але такой каманды не было. А бацька не любіў праяўляць ініцыятыву там, дзе вяла рэй маці. Падазраю, што маці лічыла шпакоў шкоднікамі, якія пляжаць вішні. Таму навошта яшчэ сваіх трымаць, калі й так ратунку ад іх няма.

Але забараніць сыну ўсталяваць шпакоўню ў сваім садзе яна не магла. Гэта было не пэдагагічна. І ўвогуле яна ня ўмешвалася ў тое, што рабілі сыны.

Так у нас зьявілася свая шпакоўня.

Брат прымацаваў яе да нашага самага высокага дрэва — да грушы.

Гэтаму па-дзіцячы радаваўся бацька. І што сын сам зрабіў шпакоўню. І што сам прыняў рашэньне, дзе яе прымацаваць. І што сам прымацоўваў. Бацька яму толькі крыху дапамагаў.

Ужо ня памятаю, ці адбілася гэта на ўраджайнасьці нашых вішняў. Штосьці не згадваецца, каб гучалі скаргі і крыўды. Але тое, што нашыя шпакі надзвычай прыгожа сьпявалі ўвесну, дык гэта факт неаспрэчны. Мне здавалася, што я ніколі раней ня чуў лепшага шпачынага сьпеву. Такога аптымістычнага, натхнёнага, разнастайнага.

А якія прыгожыя былі тыя нашыя шпакі! Як шляхетна, нейкімі дзіўнымі сымэтрычнымі карункамі адлівалі іх пёры.

І я час ад часу іх згадваю. Яны недзе паранейшаму ўва мне жывуць, сустракаюць сонца сваімі сьпевамі, а ў цяжкія часіны падтрымліваюць наіўным птушыным аптымізмам. І так лёгка іх паклікаць і пачуць. Так лёгка яны адгукаюцца на кліч. Нават калі люты мароз або зусім цёмна, хоць выкалі вока.

І саду ўжо няма, і грушы ўжо няма, і шпакоўні ўжо няма. А тыя даўнія шпакі ёсьць, яны заўжды са мной.

* * *

У год сьмерці бацькі мы калегіяльна вырашылі сустрэць Новы год у братавым доме. Сабрацца ўсім разам, як было раней, дый нельга было пакідаць на гэтае сямейнае сьвята маму адну.

А як было раней? Недзе ў пачатку 80-х зьявілася ў Жодзіне мода на электрычныя самаробныя вяндлярні, каб вэндзіць мяса, перадусім курэй. Проста ты быў кепскім гаспадаром, калі ня меў у гаражы сваёй вяндлярні. Зразумела, бацька ня мог ня йсьці ў нагу з грамадзкімі павевамі і модамі. І хутка змайстраваў сабе вяндлярню, ці не найлепшую ў навакольлі.

І з тае прычыны нарадзіўся новы сямейны рытуал, які бацькі выконвалі перад кожным больш-менш сур'ёзным сьвятам, калі трэба было накрываць стол. Маці загадзя купля-

ла ў краме курэй, а ў той час іх прадавалі пераважна цэлымі тушкамі, апрацоўвала іх living рознымі спэцыямі, і тут, трэба разумець, быў адзін з найважнейшых сакрэтаў выдатнага смаку бацькоўскай вэнджаніны, — сакрэт спэцыяў. Частку іх кампанэнтаў мама сама нарыхтоўвала летам — зьбірала травы і сушыла. У выніку атрымліваўся такі духмяны смак, якога больш нідзе й ніколі не сустракаў.

І вось набліжаецца Новы год, куры купленыя, апрацаваныя спэцыямі і чакаюць на бацькаў удзел у рытуале. Ці ня з раніцы 31 сьнежня мама накіроўвае бацьку ў гараж. Мы з братам яшчэ валяемся ў ложку, але чуем, што наварыўні нешта грыміць і ідуць актыўныя дыскусіі адносна навагодніх прыгатаваньняў.

Іншым сакрэтам якасьці вэнджаньня валодаў наш тата. Тут было важна, якім гатункам дрэва ствараецца дым. Бацька меў свае фірмовыя кампазыцыі: яблыня, сьліва, вішня, ядловец...

Ужо зьмяркаецца, і пачынаецца пераднавагодні вечар, як у кватэру ўвальваецца «Дзед Мароз» з поўнай медніцай духмянага вэнджанага прадукту. Уся кватэра імгненна набрыньвае гэтым пахам — пахам сьвята і шчасьця. Мы з братам ня можам доўга чакаць і хутчэй адломваем сабе па крыльцу.

Ну і далей — сэрвіроўка стала, званкі сябрам і знаёмым, першае застольле напярэдадні Новага году. Затым сама сустрэча Новага

году, візыты сваякоў, якія жывуць побач, і нашыя наведваньні застольляў сваякоў, а хадзілі мы пераважна да цёткі Ліды — роднай сястры мамы. Ну а затым мы з братам зьнікалі на навагоднюю дыскатэку ў Дом культуры ДРЭС.

Захапленьне вэнджанымі курамі як прыйшло, гэтак жа нечакана і скончылася. Пачаліся размовы, што вэнджанае мяса шкоднае для страўніка. Затым сканаў сацыялізм, і ў крамах зьявілася шмат розных прадуктаў. Потым людзі развучыліся рабіць сьвяты і ствараць рытуалы. Карацей, вэндзіць курэй, прынамсі ў гаражах, у XXI стагодзьдзі практычна перасталі. Але мне здаецца, як усё ў сьвеце паўтараецца і мае цыклічны характар, так і вэнджаныя куры могуць на ДРЭС яшчэ вярнуцца.

У той апошні для мамы Новы год мы зноў сабраліся разам, але ўжо бяз таты. Бяз нашага «Дзеда Мароза», які, магчыма, назіраў за намі, але ніяк ня мог перадаць свае вітаньні і віншаваньні. А тым больш ня мог звэндзіць сваіх фірмовых курэй. З тае прычыны адчуваўся сум. Брат як мог спрабаваў узяць на сябе ролю таты. Ён мітусьліва гаспадарнічаў, распальваў камін, жартаваў, рабіў грыль і шашлыкі, тэатралізавана ўсім уручаў падарункі. Усё гэта было добра, сардэчна і міла, але ўжо зь іншага фільму, зь іншага часу. Вярнуцца ў ранейшы час не атрымлівалася.

Я бачыў, што мама кепска пачувалася. Сядзела ў фатэлі-гушкалцы і проста за ўсім

назірала. Проста назірала. Што было абсалютна не характэрна для яе, якая раней не магла адну хвілінку пасядзець на адным месцы, якая мусіла ўсё рыхтаваць, за ўсім сачыць, за ўсіх усё памятаць, усім раздаваць каманды.

Я спытаў у мамы, можа, яна ўжо моцна стамілася і яе варта завезьці дадому? Яна адказала, што будзе тут да канца і зараз нікуды не паедзе. Але я бачыў, як цяжка ёй далося заставацца да заканчэньня сьвята. Проста трэба ведаць маю маму. Яна ня будзе рабіць нікому клопату, нават родным сынам, ня будзе скардзіцца на слабасьць і стому — будзе трымацца да канца.

Яна, вядома, ня верыла, што гэта яе апошні Новы год. Лічыла, што проста расклеілася пасьля сьмерці мужа. Проста трэба неяк вярнуць згубленую раўнавагу, адысьці ад горычы страты, набрацца сілаў.

Ці гэта характар дзеда Захара, які не ўступаў у калгас і трымаўся да канца? Ці гэта характар бабулі Насты, якая засталася з васьмю дзецьмі адна, і ніштo яе не зламіла, нідзе яна ня схібіла і годна трымалася ў жыцьці?

* * *

На наступнае лета наша кампанія выбралася на Богінскае возера на Браслаўшчыне. Тут у нас усё атрымалася надзвычай цывілізавана, бо на беразе возера меў дыхтоўны

летні дом адзін наш знаёмы, і была ў яго ўся «азёрная інфраструктура», уключна з маторнай лодкай. Мы з камфортам пераправіліся на лепшую тутэйшую выспу, а на возеры іх агулам восем, і атабарыліся там лягерам.

Усё было як звычайна. Мы з Тацянай зноў праплылі вакол выспы на лодцы, як і ва ўсе мінулыя гады падчас такіх вандровак. Але гэтым разам на вёслах быў малодшы сын Даніла. Якраз у гэтым годзе ён пачаў імкліва расьці і ператварацца з хлопчыка ў падлетка. Я часам спрабаваў яго падмяніць, але ён упарта не пагаджаўся.

Браслаўшчына выглядала менш занядбанай, чым Вушаччына. Прынамсі, тут мы не назіралі закінутых вёсак, якія зарасталі хмызамі, або зусім ужо струхлелых хат. Браслаўшчына лічылася курортнай зонай Беларусі, і любы будан, асабліва калі ён быў каля возера, меў тут добры кошт і свайго гаспадара.

Адмысловую прыгажосьць надаваў гэтай мясцовасьці ўзгорысты ляндшафт. Вандруючы вакол выспы, мы пэрыядычна высаджваліся на бераг і ўздымаліся на ўзвышшы, каб аглядаць усё навакольле. Прыгажосьць неверагодная!

Я думаў пра тое, колькі з гэтай мясьцінай зьвязана розных цікавых гісторыяў, чалавечых лёсаў, легендаў і паданьняў. І большасьць зь іх зьнікла ў нявараці часу. Вось жылі тут людзі, на беразе возера, са сваімі

праблемамі, зьдзяйсьненьнямі, трагедыямі, каханьнямі, марамі і мроямі. Жыцьцё скончылася, і ўсё зьнікла. Як быццам хтосьці бязьлітасна ўсё сьцёр з адмысловай дыскеты, на якую трэба запісаць новую інфармацыю.

## ЧАСТКА ПЯТАЯ

— А табе ніколі не прыходзіла ў галаву, што твайго бацьку можна залічыць у шагойкаўцы? — Таццяна завіхалася на варыўні за гатаваньнем вячэры. Была субота, а суботняя вячэра традыцыйна ў нас рабілася адмысловай. Не сказаць каб урачыстай і багатай, але асаблівай. Гэтым разам Таццяна запякала ў духоўцы вялікага, паўтаракілаграмовага ляшча, якога нам прывезьлі з возера Нешчарда. Таццяна села за стол насупраць і паглядзела мне ў вочы.

— З чаго ты ўзяла? Фантазіруеш? — Я піў чорную гарбату і разважаў пра чарговы артыкул. Пытаньне Таццяны мне падалося правакацыйным запрашэньнем да размовы.

— Ды ўсё лягічна. Твой бацька працаваў за Сіманчыка, пакуль той быў на «дзеле» разам з Шагойкам. Было такое?

— Было. І што з таго?

— Калі б гэта было ў 37-м, дык за саўдзел і непаведамленьне пра злачынства паехаў бы ў ГУЛАГ усьлед за Шагойкам.

Уражаны такой думкай, я сумеўся. Як мне самому раней не прыйшла гэтая простая

лягічная выснова? Нават калі б бацька насамрэч ня ведаў, куды зьнікае Сіманчык у працоўны дзень, то судзьдзяў і пракурораў гэта не цікавіла б. Ён мусіў паведаміць, хаця б начальніку цэху, што ягоны настаўнік пэрыядычна зьнікае з працоўнага месца. Але ж ён пра ўсё ведаў. Ведаў нават, дзе шагойкаўцы хаваюць свой скарб.

— Вось і разгадка, чаму твой бацька не расказваў пра гэтую гісторыю раней. Стаяў тады, у маладосьці, ля краю. Для яго гэта была страшная, небясьпечная гісторыя. — Таццяна бразнула відэльцамі, якія ляжалі ў яе пад рукой. Я ледзь заўважна здрыгануўся.

— То бок саўдзельнік, — дадаў я.

— Ну канешне.

— Але калі ён мне гэта расказваў, то я адчуў, што бацька нібыта ганарыцца гэтым выпадковым саўдзелам. Вось толькі ня ведаю, ці да канца ён усьведамляў ролю Шагойкі. Ну і, напэўна, ня ведаў пра ратавальную даведку для сям'і сваёй будучай абраньніцы.

— Як усё ў гэтым сьвеце пераплецена і ўзаемазалежна! — выгукнула Таццяна.

Мы некалькі хвілін памаўчалі.

Я закінуў усе тэрміновыя справы, забыў пра артыкул, над якім працаваў, сеў за кампутар і напісаў электронны ліст Андрэю Цісецкаму:

«Добры дзень! Працягваю вас непакоіць адносна Івана Шагойкі. У мяне ўзьнікае ўсё больш і больш пытаньняў. Ну, напрыклад, як

яго, пасьля судзімасьці й лягеру, у 1986 годзе ўзнагародзілі ордэнам Айчыннай вайны? Па лёгіцы гэта проста немагчыма. Былому зэку — і ордэн!»

Андрэй досыць хутка адгукнуўся:

«Добры дзень. Наколькі я мяркую, па старых партызанскіх сьпісах, што раней былі ўзгодненыя з былымі партызанскімі камандзірамі, якія яму сымпатызавалі. Яго ня выкрасьлілі з тых сьпісаў. А партызанскіх заслугаў у Шагойкі было вельмі шмат».

«І яшчэ адно загадкавае пытаньне. Паводле тваіх зьвестак, Шагойка па вайне падрабляў савецкія чырвонцы — папяровыя банкноты. У які спосаб ён мог іх вырабляць? Ну не змайстраваў жа недзе друкарскі варштат?!»

«Думаю, мастацкім спосабам. Проста маляваў іх на паперы ад рукі. Быў такім майстрам, што яму няцяжка было той чырвонец намаляваць».

«Хіба цяпер нам могуць дапамагчы толькі архівы. Сьведкаў тых падзеяў ужо няма ў жывых. Ці ведаеце, дзе можа быць справа Шагойкі, датычная пасьляваеннага судовага разгляду яго геройстваў?»

«Справу гэтую я пакуль не знайшоў. Справы апэратыўнай распрацоўкі да 1956 года захоўваюцца ў архіве КДБ, а ў іх нічога ня выпрасіш».

«Дык колькі часу Шагойка робінгуднічаў на Смалявіччыне?»

«Я ведаю, што з 1944 па 1952 год ён быў нелегалам. Хаваўся па былых знаёмых пар-

тызанах. І якраз на гэты час прыпадае ягонае асноўнае, як вы пішаце, робінгуднічаньне. Ведаю, што Шагойка падрабляў даведкі, якія ратавалі людзей ад карных савецкіх органаў. Але толькі тым, пра каго меў дакладныя зьвесткі, што яны спрыялі партызанам, аднак па якіхсьці прычынах не атрымалі ці не маглі атрымаць такія паперы».

«А памёр калі? І дзе яго магіла?»

«Ведаю, што паміраў у Бараўлянах недзе пасьля 1986 году».

* * *

Іван Шагойка ехаў на радзіму зь цяжкім сэрцам і горкімі думкамі. Да Масквы ён даляцеў самалётам з Алма-Аты. Далей перасеў на цягнік Масква — Менск. Білет купіў да Жодыня. Тут цягнік спыняўся на адну хвілінку, і правадніца загадзя яго папрасіла падрыхтавацца да выхаду. А што яму падрыхтоўвацца, у яго з сабой толькі адна невялікая гаспадарчая сумка. Ён адмыслова ехаў улегцы, ніякіх цёплых рэчаў ня браў, бо ведаў, што яны яму больш не спатрэбяцца.

Яго чакалі ў Менску, але ён вырашыў спачатку заехаць у Жодынь. Бо ці будзе ўжо магчымасьць наведаць родныя мясьціны?

Ён выдатна разумеў, што тут усё павінна было істотна зьмяніцца за гэты час. Жыцьцё на месцы не стаіць. Апошні раз ён бачыў родныя мясьціны з вакна закратаванага

вагона, калі яго везьлі на ўсход. Не сказаць каб наварочваліся сьлёзы ад назіраньня, як зьнікаюць ззаду і першыя карпусы «Дармашу», і новы чыгуначны вакзал з шыльдаю «Жодзіна», які толькі што пабудавалі, і прыватныя дамкі вуліцы Партызанскай. Ён быў перакананы, што хутка вернецца назад. Бо няма ў сьвеце мацнейшага сяброўства за сяброўства былых партызанаў. І няма ў Беларусі нікога мацнейшага за партызанаў. Уся ўлада тут належыць ім. Праўда, над імі ёсьць Масква. Але існуюць тысячы спосабаў, як тую вышэйшую ўладу абмінуць, абысьці, не зачапіўшы расстаўленыя засьцерагальныя званочкі.

Цягнік імчаў яго праз ноч. Спалося ў вагоне кепска. Было душна. Жнівень стаяў гарачы, нават задужа гарачы. У Жодынь цягнік прыбываў нараніцу.

Іван хвілін дзесяць стаяў у тамбуры вагона і чакаў сваёй станцыі. Пасьпеў выкурыць дзьве цыгарэты.

Шагойка не памыліўся: партызаны сапраўды яму дапамаглі. Неўзабаве ён выйшаў па амністыі. Але яго папярэдзілі, так бы мовіць, па-сяброўску, каб не вяртаўся ў Беларусь. Ці то партызанам ён ужо быў непатрэбны — любыя даведкі яны ўжо маглі выпісаць сабе самі, прычым не фальшывыя. Ці то палічылі, што гэты Шагойка ўсё роўна возьмецца за сваё, і тады зь ім будуць толькі замарочныя праблемы. Так было ці інакш, пра гэта ўжо

немагчыма даведацца. Але Шагойка іх паслухаўся — застаўся ў Казахстане і асталяваўся ў Чымкенце. Стварыў там новую сям'ю. Усё было добра, пакуль не схадзіў да ўрача і ня здаў аналізы. Яны паказалі на самую страшную хваробу, якая хціва пашырала сваё жніво з году ў год. І тады ён зноў зьвярнуўся да партызанаў. Тыя сказалі: прыяжджай, ёсьць у Менску адмысловы шпіталь, месца ў палаце цябе ўжо чакае.

І Шагойка паехаў. Ён асабліва ня верыў у выздараўленьне, але адна важная думка прымусіла яго выправіцца ў дарогу: нават кепскі зыход справы меў адзін станоўчы вынік — яго б пахавалі на радзіме. Казахстан быў для яго выгнаньнем, прычым несправядлівым. Ён гэта балюча адчуваў. І вось зьявілася магчымасьць вярнуцца на радзіму. Назаўсёды.

Ён з хваляваньнем ступіў на жодыньскі пэрон. І адразу пабачыў шматлікія прамысловыя карпусы. Здагадаўся, што гэта Беларускі аўтамабільны завод. Чытаў пра яго ў друку, бачыў па тэлевізіі сюжэты. БелАЗы паўсюль працавалі ў багатым на радовішчы карысных выкапняў Казахстане. Невялікі «Дармаш»ператварыўся ў аўтамабільны гігант.

Амаль адразу, як Іван сышоў на пэрон, цягнік скрануўся і пачаў імкліва набіраць хуткасьць. Разам зь ім выйшлі яшчэ некалькі чалавек. «Відаць, камандзіраваныя», — падумаў Шагойка. Яны адразу засьпяшаліся да вакзалу, нібыта і тут была Масква і шалёная

тамтэйшая жыцьцёвая хуткасьць, да якой скора прывыкаеш.

Шагойка нікуды не сьпяшаўся. У прынцыпе, у яго не было ў Жодыні ніякіх сур'ёзных спраў. Зь кімсьці бачыцца — гэта значыць тлумачыць, чаму прыехаў. І апавядаць пра ўласнае жыцьцё. А няма чаго тлумачыць, бо справы дрэнь.

Ён зноў закурыў і нетаропка пасунуўся ў бок вакзалу. Калі праходзіў паўз вакно дыспэтчарскай, чалавек, які сядзеў за пультам, падаўся яму знаёмым. Так, так... ён ведаў яго па партызанах. Здаецца, той чалавек быў у атрадзе Чкалава. Шагойка спыніўся. Можа, зайсьці, павітацца, пагаварыць, распытаць. Але не. Няма пра што гаварыць, і ня трэба нічога распытваць. І Шагойка хуткім крокам пачаў аддаляцца ад вакзалу.

Вуліца прыватнай забудовы, на якую ён узьбіўся, пралягала пэрпэндыкулярна вуліцы Партызанскай, што ішла раўналежна чыгунцы. Усё тут ужо было інакш. Людзі адбудаваліся, зьявіліся нават цагляныя дамы. Жыцьцё працягвалася. І калі хтосьці сыходзіў, яго зьменьвалі іншыя. Вось Шагойка сышоў, а жыцьцё тут не спынілася. І ніхто асабліва не бедаваў безь яго. Хаця, хто яго ведае. Можа, і бедавалі, бо бязь бедаў не бывае жыцьця. Толькі ці мог цяпер тыя беды неяк паменшыць ён, Робін Гуд Смалявіччыны? Некалі так яго назвала дзяўчына зь мястэчка Пліса, якая была ў Саюзе беларускай

моладзі і за немцамі працавала ў мясцовай школцы. Шагойка ведаў, што яна зьяўлялася сувязной партызанаў, шмат дапамагла, але нкусаўцам гэта не патлумачыш. Ім патрэбная паперка. І Шагойка выпісаў дзяўчыне даведку, што яна была сувязной брыгады «Сьмерць фашызму», па-геройску выконвала адказныя заданьні. Ад дзяўчыны адчапіліся, пакінулі ў спакоі. Відавочна, і пазьней ён мог рабіць падобныя добрыя справы. Але прыхаваўся ў Казахстане. Гэтая нечаканая думка яшчэ больш засмуціла Шагойку. І ён прысьпешыў крок.

Але куды ён ідзе? Пытаньне выцяла яго як маланка. Ён спыніўся і пачаў азірацца. Гэтае месца яму аб чымсьці нагадвала. Дакладней, яму былі знаёмыя вялікія ліпы, якія кучна расьлі тут. Ну канешне, ён іх пазнаў. Тут некалі стаяла жодыньская драўляная царква. Але замест яе пабачыў стандартны для Савецкага Саюза піўны павільён. Такія зьявіліся таксама і ў яго Чымкенце ў 60-х. З ранейшых пабудоў захавалася толькі хата былога бацюшкі і каплічка. Шагойка пакрочыў у бок хаты, бо заўважыў нейкую шыльду на ёй. Што гэта можа быць — у былым доме бацюшкі побач зь піўным павільёнам? Шагойку не на жарт гэта заінтрыгавала. Ён нават на хвіліну забыўся на свае сумныя думкі. Зь левага боку ад дзьвярэй хаты, якія былі пафарбаваныя ў сіні колер, ён прачытаў на шкляной шыльдзе: «Гарадзкая дзіця-

чая бібліятэка». Ну, не самы горшы варыянт, пагадзіўся Шагойка і нават пасьміхнуўся ад гэтае думкі.

Але царквы было шкада. Менавіта ў ёй Шагойку хрысьцілі. Бацька расказваў, што хацеў везьці малога Янку хрысьціць у Барысаў, але маці заўпарцілася і загадала везьці ў Жодынь. Бо ў Барысаве бацька мог загуляць, як ужо было ня раз. Меў там сябрукоў і ведаў месцы, дзе можна добра адзначыць хрэсьбіны. Дый жодыньскі бацюшка быў больш строгі. Таму паехалі ў Жодынь. Уся гэтая антырэлігійная бальшавіцкая чума пачалася пазьней. А ў пачатку 20-х мала што яшчэ зьмянілася ад ранейшага ўкладу жыцьця. І без царквы было аніяк. Вось і Шагойка, калі сядаў у Маскве ў цягнік, падумаў, што абавязкова зойдзе ў Жодыні ў царкву і пастравіць сьвечкі па бацьках. Але дзе там. Царквы ўжо няма. І ці будзе калі? Можа, у Менску яшчэ атрымаецца тое зрабіць.

Скрыжаваньне дарог, якое было насупраць царкавішча, прымусіла Шагойку задумацца: куды далей ісьці. Калі павярнуць налева, то ён мог прыйсьці да клюбу саўгасу «Зарэчча». Калі пайсьці направа, то прыйшоў бы на гарадзкія могілкі. Калі пакіраваць прама, то апынуўся б на вадасховішчы, якое тут утварылі яшчэ ў ягонную бытнасьць, запрудзіўшы раку Плісу. Вырашыў схадзіць спачатку на вадасховішча.

За ўвесь час, пакуль шпацыраваў па Жодыні, ён сустрэў толькі чалавек дзесяць-

дванаццаць. Былі гэта дзеці, маладыя людзі й некалькі пэнсіянэраў. Ён углядаўся ў іх твары, але нікога не пазнаваў.

Далей дарога была асфальтаваная. Шагойка ведаў, што калі пайсьці па ёй за вадасховішча, то выйдзеш на пасёлак ДРЭС. Але там яму абсалютна няма чаго рабіць. Пасёлак пачалі будаваць для работнікаў электрастанцыі ў 47-м, адначасна з будаўніцтвам самой станцыі. Гэта быў для яго навабуд, не зь яго жыцьця. А вось у наваствораным вадасховішчы ён яшчэ пасьпеў скупнуцца. І хацеў тое паўтарыць.

Ці не ад самога скрыжаваньня Шагойка пачуў рокат вады, якая вылівалася з разгалінаванай канструкцыі трубаў, што займала ладную тэрыторыю вадасховішча. Ён выйшаў на мост, які зьяўляўся адначасова і плацінай. Спыніўся і пачаў назіраць, як вада з шалёным імпэтам вырываецца з-пад шлюзу. «Вось так і жыцьцё ляціць невядома куды», — падумаў Шагойка.

За мастом ён зьвярнуў направа і трымаўся паўзь бераг вадасховішча. Неўзабаве выйшаў на ўзгорак, зь якога адкрываўся выдатны від на ўсё навакольле. Унізе пабачыў адкрыты басэйн, якога ня памятаў. Не, за ягоным часам басэйна не было.

На вадасховішчы ў гэты раньні час былі толькі рыбакі. Некалькі падлеткаў сядзелі з вудамі на трубах. Зьлева, дзе паверхню вады шчыльна ўкрывалі зялёныя лісты гарлачы-

каў, двое лавілі з лодак. На супрацьлеглым баку вадасховішча яшчэ некалькі чалавек вудзілі зь берагу.

Нават падумалася, што й сам ён не адмовіўся б пасядзець тут з вудай. Каб бяз розных думак, без праблем і ўспамінаў — проста лавіць рыбу.

Шагойка прысеў на лаўку, слупкі якой былі ўкапаныя ў зямлю амаль над самым схілам, і зноў закурыў. Ён не баяўся сьмерці. Але хацеў вызначыць для сябе, што мусіць зрабіць на разьвітаньне. Ён не хацеў ніякіх удзячнасьцяў, жалобных аркестраў і салютаў. Не хацеў партызанскіх памінальных сталоў. Але мусіць быць нейкі адыходак? Гэтае амаль філязофскае пытаньне не давала яму спакою.

«Хопіць пустых развагаў, калі навокал такая прыгажосьць», — сказаў сабе Шагойка, устаў і пачаў спускацца з узгорку ўніз да басэйна. Выйшаў на драўляны борцік насупраць фантанаў, зьняў чаравікі і нагавіцы, пінжак і, сеўшы на край, апусьціў ногі ў ваду. Яна ледзь-ледзь даставала да шчыкалатак, але і гэта асьвяжала ўсё цела і прыемна казытала ступні. Вада была нязвыкла цёплай для адкрытага вадаёму, нават для гарачага жніўня.

Штосьці хацелася сказаць, зрабіць, можа, прасьпяваць. Шагойка дастаў з унутранай кішэні пінжака шарыкавую асадку і каліграфічным почыркам напісаў на драўляным борціку: «Тут быў Іван Шагойка». І яму стала

лягчэй. Як быццам ён зрабіў штосьці важнае. Як быццам пра яго жыцьцё выдалі кнігу ці зьнялі фільм. І цяпер пра Івана Шагойку будуць памятаць доўга. А пакуль людзі памятаюць — чалавек прысутнічае на гэтым сьвеце.

Захацелася купацца. Ён устаў, зьняў кашулю і майку, пэдантычна склаў свае рэчы — на пінжак, які ператварыў у прастакутнік, уклаў нагавіцы, а зьверху ўсё астатняе. Толькі чаравікі і сумку паставіў побач. І, нягледзячы на свой паважны ўзрост, па-майстэрску, як прафэсійныя плыўцы, скокнуў у ваду ўніз галавой. Вынырнуўшы мэтрах у пяці ад борціка басэйна, ён паплыў да супрацьлеглага берагу вадасховішча.

«Так, напэўна, бывае толькі ў раі», — падумаў Шагойка.

* * *

Першы Новы год пасьля сьмерці мамы мы з братам сустракалі ва ўласных сем'ях. Але на стары Новы год вырашылі зноў сабрацца разам у Жодыні. Зіма зусім не выглядала на зіму. Стаяла плюсавая тэмпэратура, сьнегу не было зусім.

Аўтавакзал у Жодыні выпраўляў і сустракаў пасажыраў на ранейшым месцы і меў ранейшы выгляд. Хаця сам горад упэўнена пакрочыў на другі бок старой шашы Менск — Масква, якая ператварылася ў вуліцу гораду. О, калісьці гэтая заўжды актыў-

ная магістраль была ў партызанаў надзвычай прывабным месцам. І менавіта па гэтай шашы вёў свой абоз Чуянаў, каб атаварыцца на нямецкім складзе.

Я нават неяк пацікавіўся, што з гэтым сьмельчаком Чуянавым сталася далей. Дзядзюля ў сваёй кнізе напісаў, што Чуянава забілі падчас прарыву партызанамі нямецкай блякады ў раёне возера Палік. Ён застаўся прыкрываць адыход сваёй групы і загінуў. Спачатку яго пахавалі на месцы бою, але затым перапахавалі ў брацкай магіле ў вёсцы Сялец. Ну што тут скажаш. Не бывае так, каб шанцавала заўжды. Можа, гэта і найлепшае выйсьце для героя. Бо па вызваленьні прыйшлося б яму вылоўліваць па лясах сваіх былых баявых таварышаў, якім не падабаліся савецкія парадкі. Магчыма, і Шагойку ён вылавіў бы значна хутчэй.

Святкаваньне старога Новага году атрымалася, можа, і ня вельмі вясёлым. Але мы былі разам, і гэта ўжо само па сабе — сьвята. Брат традыцыйна рабіў свой фірмовы плоў у фірмовым казане, частаваў баўгарскай ракіяй.

Я папрасіў яго прынесьці бацькоўскую рыдлёўку. Ён прынёс, балазе ў ягоны гараж ня трэба было далёка хадзіць, можна трапіць проста з дому. Я патрымаў яе ў руцэ, паразглядваў з усіх бакоў, як быццам гэта была цуда-рыдлёўка, якая сама капала.

— Неяк прыеду да цябе ўвесну і пасаджу што-небудзь ёю, — сказаў я брату.

— О, буду вельмі ўдзячны, пакіну табе адну градку, — з шырокай усьмешкай даў згоду Віктар.

На наступны дзень раніцай мы селі за вялікі круглы сямейны стол, каб вырашыць, што будзем рабіць з нашай галоўнай спадчынай — бацькоўскай кватэрай.

— Маё тут слова, канешне, далёка не самае галоўнае, — сказала Тацяна, — але мне шкада прадаваць кватэру. Ладна, прадалі летні дом, бо там сапраўды патрэбны вялікі догляд і штодзённая праца ўвесну, летам і ўвосень. Але кватэра гэтага не патрабуе. Давайце пачакаем з вырашэньнем гэтага пытаньня.

І ўсе неяк лёгка пагадзіліся з Тацянай. Дапілі гарбату, дружна ўсталі, апрануліся, селі ў братаў аўтамабіль і паехалі на наш родны зь Віктарам пасёлак ДРЭС.

Тут таксама жыцьцё ішло сваім парадкам. Перадусім зьнік помнік Леніну, які за маім дзяцінствам і юнацтвам стаяў на нашай адзінай плошчы. З афіцыйнага паведамленьня жодыньскіх уладаў вынікала, што Ленін прыйшоў у нягоднасьць і самастойна разбурыўся, бо быў зроблены з нетрывалага матэрыялу — бэтону. Аднак мясцовыя чуткі пераконвалі, што прыйсьці ў непрыдатнасьць яму сур'ёзна дапамаглі. Відавочна, у пагалосцы было больш праўды. Бо зь Леніным і раней здараліся розныя прыгоды — то ён страчваў нос, то руку, а аднойчы згубіў гала-

ву. Ясна, што нетрывалы матэрыял, зь якога быў зроблены помнік, тут таксама адыгрываў не апошнюю ролю.

Былі заўважныя й іншыя відавочныя пазытыўныя зрухі. Напрыклад, па ўсім пасёлку пачалі рамантаваць жылыя двухпавярховыя цагляныя дамы і рабіць новыя ходнікі. А ў будынку былога гарвыканкаму, калі мясцовая ўлада пераехала ў цэнтар гораду, стварылі гарадзкі музэй.

— О, у вас тут хутка будзе курортная зона, — пракамэнтавала пабачанае Тацяна. — Маляўнічая рака, прыгожыя лугі, непадалёк конезавод, дзе можна пакатацца вярхом... Засталося пабудаваць усю патрэбную інфраструктуру.

— Пераяжджай, тым больш ёсьць куды, — ці то жартам, ці то ўсур'ёз прамовіў брат.

— Пакуль што не зьбіраюся на пэнсію, і няма калі адпачываць, — зноў жа ці то жартам, ці то ўсур'ёз адказала Тацяна.

Бацькоўскі дом таксама крыху падмаладзілі — перафарбавалі, зрабілі вакол новую адмостку. Але гэтым не абмежаваліся зьмены. Насупраць дома зьнесьлі сараі, якія калісьці цягнуліся цагляным шэрагам мэтраў на пяцьдзясят. За маім дзяцінствам некаторыя мясцовыя жыхары тут трымалі ўсялякую жыўнасьць — ад трусоў і кур да сьвіней і коз. Падобныя сараі зьявіліся ў 50—60-х практычна ва ўсіх малых гарадах Беларусі. І сёньня нават ёсьць такія ў цэнтральных дварах Полацку.

Наш сарай быў якраз насупраць нашага пад'езду і нашых вокнаў. Калісьці бацька выкапаў у сараі падвал, які стаў асноўным месцам для захоўваньня маміных закатак і рознага іншага ўраджаю: морквы, капусты, буракоў, бульбы. Але калі бацька пабудаваў новы сухі гараж, то бульба й іншыя караняплоды пераехалі туды.

Для мяне асабіста сарай быў і гаражом, бо тут я ставіў свой турыстычны ровар. Неяк бацькі нам з братам купілі адразу два такія ровары. І лепшага месца, чым сарай пад вокнамі, для іх начной паркоўкі нельга было й прыдумаць.

Ня ведаю, ці шкада мне тых сараяў. Насамрэч многія зь іх, пасьля таго як гаспадары сыходзілі ў лепшы сьвет, мелі занядбалы выгляд, і ўвесь гэты сарайны шэраг глядзеўся ня вельмі ахайна. Праўда, і пасьля іх зносу краявід у нашым двары не палепшыўся, бо за сараямі месьціліся гаражы лякарні. Таму цяпер з нашых вокнаў можна назіраць працяглую цагляную сьцяну гаражоў. Двор, аднак, павялічыўся ў шырыню, і ў прынцыпе мур можна схаваць за дрэвамі і дэкаратыўным кустоўем.

Аднак жа наш сарай быў часткай таго мінулага жыцьця. Не сказаць каб нейкай там сямейнай каштоўнасьцю, але, так бы мовіць, часткай сямейнай інфраструктуры. А цяпер усьлед за садам зьнік у невараць і наш сарай.

Трэба на яго месцы пасадзіць дрэва, вырашыў я пазьней, калі ўжо вярнуўся ў Полацак.

Затое ў нашай кватэры нічога не зьмянілася, прынамсі з таго часу, як тут жыла мама. І толькі дзіўнае пачуцьцё, што нас ніхто не сустракае. Ніколі раней так не было, каб мы прыяжджалі з Полацку і нас не сустракала мама. Гэта немагчыма... Яна павінна вось-вось выйсьці зь іншага пакоя. Можа, адпачывала й не пачула, як мы зайшлі?

У гасьцёўні на стале бачым мамін жалобны фотаздымак. Побач сьвечка. Дзьве гэтыя рэчы па-ранейшаму нагадваюць, што мамы ўжо няма. Мы сьцішваемся. Брат запальвае сьвечку. Сядаем на канапу і ў фатэлі.

Ёсьць яшчэ тут у нас адна справа — мусім адшукаць найлепшы мамін фотаздымак для помніка. Дастаю альбомы, і ўсе разам бярэмся іх разглядаць.

У нас з братам пачаліся ўспаміны. Знайшлі мы ў альбомах фотаздымкі, на якіх мы зусім малыя, затым падлеткі, студэнты, на якіх нашыя вясельлі, нашыя малыя дзеці, якія ўжо выраслі, а некаторыя ўжо маюць свае сем'і. Нібыта адмысловы фотафільм паглядзелі пра нашае мінулае жыцьцё.

Фотаздымак мамы мы знайшлі, на ім яна вельмі прыгожая.

* * *

Заплыў да супрацьлеглага берагу вадасховішча і назад прыемна стаміў Шагойку. Цяжка дыхаючы, ён вылез на борцік басэйна. Спачатку трэба аддыхацца, каб супакоілася сэрца. Зьлева, на стромкім беразе вадасховішча, як нейкі мадэрновы замак, узвышалася электрастанцыя. «Любому жыцьцю патрэбная энэргія», — падумаў Шагойка. Чалавечаму ў першую чаргу. Шагойка выразна адчуваў, што энэргія зь яго цела выцякала, як бэнзын з прабітага бэнзабаку. На жаль, немагчыма падлучыцца да электрастанцыі, каб кампэнсаваць страты.

Шагойка ад гэтай думкі нават пасьміхнуўся.

Затым узьняўся і пацёгся ў распранальню, каб выкруціць свае майткі. Доўга тут бавіцца-абсыхаць яму не выпадала.

Нясьпешна апрануўся, узьняўся назад на ўзвышша над вадасховішчам, сеў на лаўку і закурыў.

Вось адна мара і спраўдзілася. Ён пасьпеў гэта зрабіць. І на Шагойкавым твары засьвяцілася ўсьмешка, нібыта ён зьдзейсьніў нейкую надзвычай важную справу. Напрыклад, стаў аўтарам падробкі, якая лепш за арыгінал і з тае прычыны стала арыгіналам.

Што ён мусіць рабіць далей, пакуль ня ведаў. Шагойка плянаваў прыехаць у Менск у другой палове дня. Час яшчэ быў.

Сонца рабілася больш актыўным, але тут, на ўзвышшы, добра асьвяжаў ветрык. Бліскаўкі на вадзе надавалі вадаёму сьвяточны выгляд. У Казахстане яму вельмі не хапала беларускіх рэк і азёраў. І зараз ён гэта выразна адчуў. Згадалася, як яшчэ зусім малымі хлопцамі, вясковай сябрынай, яны пешкі выбіраліся на возера Пясочнае — неверагоднай прыгажосьці сярод сасновага бору, з пяшчанымі, зручнымі для купаньня берагамі, з чысьцюткай вадой, багатае рыбай. Тое возера сотні разоў сьнілася яму і ў менскай турме, і ў этапным закратаваным вагоне, і ў лягеры, і ў Казахстане, дзе жыў звычайным жыцьцём тубыльцаў, але тое жыцьцё насамрэч было сапраўднай ссылкай.

І вось ён вярнуўся, каб застацца тут назаўжды.

Шагойка ўстаў з лаўкі і пачаў уважліва аглядаць вадасховішча, нібыта хацеў запомніць гэты краявід на доўгія-доўгія гады.

Хуткім крокам, не азіраючыся, ён вярнуўся да скрыжаваньня побач з царкавішчам.

Гэта было яму зусім не патрэбна. Зусім-зусім. Ён нават не плянаваў і ня думаў пра гэта. Але ад скрыжаваньня павярнуў направа і рушыў у бок пасёлку Зарэчча. Мінуў рачулку Жодзінку, якая тут побач упадала ў Плісу, і яшчэ раз павярнуў направа.

Нічога ён тут не пазнаваў. Зьлева, на гэтым баку дарогі, і на тым баку вырас сучасны мікрараён панэльных дзевяціпавярховікаў,

які сягаў амаль да самай чыгункі. Тая вуліца, на якую ён павярнуў, была шчыльна забудаваная прыватнымі дамамі. Па ходніку ён рушыў далей. Зноў-такі сустракаў людзей, у якіх углядаўся, але нікога не пазнаваў. Гэта былі пераважна маладзейшыя людзі, якія вырасьлі ўжо пасьля вайны.

«А як там, у маёй роднай вёсцы?» — падумаў Шагойка. Можа, і там вырасьлі такія мікрараёны? Але наўрад ці. Выглядае, што горад актыўна высмоктвае людзей з усіх навакольных малых паселішчаў. І ў гэтых панэльках якраз і жывуць учарашнія вяскоўцы. Можа, хто і зь яго вёскі.

Ён добра ўсьведамляў, што калгасы забілі беларускую вёску, сяляне масава ўцякалі ад рабскай калгаснай працы ў горад.

Яшчэ якіх пяць хвілін хады, і Шагойка апынуўся перад невялічкай плошчай, на якой месьцілася праўленьне мясцовага конезаводу «Зарэчча», а ў цэнтры, у сьціплым скверыку, стаяла стандартная стэла зь пяцікутнай зоркай на навершшы. Гэты помнік Шагойка якраз ведаў добра. Ён тут зьявіўся яшчэ пры ім. На стэле вялікімі літарамі было напісана: «Вечная памяць ахвярам фашызму». А ніжэй месьціліся дзьве шыльдачкі з прозьвішчамі пахаваных — як вайскоўцаў, так і мясцовых цывільных жыхароў.

Ля помніка моцна-моцна захацелася закурыць. Але Шагойка не насьмеліўся. Хвілін дзесяць ён пастаяў насупраць стэлы, схі-

ліўшы галаву. Некаторых з пахаваных тут людзей ён ведаў асабіста, у некаторых нават начаваў. І стала яму ніякавата, што прыйшоў на магілу бяз кветак. Тады Шагойка разьвярнуўся і рушыў назад. У адным з двароў пабачыў жанчыну, наблізіўся да весьніц, павітаўся і гучна спытаў:

— А ці маглі б вы мне нарваць букет кветак? — І працягнуў гаспадыні дзесяцірублёвую купюру.

Жанчына падышла да весьніц. Шагойка паўтарыў сваю просьбу. Кабета падалася ў кветнік і неўзабаве вярнулася зь вялікім букетам вяргіняў.

— А грошы мне вашыя не патрэбныя. Кветак шмат, іх не шкада. Бярыце, калі ласка, — неяк нетаропка і сьпеўна сказала жанчына ды заўсьміхалася.

Шагойка ўзяў кветкі, падзякаваў, разьвітаўся і рушыў зноў да помніка. «Трэба было, напэўна, паразмаўляць з той жанчынай, распытаць пра знаёмых», — падумаў Шагойка. Але ўжо позна. Разьвітаўся дык разьвітаўся.

Шагойка не любіў розныя цырыманіялы і ўрачыстасьці, ад іх патыхала фальшам і непатрэбным патасам. Таму ён, падышоўшы да помніка, адразу паклаў ля падножжа стэлы кветкі і, амаль не затрымліваючыся, пакрочыў у сярэдзіну тутэйшай, пераважна адміністрацыйнай, забудовы, за якой месьціўся клюб.

Каля клюбу віравала жыцьцё, стаяў сапраўдны гармідар. Перад уваходам у бу-

дынак бавіўся, чакаючы, напэўна, свайго сэансу, гурт малечы. Відаць, зь дзіцячага садку прывялі дзятву на мульцікі. Шагойка абышоў будынак з тылу, спыніўся і закурыў. Тут, усярэдзіне клюбу, і ён ведаў дзе, перахоўвалася тое, што належала яму. Але ці трэба гэта яму цяпер? І ці мела гэта сёньня хоць нейкую вартасьць? І што было з гэтым рабіць? Пытаньні адно за адным узьнікалі й зьнікалі ў сьвядомасьці без адказу. У прынцыпе, з усяго таго скарбу неабходная яму была толькі адна рэч — трафейная нямецкая асадка з залатым пяром. Яго былая галоўная прылада працы і зброя. Але ці патрэбна яна яму цяпер?

І ўсё ж ён ня мог не зайсьці ў будынак. Абмінуўшы дзіцячы гурт, Шагойка адчыніў дзьверы клюбу, зрабіў колькі крокаў і апынуўся ў фае. Некалькі жанчын, якія сядзелі тут на прыстаўленых да сьцяны драўляных крэслах, сынхронна ўзьнялі на яго вочы. Шагойка, не зважаючы на іх, прайшоўся па фае, нібыта разглядаючы партрэты актораў (выявы віселі тут па сьценах на ўсіх прыдатных месцах). Гэта былі знаёмыя твары, якія сотні разоў бачыў па тэлевізары або ў кінатэатрах. «Ну вось і канец фільму», — сказаў сам сабе Шагойка.

І ён, неяк раптам і нечакана, адчуў страшэнную стомленасьць. Нібыта рукі і ногі наліліся сьвінцом. Ён нават крыху спужаўся — усё ж мусіў сёньня даехаць да Менску.

Таропка Шагойка выйшаў на вуліцу. Дзеці па-ранейшаму бесклапотна гарэзавалі, гучна сьмеючыся і гамонячы. Зь імі была выхавацелька, зусім маладзенькая, напэўна, толькі што з вучэльні. Шагойка падышоў да яе, працягнуў дзесяцірублёвую купюру і нейкім ці то вінаватым, ці то сарамлівым голасам сказаў:

— Вось, вазьміце, калі ласка. Купіце дзецям цукерак.

Дзяўчына разгублена ўзяла грошы, хацела штосьці сказаць, але Шагойка ўжо імкліва крочыў зваротным шляхам у бок чыгуначнага вакзалу.

* * *

І тут я прыгадаў. Стаяў цёплы, шчодры жнівень. Ці ня самая мая любімая пара, калі ўжо сасьпелі некаторыя яблыкі, калі скончыліся штодзённыя прaполкі і палівы агародаў, калі яшчэ ня трэба на заняткі, калі на Брызгалаўцы самы купальны сэзон...

Гэты млявы летні час я скарыстоўваў на паглынаньне кніг. Чытаў паўсюль, дзе выпадала вольная хвіліна. У маім кейсе (падарунак бацькоў да паўналецьця) заўжды ляжала нейкая кніга. Гэтым разам я выправіўся ў Менск на паседжаньне літаб'яднаньня. З сабой меў кнігу Ўладзімера Караткевіча «Дзікае паляваньне караля Стаха», і мне не цярпелася хутчэй занурыцца ў яе зьмест.

Я стаяў на плятформе жодыньскага чыгуначнага вакзалу і чакаў электрычку. Час цягнуўся марудна, я нават дастаў кнігу зь кейса і крыху пагартаў яе. Побач са мной стаяў нейкі дзядок. У тым залатым юначым узросьце ўсе людзі, старэйшыя за 50 гадоў, здаваліся мне дзядкамі і бабулькамі. Яго вопратка, бездакорны, можна нават сказаць модны, гарнітур сталёвага колеру, сьведчыла, што наўрад ці дзядок належаў да рабочых ці сялянаў. Магчыма, нейкі ранейшы функцыянэр ці хаця б інжынэр або бухгальтар. Выгляд ён меў стомлены і, здавалася, блукаў у сваіх, адпаведных узросту, думках.

Калі падышла электрычка, мы селі зь ім у адзін вагон. Ён не накіраваўся ўглыб, а знайшоў сабе вольнае месца ля самых дзьвярэй. Але калі ў Смалявічах вызваліліся побач са мной адразу тры месцы, дзядок перасеў да мяне. Так і ехалі насупраць адзін аднаго. Я чытаў кнігу, ён глядзеў у вакно.

— Падабаецца кніга? — спытаў ён раптам у мяне.

— Падабаецца, — буркнуў я ў адказ.

— І чаму падабаецца? — Гэтае пытаньне ўжо патрабавала разгорнутага адказу.

— Ну, па-першае, пра нашую беларускую гісторыю, і ня толькі сялянскую. А па-другое, крыху тут ёсьць містыкі, а я якраз люблю штосьці такое, каб не зусім банальны рэалізм, — блытана, але з прэтэнзіяй на арыгінальнасьць патлумачыў я.

— А містыка — гэта значыць, пра нейкі іншы, паралельны сьвет? — абсалютна нечакана для мяне запытаўся дзядуля.

— Ну, напэўна, так. — Тут я ўжо разгубіўся і ня ведаў, што на гэта адказаць.

— Гэта значыць, што ты верыш, што ёсьць нейкі іншы, паралельны з намі сьвет? — гэтым пытаньнем ён наогул прыціснуў мяне да сьценкі.

— А вы як думаеце? — я вырашыў ратавацца сустрэчным пытаньнем.

— Я думаю, што ёсьць, — сказаў ён неяк задуменна, як быццам штосьці згадваючы.

— І як ён сябе праяўляе, той сьвет, у нашым жыцьці? Бо інакш цяжка сказаць, што нешта ёсьць. Вы маеце на ўвазе палтэргейсты?

— З палтэргейстамі я ня меў дачыненьня. Але ці здаралася, што ты выразна адчуваў, як цябе нехта абгаворвае?

— Здараецца, канешне.

— І ў цябе тады гараць вушы? Так?

— Так.

— І як ты можаш патлумачыць, якім чынам ты гэта адчуваў? Бо цябе могуць абгаворваць за тысячу кілямэтраў? А ты адчуваеш.

— Ну, ніколі не задумваўся. Сапраўды, тут ёсьць нейкая таямніца. А як вы гэта тлумачыце?

— Тлумачу, што ёсьць нейкая прастора думак. Такі асобны нематэрыяльны сьвет, дзе існуюць думкі і пачуцьці.

Мы замаўчалі на некалькі хвілінаў, абдумваючы вэрсію пра нематэрыяльную прастору думак.

— І вось вы, малады чалавек, уявіце, што людзі ўсе сьмяротныя, а іх думкі не паміраюць ніколі. Каб чалавецтва гэта зразумела, то было б яно значна лепшым. — Гэтай нечаканай высновай дзядуля зусім агаломшыў мяне.

Затым ён зноў памаўчаў пару хвілінаў і наступныя словы прамовіў так, нібыта казаў мне штосьці вельмі-вельмі важнае, што зьяўляецца для яго нейкай неверагоднай каштоўнасьцю, нейкім эзатэрычным адкрыцьцём, сутнасьць якога не даступная для асэнсаваньня простаму чалавеку, а вось мне ён гэта наважыўся паведаміць.

— Калі проста кепская думка, дакладней абгаворваньне, гэтак можа дзейнічаць на чалавека, то ўяві сабе, як могуць дзейнічаць на чалавецтва дзясяткі мільёнаў кепскіх думак.

Я паспрабаваў гэта ўявіць, і па маёй сьпіне пабеглі мурашкі. Мы замаўчалі ўжо на працяглы час. Мне падалося, што пасьля гэтых словаў дзядуля пачаў выглядаць яшчэ больш стомленым. Ён зноў паглыбіўся ў свае думкі, і адчувалася, што былі яны ня вельмі вясёлыя. Чытаць мне ўжо расхацелася, і я проста глядзеў у вакно.

Разьвітваючыся, дзядуля працягнуў мне далонь, паціснуў маю і, вяртаючыся да нашай ранейшай размовы, сказаў:

— Ты, напэўна, хацеў у мяне запытацца: як я жыву з такімі думкамі? Ведаеш, гэтыя думкі прыйшлі да мяне ня так даўно. Але, асэнсоўваючы сваё мінулае жыцьцё, я прыйшоў да высновы, што ня так і кепска яго пражыў. Дапамагаў людзям, многім выратаваў жыцьці. Парушаў законы? Так, парушаў. Але не здраджваў сябрам і не рабіў нічога кепскага людзям. Ня ведаю, што застанецца пасьля мяне ў прасторы думак. Спадзяюся, калі гэта мне прад'явяць на вышнім судзе, то не расчаруюся.

У Менску дзіўнага дзядулю сустракалі два мужчыны ў аднолькавых сьветлых гарнітурах. І калі я стаяў на тралейбусным прыпынку, то бачыў, як яго пасадзілі ў «Волгу» і некуды павезьлі. Што мяне зьбянтэжыла канчаткова.

* * *

— Ты зараз стаіш ці сядзіш? — замест вітаньня спытаў у мяне брат, тэлефануючы ў Полацак.

— Стаю, — з усьмешкай адказаў я, адчуваючы, што брат хоча мяне зноў разыграць.

— То прысядзь, калі ласка, — у яго голасе я пачуў ня толькі жартаўлівыя ноткі, але і сур'ёзныя.

— Сеў. Давай кажы. — Я ўжо паверыў, што брат сапраўды хоча мне паведаміць нешта важнае.

— Дык вось, знайшлі твой скарб Шагойкі, — слухаўка азвалася залівістым сьмехам.
— У сэньсе? Які скарб?
— Ну той, што ты шукаў. Пра які казаў наш бацька.
— Ану, давай па парадку. Дзе знайшлі? Хто знайшоў? І што там было?
— Знайшлі там, дзе мы з табой і шукалі. У былым зарэчанскім клюбе. У каморцы, адкуль пускалі фільмы, быў вэнтыляцыйны ход з маленькім акенцам пад стольлю. Наверсе выцягвалі пяць цаглін, што дазваляла ў тым вэнтыляцыйным ходзе нешта хаваць. Дык вось, калі будаўнікі бурылі тую сьценку, то і знайшлі армейскі заплечнік са скарбам Шагойкі.
— І што, што там было? — пачаў я падганяць брата, бо вельмі ўжо хацелася пачуць самае галоўнае.
— Што, што... макулятура. Старыя савецкія чырвонцы, нейкія чыстыя блянкі — пасьведчаньні аб нараджэньні, чыстыя дыплёмныя пасьведчаньні, розныя накладныя й фармуляры дакумэнтаў.
— І гэта ўсё?
— З рэчаў была толькі адна старая чарнільная асадка. Усё астатняе — паперкі.
— А адкуль ведаеш?
— Езьдзіў у клюб. Будаўнікі расказалі.
— І што яны з гэтым скарбам зрабілі?
— Аддалі ў міліцыю. А тыя, нібыта, усё перададуць у гарадзкі музэй. Ну як, зада-

волены? Скончыліся твае пошукі? — брат зноў зарагатаў сваім блазьнерскім сьмехам.

— А чырвонцы былі сапраўдныя? — У мяне ўсё роўна была процьма пытаньняў.

— А адкуль я ведаю. Я тых паперак увогуле ня бачыў. Што мне расказалі, я табе распавёў, — ужо без сваіх сьмяшкоў, сур'ёзна адказаў брат.

Мы разьвіталіся, дамовіўшыся, што прыеду ўвесну і ўскапаю градку бацькоўскай рыдлёўкай.

Я сядзеў перад сваім кампутарам і спрабаваў асэнсаваць пачутае. Аказваецца, усё тое, што мы ўяўлялі сабе, хутчэй нават фантазіравалі, — праўда. Іншая справа, які́м насамрэч быў Шагойка? Аб гэтым можна будзе даведацца толькі тады, калі адкрыюць архівы і стане магчымым пагартаць справу смалявіцкага Робін Гуда. Але тыя добрыя справы, пра якія ходзяць легенды, безумоўна былі. І, магчыма, ён дапамог нашай бабулі Насьце. Пра гэта мы ўжо не прачытаем у сьледчых паперах, але недзе ў прасторы думак, пачуцьцяў і добрых спраў тое дакладна зафіксавана.

І тут вельмі бадзёра зазваніў тэлефон. Я ўзяў трубку.

— Алё, я слухаю, — прамовіў звыклую фразу.

Ніхто мне на супрацьлеглым баку не адказаў. Але я выразна чуў нечае роўнае дыханьне.

*2017–2018, Беласток.*

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**Аркуш** Алесь

# СПАДЧЫНА

*Раман*

Адказны за выпуск *Алесь Аркуш*
Рэдактар *Вінцэсь Мудроў*
Камп'ютарная вёрстка *Ларысы Гарадзецкай*
Карэктар *Людміла Шчэрба*

Падпісана ў друк 05.04.2018. Фармат 84×108 $^{1}/_{32}$.
Папера афсетная.
Ул.-выд. арк. 4,33. Ум. друк. арк. 7,77.

Выдавецкая ініцыятыва «Полацкае ляда».

Printed in Poland